Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 24 (4619) 17 чэрвеня 2011 г.

**Аляксей ПЫСІН**

* * *

*На суровым*
*сваім рубяжы*
*Горад падаў*
*грымотнай сцяною.*
*З камяніц*
*паляцелі стрыжы*
*Проста ўвысь,*
*проста ў неба начное.*

*Білі ўнізе агню языкі,*
*І стагнала*
*зямля валунамі,*
*А яны паміж*
*зорак лcraн*
*Бы счарнелыя*
*маладзікі.*

*На далёкай*
*на той вышыні,*
*Дзе ні гулу,*
*ні гуку, ні кулі,*
*Птушкі сховішча*
*ў небе знайшлі,*
*На ляту птушкі*
*ў небе заснулі.*

*Сон такі*
*незвычайны — крыло*
*На струмені маўклівым,*
*як вечнасць.*
*І паветра*
*іх пругка нясло*
*Як далей ад бяды*
*чалавечай.*

*Да людзей*
*горад новы прыйшоў.*
*Толькі дзесьці*
*высока ў блакіце*
*Спяць стрыжы...*
*Не будзіце стрыжоў,*
*Душ адвеяных*
*не разбудзіце.*

# Святло Чалавека

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

**Сёння, 17 чэрвеня, спаўняецца 85 гадоў з дня нараджэння народнага артыста СССР Мікалая Яроменкі. Гэта быў яркі акцёр. Самаадданы і сумленны прафесіянал. Тонкі псіхолаг. Моцны духам, бескампрамісны, спагадлівы да чужога болю інтэлігент. Шчыры патрыёт. Чалавек, які пабываў у самым пекле незабыўнай вайны. Постаць, якая стала вызначальнай для знакавых з'яў у беларускім тэатральным мастацтве ХХ стагоддзя, ды і — шырэй — для ўсёй айчыннай культуры.**



Сапраўды гістарычная і без перабольшвання легендарная асоба Мікалая Яроменкі належыць яскраваму і драматычнаму дваццатаму стагоддзю. Зямны свет ён пакінуў летам 2000-га, і прыгожую юбілейную дату біяграфіі Мікалая Мікалаевіча — семдзесят пяць — адзначалі ўжо без яго, праз год. З таго часу ўзгадавалася новае пакаленне гледачоў, для большасці якіх імя Яроменкі-старэйшага зрабілася радком энцыклапедыі. Але ж сярод нас яшчэ нямала тых, хто памятае яго ў спектаклях, хто ведае яго кінаролі, каму пашчасціла на супрацоўніцтва альбо проста на знаёмства з ім...

Хтосьці, мабыць, прыгадае зараз яго маладым хударлявым пачаткоўцам — вучнем славутага віцебскага акцёра Цімоха Сяргейчыка, які ў пасляваенныя гады вёў студыю пры Беларускім драматычным тэатры імя Якуба Коласа. У нейчай памяці ажывуць пераканаўча ўвасобленыя Мікалаем Яроменкам на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы вобразы актуальных герояў савецкай эпохі: Міканор у "Людзях на балоце" Івана Мележа, Чубар у "Плачы перапёлкі" Івана Чыгрынава, Нікіцін у "Беразе" Юрыя Бондарава, але найперш — сыграны з неверагодным напалам акцёрскага і грамадзянскага тэмпераменту Канстанцін Заслонаў у спектаклі паводле аднайменнай п'есы Аркадзя Маўзона...

А для кагосьці самымі дарагімі застануцца першыя ўражанні ад знаёмства асабістага, якому папярэднічала завочнае знаёмства з акцёрам: праз яго ролі на сцэне і ў фільмах.

Калісьці менавіта вялікі экран прынёс Мікалаю Яроменку надзвычайную папулярнасць. Аблічча яснавокага, прыгожага беларускага артыста ведаў увесь Савецкі Саюз. Дзіва што! Наш зямляк зняўся ў самога Сяргея Герасімава. Прычым роля лейтэнанта Паўлава, галоўнага героя мастацкага фільма "Людзі і звяры" (1959), дзівосным чынам перагукалася з біяграфіяй самога выканаўцы: Мікалай Яроменка ў нейкім сэнсе пражыў на здымачнай пляцоўцы ўласны лёс...

Ён часта распавядаў пра свае інтэрнацыянальныя карані (у радаводзе былі беларусы, палякі, рускія, украінцы). Пра нялёгкае сібірскае дзяцінства. Пра хлапечую зайздрасць да старэйшых хлопцаў, якія з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны ішлі на фронт, а яго, пятнаццацігадовага, нават у войска не бралі. Тады Мікалай, апантаны памкненнем ваяваць за Радзіму, нейкім цудам здабыў даведку, дзе годам яго нараджэння быў пазначаны 1923-і. "Пасталеўшы" на тры гады, змог паступіць на курсы малодшых лейтэнантаў. Аднак і перад маладым камандзірам-кавалерыстам далёка не адразу адкрылася дарога на фронт... А потым была сапраўдная вайна. Чарада незлічоных трагічных дзён: у варожай аблозе, палоне, лагерах, у гестапаўскім астрогу, у рабскай працы на чужыне, у зняважлівым існаванні за савецкай "калючкай". Несканчоны боль пакут і невынішчальная вера ў справядлівасць, вызваленне, Перамогу.

Мікалай Яроменка цудам ацалеў у пякельным калаўроце вайны, быў адноўлены ў сваім афіцэрскім званні. Ён засвоіў галоўны ўрок: ні пры якіх акалічнасцях чалавек не мае права здраджваць сваёй духоўнай існасці, не мае права ісці на подласць, апускацца да жывёльнай лютасці — і ў невыносных умовах трэба заставацца чалавекам. Разам са сваім кінагероем лейтэнантам Паўлавым артыст і чалавек Мікалай Яроменка пераканана казаў: "Ёсць рэчы, пра якія людзі, калі яны — людзі, не маюць права забывацца да канца сваіх дзён".

Мужны, валявы твар; адкрыты, праўдзівы і ўдумлівы позірк... Рэжысёры тэатральныя, але найчасцей — кінематаграфісты эксплуатавалі выразную знешнасць гэтак званага сацыяльнага героя, (ды і ўнутраную сутнасць станоўчага чалавека, высокамаральнага грамадзяніна, лідара і змагара), якой прырода надзяліла Мікалая Яроменку. Здаецца, сама эпоха абмяжоўвала яго творчую дзейнасць менавіта такім амплуа, у якім Мікалай Мікалаевіч быў, што называецца, запатрабаваны. А насамрэч магчымасці таленту акцёра спрыялі яго арганічнаму існаванню ў ролях самага шырокага дыяпазону. Тэатралы памятаюць, як тонка падтрымліваў ён дух класічнай рускай камедыі вобразам Вышнеўскага ў "Даходным месцы" А. Астроўскага; з якім густам падбіраў нюансы для скандынаўскай "экзістэнцыі" свайго Арнхольма ў "Жанчыне з мора" Г. Ібсена; з якой сатырычнай завостранасцю, на мяжы выкрывальнага фарса, іграў чыноўніка Вяршылу ў "Мудрамеры" М. Матукоўскага...

Мы памятаем і апошнія выбітныя ролі, што ўвянчалі майстэрства Мікалая Яроменкі як сапраўдныя шэдэўры: абаяльны джэнтльмен, бліскучы красамоўца, дасціпны і крыху сентыментальны мудрэц Бернард Шоу ў пастаноўцы "Мілы хлус" Дж. Кілці мінскага тэатра-студыі кінаакцёра ды ўвасоблены на родных купалаўскіх падмостках сэр Джон у спекталі "Касцюмер" паводле Р. Харвуда. Дарэчы, "Касцюмер" стаўся тымі шчаслівымі акалічнасцямі другой паловы 1990-х, што паспрыялі вяртанню на легендарную нацыянальную сцэну аднаго з яе найстарэйшых і найпапулярных акцёраў. Вяртанню? Так. Пасля васьмігадовага вымушанага "антракту", калі ў рэпертуары не засталося спектакляў з яго ўдзелам. Дык вось, у кругабегу грамадскіх спраў (як старшыні праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання — Беларускага саюза тэатральных дзеячаў, затым прэзідэнта Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў) і знясільваючых кіназдымак Мікалай Мікалаевіч атрымаў шанц зноў адчуць сябе Артыстам. Майстар-купалавец скарыстаўся гэтым шанцам — шанцам сімвалічна-містычным у яго жыцці, — напоўніцу. Герой Мікалая Яроменкі, акцёр-трагік з англійскай правінцыі, мусіў адыграць апошнюю сваю ролю. Адчуванне блізкага фіналу вымагала шэкспіраўскага маштабу гэтага апошняга выхаду на сцэну. Шэкспіраўскага тэмпераменту. Шэкспіраўскай іроніі. Шэкспіраўскага болю. Шэкспіраўскай мудрасці. Шэкспіраўскага парадоксу...

Пры жыцці Мікалая Яроменку ніколі, здаецца, не называлі "зорным акцёрам". Але цяпер мы, сведкі яго творчага жыцця, адчуваем святло далёкай зоркі — зоркі таленту Акцёра, якая пасылае нам і яго дзівоснае чалавечае святло...

***На здымку:** народныя артысты СССР, калегі-купалаўцы Мікалай Яроменка і Генадзь Аўсяннікаў у прэм'еры 1987 года "Мудрамер" паводле аднайменнай п'есы Міколы Матукоўскага.*

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб уручэнні дзяржаўных узнагарод работнікам розных сфер за шматгадовую плённую працу і высокі прафесіяналізм. Сярод узнагароджаных акцёр Уладзімір Гасцюхін і загадчык кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Зінкевіч, якія атрымалі ордэн Францыска Скарыны. Ганаровае званне "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь" нададзена акцёрам Уладзіміру Грыцэўскаму, Анатолю Цярпіцкаму і Пятру Юрчанкову.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта па сацыяльнай падтрымцы таленавітых навучэнцаў і студэнтаў. Грашовыя прэміі атрымаў 231 навучэнец — пераможцы рэспубліканскіх конкурсаў даследчых работ, а таксама чатыры пераможцы VII Міжнароднай Жаўтыкаўскай алімпіяды па матэматыцы і фізіцы (Казахстан, 2011 год).

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Міхаіла Дзяржавіна з 75-годдзем. "Вялікі талент і акцёрскае майстэрства прынеслі вам шырокае прызнанне і заслужаную любоў гледачоў", — гаворыцца ў віншаванні.

Копыль стане цэнтрам гульні і гумару 25 чэрвеня. Тут пройдзе IV абласны фестываль "Капыльскія пацехі". Фестываль збярэ больш за 20 аматарскіх калектываў гумарыстычнай і гульнявай скіраванасці з 15 раёнаў Мінскай вобласці, а таксама індывідуальных выканаўцаў.

Рэканструкцыяй баёў на Буйніцкім полі адзначаць магіляўчане 70-годдзе абароны горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У тэатралізаваным паказе на мемарыяльным комплексе прымуць удзел каля тысячы чалавек. Удзельнікі рэканструкцыі будуць у ваеннай форме, са зброяй, якую прадаставіць "Беларусьфільм". У імітацыі ваенных дзеянняў выкарыстаюць піратэхніку, матацыклы, самалёты.

У межах ініцыяванай Міністэрствам культуры рэспубліканскай акцыі "Захаваем Навагрудскі замак разам" у Навагрудку адбыўся канцэрт беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры". Усе атрыманыя сродкі накіраваны на кансервацыю замка — гісторыка-культурнай каштоўнасці XIII—XVI стагоддзяў.

Музей Марка Шагала ў Віцебску распачаў святкаванне свайго 20-годдзя XXI Шагалаўскімі чытаннямі, на якія з'ехаліся вядомыя навукоўцы, мастацтвазнаўцы і калекцыянеры. Усяго за дваццаць гадоў у межах Шагалаўскіх чытанняў прагучала каля 200 дакладаў даследчыкаў з 12 краін свету.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

**Увага!**

**20 чэрвеня** з 11.30 да 12.30 адбудзецца "прамая лінія" з рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў прафесарам Міхаілам Рыгоравічам Баразной.

***На пытанні ён адкажа па тэлефоне 284-66-73. Задаць пытанні можна і папярэдне — па тэлефоне 284-82-04 або па электроннай пошце: lim_new@mail.ru***

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Музей адчыняе дзверы

Улад ПРЫАЗЁРНЫ

**Гомельская абласная пісьменніцкая арганізацыя нямала працуе над захаваннем памяці пра таленавітых пісьменнікаў, якія пайшлі з жыцця, але сталіся гонарам Гомельшчыны. Вынікам шматграннай працы, што праводзілася Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі сумесна з аддзелам адукацыі Жыткавіцкага райвыканкама дзеля захавання памяці пісьменніка-земляка Міколы Гамолкі, стала адкрыццё ў сярэдняй школе № 1 райцэнтра музея паэта, празаіка, грамадскага дзеяча Беларусі.**

Ва ўрачыстасці бралі ўдзел пісьменнікі, кіраўнікі раённых органаў улады, творчая інтэлігенцыя, прадстаўнікі ветэранскай арганізацыі, работнікі адукацыі і культуры раёна. Прысутнічаў таксама сын Міколы Гамолкі Васіль разам з жонкай. Васіль Мікалаевіч шчыра падзякаваў ініцыятарам стварэння музея ў тых мясцінах, якія так любіў яго бацька і куды імкнуўся ўсёй душой у цяжкія і шчаслівыя моманты жыцця.

Ад імя Саюза пісьменнікаў Беларусі выступіў член Праўлення СПБ, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Уладзімір Гаўрыловіч. Ён зрабіў невялікі экскурс у нядаўняе мінулае, калі пачынала ўзнаўляцца памяць пра Міколу Гамолку. У гонар пісьменніка ў 2003 годзе Жыткавіцкі раённы выканаўчы камітэт надаў гарадскому парку імя Міколы Гамолкі. Ініцыятыва мясцовых пісьменнікаў, творчай інтэлігенцыі далейшага працэсу ўвекавечання памяці таленавітага земляка была падтрымана райвыканкамам. І дзякуючы ажыццяўленню Дзяржаўнай праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця і комплекснага выкарыстання прыродных рэсурсаў Прыпяцкага Палесся на 2009—2015 гады было выдаткавана 300 мільёнаў рублёў на будаўнічыя мэты і стварэнне самой экспазіцыі музея. Гэта першы адкрыты ў постсавецкі час на тэрыторыі Беларусі літаратурны музей. І прыемна, што ля вытокаў гэтай справы стаяць калегі Міколы Гамолкі, пісьменнікі Гомельшчыны. Сёння музей, кіраўнік якога — настаўніца беларускай мовы і літаратуры З. Кальцова, плённа працуе. Вучні школы ўжо правялі шмат экскурсій. З дня адкрыцця тут пабывала каля трох тысяч чалавек. У межах творчага семінара музей Міколы Гамолкі нядаўна наведалі пісьменнікі і журналісты вобласці.

У пачатку наступнага года музей будзе адзначаць 90 гадоў з дня нараджэння Міколы Гамолкі. Да юбілейнай даты рыхтуецца шэраг сумесных мерапрыемстваў, сярод якіх — абласное свята паэзіі і прозы ў гонар класіка, літаратурная канферэнцыя, сустрэчы з роднымі і блізкімі таленавітага земляка.



***На здымку: музейная экспазіцыя прыцягвае ўвагу наведвальнікаў.***

# На зямлі Баяна

Дзмітрый ІВАНОЎ

**Беларускі празаік і публіцыст Уладзімір Гаўрыловіч узнагароджаны прэстыжнай Міжнароднай літаратурнай прэміяй імя старажытнарускага песнятворца Баяна. Гэтую ўзнагароду ён атрымаў на святе славянскага пісьменства і культуры "На зямлі Баяна", якое прайшло ў старажытным Трубчэўску на Бранскай зямлі.**

Уладзімір Гаўрыловіч — кіраўнік Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі — шмат увагі надае прапагандзе літаратурных дасягненняў братэрскіх славянскіх народаў, прыкладае нямала намаганняў дзеля арганізацыі творчых сустрэч паэтаў і празаікаў Беларусі, Украіны і Расіі. На Гомельшчыне па ініцыятыве пісьменніка заснавана Міжнародная літаратурная прэмія імя Кірылы Тураўскага, якой штогод узнагароджваюцца дзеячы культуры і літаратуры суседніх дзяржаў, праводзяцца святы "Славянскія літаратурныя дажынкі", выпускаецца літаратурны альманах, у якім змяшчаюцца творы пісьменнікаў з братэрскіх краін.

Прэмія Баяна, заснаваная яшчэ за савецкім часам, у 1986 годзе, Саюзам пісьменнікаў Расіі, Фондам культуры Украіны, аб'яднаннем "Белая Русь", Саветам губернатараў памежных гарадоў і абласцей Расіі, Украіны і Беларусі, прысуджаецца за творы, якія нясуць святло славянскай духоўнасці, сцвярджаюць ідэі сяброўства і братэрства славянскіх народаў. Разам з нашым земляком, міжнародную прэмію Баяна атрымалі сустаршыня Саюза пісьменнікаў Расіі празаік Мікалай Іваноў, старшыня Міжнароднага саюза пісьменнікаў і дзеячаў мастацтваў, украінскі паэт Анатоль Міроненка.

# У гонар Шамякіна і Мележа

Генадзь УЛАДЗІМІРАЎ

Гомельская абласная пісьменніцкая арганізацыя наладзіла шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных класікам беларускай літаратуры. Паводле рашэння, прынятага пісьменнікамі Гомельшчыны, гэты год абвешчаны на тэрыторыі вобласці Годам Івана Мележа і Івана Шамякіна. Сярод самых яркіх мерапрыемстваў — абласны конкурс чытальнікаў, на якім вучні агульнаадукацыйных школ, гімназій прадставілі ўрыўкі з любімых твораў пісьменнікаў-землякоў. Да 30 ліпеня пісьменніцкая арганізацыя сумесна з газетай "Гомельская праўда" праводзіць абласныя конкурсы на лепшы твор сярод маладых аўтараў і прафесіяналаў. На конкурсы прозы ў гонар Івана Мележа (апавяданні) і Івана Шамякіна (аповесці, раманы) ужо прыходзяць мастацкія творы. Вынікі падвядуць у верасні, на штогоднім літаратурным свяце, а творы пераможцаў будуць апублікаваны ў наступным годзе ў абласным альманаху "Літаратурная Гомельшчына".

## Юбілеі

# Свята «Рэспублікі»

Ірына АЛЯКСАНДРАВА

Для газеты дваццацігоддзе, як і для чалавека, — маладосць. Але, нягледзячы на свой юнацкі ўзрост, "Рэспубліка" ўжо зарэкамендавала сябе як выданне салiднае, разважлівае.

Пра "Рэспубліку" сённяшнюю, яе калектыў, поспехі і спадзяванні размаўляў з калегамі-журналістамі падчас прэс-канферэнцыі ў Доме прэсы галоўны рэдактар газеты Анатоль Лемяшонак.

У "Рэспублікі" — свой імідж. Шматпалосная паўнакаляровая газета са статусам урадавай. Трэба сказаць, што выданне актыўна ўдзельнічае ў маштабных грамадскіх акцыях, напрыклад, "Чысты дом Беларусь", "Вызваление: Перамога. Памяць. Патрыятызм", "Будзь здаровай, Беларусь!". Дарэчы, падчас апошняй журналісцкай экспедыцыі на яхце "Рэспубліка" прайшлі па Бярэзіне, Дняпры, Заходняй Дзвіне, Прыпяці, арганізуючы дзясяткі дабрачынных канцэртаў зорак беларускай эстрады і дастаўляючы гуманітарную дапамогу ў сацыяльныя ўстановы. Чытачам шырока вядомыя спецвыпускі "Рэспублікі" — "Экономическая среда", "Республика дзелавая", "Жизнь регионов", "Дороги Беларуси", "Честь и доблесть", "Экстренный вызов".

— Зрэшты, "Рэспубліка" віртуальная, мы так разумеем, павінна і будзе ўжо гады праз 2—3 значна адрозніваць ад папяровай, — запэўніў рэдактар, разважаючы пра электронную версію газеты. — Іншы, магчыма, дызайн, большая мабільнасць. Самыя аператыўныя матэрыялы, якія не паспелі выйсці ў друкаванай версіі, патрапяць у электронны варыянт. А яшчэ мы хочам стварыць аддзел, супрацоўнікі якога перакладалі б найбольш важныя артыкулы на англійскую, а можа, яшчэ і на нямецкую мовы.

Ад прысутных не схавалася, што Анатоль Лемяшонак задаволены калектывам "Рэспублікі", асабліва спецыялістамі па эканоміцы. Ён наогул лічыць, што выданні такога кшталту павінны далучаць да працы вузкіх спецыялістаў, якія ведаюць па сваёй тэме ўсё і могуць віртуозна данесці інфармацыю да аўдыторыі. А яшчэ ён упэўнены, што за чытача трэба змагацца, і з кожным годам усё актыўней. Час такі — інфармацыі шмат, чытач становіцца ўсё больш адукаваным, і гэта дае яму права на выбар інфармацыйнай крыніцы. Хто б сумняваўся! "Рэспубліка" свайго чытача не ўпусціць.

## Прэміі

# Снукер: раскрыццё існасці чалавека

Ганна АТРОШЧАНКА

Васіль Ткачоў — член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза тэатральных дзеячаў, лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў і міжнароднай прэміі "Дружба", аўтар шматлікіх кніг і п'ес. Гэта даволі вядомая асоба не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі.

Не так даўно ў Мінску выйшла чарговая кніжка пісьменніка, якой ён прыдумаў незвычайную назву: "Снукер". Васіль Ткачоў распавядае пра нашых сучаснікаў-гамяльчан. Гэтыя людзі розныя не толькі па характары, але і па звычках, так званым ідэйным узроўні. З мяккім гумарам, добрай мовай творца імкнецца раскрыць сапраўдную чалавечую існасць кожнага свайго знаёмца, з якім неаднаразова дзесьці сустракаўся, бесьпаў на літаратурных вечарынах… Хоць прозвішчы і зменены, але пры жаданні кожны можа беспамылкова вызначыць канкрэтную асобу, пра якую вядзецца аповед.

Менавіта за "Снукер" і атрымаў Васіль Ткачоў прэмію Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2011 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці.

Як прызнаўся сам пісьменнік на вечарыне, якая днямі адбылася ў ягоны гонар у цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. Герцэна, нягледзячы на нейкія чалавечыя недахопы, нюансы, ён, па-свойму, шануе сваіх герояў і заўсёды імкнецца адшукаць у іх нешта добрае і светлае. Бо кожны чалавек — індывідуум, са сваім святлом душы, адметнымі звычкамі, характарам.

Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Паўла Стаяноўскага

# Творчасць, каханне, палёт

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася чарговая літаратурная сустрэча з цыкла “Творчыя сем’і ў Доме Коласа”. На гэты раз — з вядомай сямейнай парай, Аксанай Спрынчан і Ярашам Малішэўскім. Сустрэча праходзіла пад назвай “Крылом майго кахання…” і, уласна, каханню і была прысвечана.**



Прыемна адзначыць, што літаратурныя музеі беларускай сталіцы ўжо даўно адмовіліся ад іміджу статычных, здранцвелых у сваёй мемарыяльнасці ўстаноў. Цяпер яны бачаць сваю місію не толькі ў захаванні каштоўных экспанатаў, але і ў пастаяннай асветніцкай рабоце з насельніцтвам. Клопату з падрыхтоўкай разнастайных мерапрыемстваў музейным работнікам, безумоўна, дадаецца. Але ў выніку сцежкі да музейных ганкаў не зарастаюць. І гэта — цудоўна.

Праекты бываюць удалымі і няўдалымі. Прычым гэта зусім не залежыць ад ступені абдуманасці іх арганізатарамі, толькі — ад актыўнасці ўдзельнікаў і цікавасці публікі да тэмы. Праект “Творчыя сем’і ў Доме Коласа”, безумоўна, стаў адной з удач. Канечне, дапамаглі ў гэтым госці, сярод якіх — толькі тыя, каму пашчасціла стварыць у сваім доме гармонію і ўзаемаразуменне. У музейнай гасцёўні ўжо сустракалі нашчадкаў Івана Шамякіна, славутых мастакоў Георгія і Наталлю Паплаўскіх, паэтычную сям’ю Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай…

І вось, урэшце, Аксана і Яраш. Кожны з іх паасобку ўжо зрабіў сабе адпаведнае імя. Яна — як паэтка, ён — як папулярызатар гісторыі і музыкант. Працавалі і ў суаўтарстве — напісалі кнігу для дзяцей “Незвычайная энцыклапедыя беларускіх народных інструментаў”, шэраг песень (яна — словы, ён — музыку). Аксана Спрынчан — дачка паэта і ўнучка паэта, ініцыятыўны кіраўнік Паэтычнага тэатра “Арт.С”, вясёлая калекцыянерка сувенірных жабак — была на сустрэчы шчырая, адкрытая і сапраўды прамянілася ад шчасця набытага кахання і сямейнага цяпла. Яраш Малішэўскі — удзельнік гурта “PETE-PAFF”, збіральнік унікальнай калекцыі музычных інструментаў, аўтар шэрагу цікавых публікацый пра наша мінулае — крыху адступаў у цень, дазваляючы жонцы дамінаваць. Але менавіта гэта і сведчыла пра яго сапраўдныя пачуцці.

Гучала шмат вершаў і музыкі. Людзі, якія добра ведаюць сям’ю Аксаны і Яраша, з захапленнем расказвалі пра іх творчыя і асабістыя стасункі, пра дачку Альжбэту. І думалася: як бы там нас ні пераконвалі ў тым, што творца павінен быць незразумелым і самотным, прыклад творцы шчаслівага і сямейнага — усё ж такі значна больш прываблівае. Ды яшчэ і выхоўвае. Вучыць берагчы шчасце, імкнуцца да захавання сям’і — аберагаць блізкія сваіх, раскідваючы над імі крылы кахання.

***На здымку: госць музея — Яраш Малішэўскі.***

Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Ёй апладзіруе моладзь

**Эліcо Вірсаладзэ не выступала ў нас 15 гадоў, аднак добра памятае Мінск і захавала ў сэрцы самыя цёплыя пачуцці да беларускай публікі. А публіка, што прыйшла ў Беларускую дзяржаўную філармонію на канцэрт з удзелам доўгачаканай госці, шчодрымі авацыямі аддзячыла ёй за шчырасць, высокае майстэрства, самаадданае жыццё ў мастацтве. У той вечар непараўнальная Эліcо іграла Фартэпіянны канцэрт a-moll Р. Шумана — у ансамблі з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова. Прагучала таксама Сімфонія №4 A-dur (“Італьянская”) Ф. Мендэльсона ў выкананні нашых музыкантаў.**



Займацца музыкай Эліcо Вірсаладзэ пачала ў 8 гадоў — досыць позна для навучання прафесійных піяністаў. Ніхто ў сям’і не падштурхоўваў да гэтага: дзяўчынка зрабіла свой выбар. А Настаўнікам фартэпіяна для яе стала бабуля — знакаміты педагог, прафесар Тбіліскай кансерваторыі. У 17-гадовым узросце Эліcо атрымала першую міжнародную ўзнагароду і тады ж, у 1959-м, пачала выступаць як салістка Тбіліскай філармоніі. З цягам часу ўвайшла ў сузор’е знакамітых піяністаў XX стагоддзя і да гэтага дня вядзе актыўную гастрольную, педагагічную дзейнасць, захаваўшы галоўнае: любоў да музыкі. Такой любові, на яе думку, цяпер бракуе: ва ўмовах татальнай канкурэнцыі, якая зрабілася самамэтай для краін, рэгіёнаў, школ, педагогаў, выканаўцы імкнуцца да хуткага поспеху, цешацца ранняй славай, забываючыся, што сталасць, без якой няма творчай асобы, пачынаецца пасля 26 гадоў. Нярэдка ў таленавітага чалавека любоў да музыкі выцясняецца рамяством, імкненнем паболей зарабіць. Калі ж артыст, якога пакідае ўнутраная трапятлівасць, іграе з камп’ютарнай бездакорнасцю, ды без хвалявання, ён не выкліча глыбокіх эмоцый у адказ: струна ў сэрцы слухача таксама не затрымціць. Засмучае нашу госцю і паўсюднае зніжэнне музычных густаў, і выцясненне арыгінальных выканальніцкіх інтэрпрэтацый кампіляцыямі вядомых трактовак, запазычаных праз Інтэрнэт. А радуюць захопленыя музыкай вучні. І перапоўненыя залы на ўласных канцэртах, якія збіраюць столькі моладзі, — у Анкары, Бухарэсце, у роднай Грузіі, дзе цікавасць да класікі імкліва расце і стварэнне новых аркестраў заахвочваецца.

***На здымку: мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі Яўген Бушкоў і народная артыстка Грузіі і СССР, прафесар Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі і Вышэйшай школы музыкі ў Мюнхене Эліcо Вірсаладзэ падчас прэс-канферэнцыі.***

Повязі

# Таджыкістан: дваццаць гадоў незалежнасці

**У штаб-кватэры СНД у Мінску прайшла міжнародная канферэнцыя “20 гадоў незалежнасці Рэспублікі Таджыкістан і 15 гадоў усталявання дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Таджыкістан і Рэспублікай Беларусь”.**

Мікола БЕРЛЕЖ

Арганізатары прадстаўнічага форуму — Пасольства Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь сумесна з Выканаўчым камітэтам Садружнасці Незалежных Дзяржаў, беларускім парламентам, Міністэрствам замежных спраў, Акадэміяй кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Канферэнцыя сабрала многіх асоб, зацікаўленых у развіцці беларуска-таджыкскіх адносін, пашырэнні прысутнасці Таджыкістана, таджыкскай культуры ў Беларусі. З прывітальным словам да ўдзельнікаў навукова-практычнага форуму звярнуўся першы намеснік старшыні Выканаўчага камітэта — выканаўчы сакратар СНД Уладзімір Гаркун. Удзел у шырокай размове пра сённяшні Таджыкістан узялі першы намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Ігар Петрышэнка, прарэктар Акадэміі кіравання прафесар Ігар Ганчарэнка, старшыня Эканамічнага суда СНД Файзула Абдулаеў, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Анатоль Смірноў і шмат хто яшчэ.

Гучалі на канферэнцыі і імёны таджыкскіх пісьменнікаў, чые творы ў апошнія гады былі надрукаваны ў перакладзе на беларускую мову. А гэта — Мумін Канаат, Саідалі Мамур, Фарзона, Ато Хамдам і іншыя. Вялікі ўнёсак у рэалізацыю гэтай задачы зрабілі часопіс “Полымя”, газета “Літаратура і мастацтва”. У мінскім выдавецтве “Звёзды гор” дзякуючы руплівасці Уладзіміра Лобача пабачыла свет кніга “Таджыкістан: імгненні вечнасці”. А ў Душанбэ на таджыкскай мове апошнім часам выдадзены кнігі Георгія Марчука, Міколы Мятліцкага, Юрыя Сапажкова, анталогія сучаснай беларускай літаратуры “Вячэрняе вогнішча”.

— Беларусь і Таджыкістан, — зазначыў, падсумоўваючы вынікі канферэнцыі, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь Казідаўлат Каймдодаў, — суверэнныя дзяржавы, якія сваім узаемадзеяннем у палітычных, эканамічных, культурных стасунках здольны ўзбагаціць сябе, узвысіць у многіх пачынаннях і праектах. Усе падставы на тое ёсць.



***На здымку: выступае Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь Казідаўлат Каймдодаў.***

З-пад пяра

Названы лаўрэаты літаратурнай прэміі Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі за творы, выдадзеныя ў 2008 — 2010 гадах. Прэміяй імя Івана Чыгрынава за кнігу публіцыстыкі і мастацкай прозы “Я выбіраю Бабруйск!” ўганараваны пісьменнік з горада на Бярэзіне Мікола Давідовіч; прэміі імя Аляксея Пысіна за кнігу вершаў “Гул у звоне” — магіляўчанін Віктар Кунцэвіч; прэміяй імя Васіля Хомчанкі за кнігу вершаў для дзяцей “Кветкі Багародзіцы” — паэтэса з горада Горкі Ніна Кавалёва.

**Уладзімір САСНОЎКІН**

У Мінскай бібліятэцы № 21 адбылася прэзентацыя кнігі Міхася Пазнякова “Залаты ключык духоўнасці”. Кніга, якую складаюць літаратуразнаўчыя і крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, нататкі і інтэрв’ю, выклікала цікавасць перш за ўсё ў настаўнікаў, студэнтаў і старшакласнікаў. Удзельнікаў сустрэчы цікавіла многае: як ствaралася кніга, што асабліва хвалявала аўтара пры яе напісанні, сустрэчы з якімі творцамі найбольш запомніліся. Супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі вялікую выстаўку твораў Міхася Пазнякова. Прысутныя мелі магчымасць набыць кнігі з аўтографам пісьменніка.

**Павел КУЗЬМІЧ**

У самым канцы навучальнага года ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка адбылася сустрэча выкладчыкаў і студэнтаў з сучаснымі крытыкамі айчыннай літаратуры Ірынай Шауляковай і Ладай Алейнік. Даследчыц цікавілі літаратурныя густы моладзі, а студэнты факультэта беларускай і рускай філалогіі жадалі атрымаць адказы на хвалюючыя пытанні ад дасведчаных асоб у галіне крытыкі. Падчас сустрэчы прэзентаваліся кнігі “Пясочны гадзіннік” Л. Алейнік і “Сапраўдныя хронікі Поўні” І. Шауляковай.

**Галіна СТРАЛЬЧУК**

Творчыя сустрэчы-дыскусіі з беларускімі мастакамі ў межах праекта “На шляху да сучаснасці” прапанавала мінская галерэя сучаснага мастацтва “Ў”. У абмеркаванні тэмы “Мастак і глядач: мастацтва ўзаемадзеяння” прынялі ўдзел Віктар Пятроў і Вольга Сазыкіна. У сустрэчы “Мастацтва і Рэпрэзентацыя рэальнасці” ўдзельнічалі Зоя Луцэвіч, Руслан Вашкевіч, Леанід Хобатаў. “Арт-фатаграфія ў беларускім кантэксце” прайшла з Ігарам Саўчанкам, Андрэем Лярнкевічам, Сяргеем Ждановічам. “Мастацтва і Абстрактнае: паміж рэальным і неспасцігальным” — з Сяргеем Кірушчанкам, Тамарай Сакаловай, Аляксеем Івановым і Захарам Кудзіным.

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе з прычыны смерці пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны КУЗЬМІЧОВА Анатоля Пятровіча і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім.

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю вядомага празаіка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны КУЗЬМІЧОВА Анатоля Пятровіча і выказвае спачуванні родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі, Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні галоўнаму бухгалтару Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ Хобатавай Зінаідзе Паўлаўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці МАЦІ.

**Наталля Аўдзеева, старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, напрыканцы нашай размовы, ужо калі на дыктафоне было націснута "Стоп", запытала, ці адчуваю, заўважаю я, як звычайны работнік, дзейнасць прафсаюзнай арганізацыі. У гэтым кантэксце не магла не ўзгадаць працу ў невялікім раёне. І сапраўды, узнагароды па лініі прафсаюза — у розных галінах, падарункі на юбілеі, паездкі ў тэатр… А яшчэ — падтрымка калегі ў цяжкую хвіліну... Але ў віхуры паўсядзённых клопатаў не надта звяртаеш увагу, хто гэта робіць для цябе. А вось расказ пра ўсе добрыя справы насамрэч уражвае. Сёння для вас — кропелькі таго, чым жыве Беларускі прафсаюз работнікаў культуры, які аб'ядноўвае работнікаў культуры, спорту і турызму, СМІ, — у размове з Наталляй Пятроўнай.**

# Прафсаюз талентаў

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА

— Я пачну з таго, што наш прафсаюз асаблівы. Яго часта называюць самым багатым на таленты. І я поўнасцю згодна з такім меркаваннем. А спецыфіка нашага прафсаюза ў тым, што ён шматгаліновы. Тут аб'ядналіся работнікі культуры і мастацтва, фізічнай культуры і спорту, турызму, інфармацыі…

Усяго ў нашу арганізацыю ўваходзіць больш як 111 тысяч чалавек. І мы ганарымся тым, што прафсаюз расце. Спадзяюся, гэтым перш-наперш выяўляецца давер да прафсаюзаў. Таму што калі чалавек не адчувае аддачы, ён наўрад ці аддасць кроўныя, сумленна заробленыя грошы проста якой-небудзь арганізацыі. А мы толькі за мінулы год выраслі больш як на 3 тысячы чалавек.

**— А што дапамагае дайсці да кожнага чалавека?**

— Перш за ўсё трэба акрэсліць, праз якія формы работы мы даходзім да кожнага чалавека. Гэта дамоўныя адносіны паміж прафсаюзнымі камітэтамі і наймальнікамі — так званыя калектыўныя дамовы. Гэта той дакумент, на аснове якога работнік мае пэўныя гарантыі, кампенсацыі — звыш таго, што прадугледжана Працоўным Кодэксам. Увогуле ж трэба сказаць, што ў Кодэксе больш як сто адсылак да калектыўнай дамовы. А значыць, гэта сур'ёзны і грунтоўны дакумент. І мы ставім мэту дабіцца стапрацэнтнага заключэння калектыўных дамоў у кожнай нашай пярвічнай арганізацыі. Таму што без калектыўнай дамовы жыццё больш безабароннае. Дадатковыя дні да адпачынку, усялякія кампенсацыйныя выплаты — пры нараджэнні дзіцяці, падтрымка ў бядзе, вырашэнне жыллёвых праблем… Ды і шмат іншых пазіцый можа быць адлюстравана ў калектыўнай дамове.

Каб яшчэ раз пераканаць нашых грамадзян у важнасці калектыўнай дамовы, мы ў гэтым годзе аб'явілі конкурс на лепшую калектыўную дамову. І, адпаведна, лепшыя дамовы будуць прапаноўвацца ў якасці прыкладаў, узораў. Мы будзем расказваць пра іх, паказваць, прапаноўваць для пераймання. Наймальнікі таксама павінны разумець, што калектыўныя дамовы — ім жа падмога, пэўныя гарантыі.

**— Лепшы — значыць самы выгадны для работнікаў?**

— Так, безумоўна. Але ведаеце, любая дамова — гэта кампраміснае рашэнне. Напісаць можна што заўгодна… Але калі ў наймальніка няма сродкаў, ён не пойдзе на гэта. Адсюль і дамова — трэба дамовіцца, знайсці кампраміс.

**— Якія яшчэ мерапрыемствы, магчыма, конкурсы для працаўнікоў праводзяцца?**

— Традыцыйна мы праводзім шэраг конкурсаў, арганізоўваючы іх сумесна з нашымі міністэрствамі — культуры, інфармацыі, спорту і турызму. З міністэрствам культуры, напрыклад, у нас традыцыйна праводзіцца конкурс на лепшую арганізацыю па пытаннях аховы працы. Асобна прафсаюз падводзіць вынікі конкурсу сярод усіх "нашых" галін на лепшага грамадскага інспектара па гэтых пытаннях. Праводзім таксама конкурс на лепшую работу ў пытанні эканоміі энергарэсурсаў, на лепшую арганізацыю культурна-масавай і спартыўна-аздараўленчай работы, на лепшую прафарганізацыю ўвогуле. Мы б хацелі, каб і з іншымі міністэрствамі ў нас было такое ж цеснае супрацоўніцтва. А як не ўзгадаць пра ахову працы? Гэты напрамак нашай дзейнасці, лічу, адзін з самых галоўных. Пагадзіцеся, нічога больш важнага, чым жыццё і яго абарона, няма. А таму з гэтага года па ўзгадненні з Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі мы ўвялі ў штаты абласных і Мінскага гарадскога камітэта прафсаюзаў пасаду інпектара працы.

**— Для кантролю?**

— Не толькі. Задача прафсаюза, у адрозненне ад многіх іншых органаў, заключаецца ў тым, каб навучыць, расказаць, дапамагчы. Каб нас хацелі бачыць, чакалі, а не баяліся. Няхай баяцца тыя, да каго мы ўжо прыходзілі і каго вучылі, а яны нічога не прадпрымаюць і высноў не робяць.



**— Прафсаюз — орган не кантралюючы, а, так бы мовіць, абараняючы…**

— Я ж усяго год у якасці старшыні рэспубліканскага галіновага прафсаюза. Але работа гэта для мяне не новая — у свой час я з'яўлялася старшынёй Магілёўскага абласнога камітэта прафсаюза работнікаў культуры. Пасля, калі мяне абралі дэпутатам Парламента і я працавала там на працягу двух скліканняў, адначасова з'яўлялася членам аб'яднанага прафкама дэпутатаў і сакратарыята Палаты прадстаўнікоў.

Са студэнцкіх часоў і па сённяшні дзень я заўсёды была членам прафсаюза і заўсёды паважала гэту арганізацыю. Таму што гэта не дарэмная трата часу. Я бачыла жыццё і дзейнасць прафсаюза з розных бакоў. І хачу сказаць: калі ты любіш людзей, гэта твае месца. У прафсаюзнага лідара насамрэч асаблівае становішча, што вылучае яго з шэрагу іншых лідараў. Калі мы не маем сапраўднага аўтарытэту, нас ніхто не будзе слухаць — ні кіраўнік арганізацыі, установы, ні калектыў. І, адпаведна, нас ніхто не будзе выбіраць. У гэтым, з аднаго боку, наша слабасць, а з другога — сіла. І яшчэ: калі ты нічога не разумееш у сваёй сферы, цябе не прызнаюць і не будуць паважаць.

Людзі культуры, мастацтва, журналісты, літаратары, акцёры… Гэта асаблівыя людзі з тонкай арганізацыяй душы і высокім інтэлектам. Іх трэба вельмі моцна любіць. А яшчэ трэба разумець наступнае: пры ўсёй сіле і моцы іх таленту, уздзеяння на іншых людзей, яны ў многім безабаронныя, успрымаюць мір чыста, узнёсла — нібы дзеці. А таму абараняць іх трэба нават больш, чым іншых. Я зразумела гэта, калі працавала дырэктарам і адначасова з'яўлялася мастацкім кіраўніком Магілёўскага абласнога тэатра лялек. Гэта асаблівыя людзі. І мы павінны служыць ім. Мае словы не пафас — гэта, калі хочаце, маё жыццёвае крэда.

**— Не думаю, што скажу нешта новае, калі выкажу меркаванне, што многіх членаў прафсаюза цікавіць, як, на якія мерапрыемствы накіроўваюцца прафсаюзныя грошы — нашы ўзносы.**

— Неяк, рыхтуючыся да выступлення, я прааналізавала, колькі чалавек мы (менавіта з Цэнтральнага камітэта) падтрымалі матэрыяльна за два з паловай гады. Падлічылі для прыкладу толькі бібліятэкараў. Атрымалася лічба, блізкая да сотні. І гэта нямала. Паверце, і дня не праходзіць, каб не прымалася рашэнне аб аказанні дапамогі — некага заахвоціць, некага падтрымаць у бядзе — розныя выпадкі. А колькі праводзіцца мерапрыемстваў, звязаных з юрыдычнай дапамогай, арганізацыяй культурна-масавай і спартыўна-аздараўленчай работы!

**— Ці часта звяртаюцца з раёнаў?**

— Безумоўна. І калі іх не заахвоціць, гэта будзе зусім няправільна. Таму што менавіта гэтыя людзі нярэдка працуюць на грамадскіх пачатках. Што характэрна — у нашым прафсаюзе вельмі шмат свят: Дзень беларускага пісьменства, Дзень работнікаў культуры, Дзень музеяў, Дзень друку і гэтак далей. Я ўжо не кажу пра юбілеі, як індывідуальныя, так і арганізацый. І заўсёды стараемся заахвоціць, падтрымаць тых, хто добрасумленна працуе. А што важна для людзей творчых? Каб заўважылі іх талент, ацанілі. Дарэчы, мы традыцыйна ўручаем прэміі прафсаюза сярод работнікаў культуры, мастацтва і літаратуры па дзевяці намінацыях, а ў Дзень беларускага пісьменства шчыра заахвочваем тых, хто служыць Слову.

> *"У прафсаюзнага лідара насамрэч асаблівае становішча, што вылучае яго з шэрагу іншых лідараў. Калі мы не маем сапраўднага аўтарытэту, нас ніхто не будзе слухаць — ні кіраўнік арганізацыі, установы, ні калектыў. І, адпаведна, нас ніхто не будзе выбіраць. У гэтым, з аднаго боку, наша слабасць, а з другога — сіла.*

А з наступнага года мы аб'яўляем яшчэ адзін конкурс — на лепшага ў сваёй прафесіі сярод моладзі, якая працуе ў сельскай мясцовасці. А гэта работнікі клубаў, бібліятэк, школы мастацтваў, фізрукі… Моладзь заўжды хочацца падтрымаць.

**— У асобных арганізацыях працуюць вызваленыя старшыні пярвічных прафсаюзных арганізацый. Наколькі перспектыўна ўсюды гэта ўвесці? І ці мэтазгодна?**

— Усіх, канечне, "не вызваліш". Многія, да таго ж, і самі не пагодзяцца — так яны адданыя асноўнай рабоце. Дзе больш як тысяча членаў прафсаюза, там, як правіла, пасада старшыні вызваленая. Ёсць вызваленыя і там, дзе значна менш членаў — калі самі працаўнікі так вырашылі. А работы хопіць. Тым больш на месцы не дадуць не працаваць.

**— Ці ёсць у прафсаюза справы, якія б вы аднеслі да катэгорыі "наш гонар"?**

— Ёсць справы, якія ў прафсаюза традыцыйна атрымліваюцца добра. Сумесна з нашымі міністэрствамі мы праводзім спартакіяды. Каманды прыязджаюць з усіх рэгіёнаў. Гэта тыя формы работы, якія ўжо ўсталяваліся. І яны — як вяршыня айсбергу, бо ніжэй — штодзённая работа прафкамаў на кожным узроўні. І працуюць "нашы" вельмі нядрэнна: па выніках мінулага года спартыўны клуб, які створаны сумеснымі намаганнямі Міністэрства культуры і ЦК прафсаюза, атрымаў першае месца ў катэгорыі да 100 тысяч працуючых. Да такіх жа форм, мерапрыемстваў я б аднесла арганізацыю ўсіх конкурсаў, таму што за кожным з іх — сур'ёзная арганізацыйная работа. У гэтым жа шэрагу — уручэнне прэмій.

Гаварыць "Ай, якія мы малайцы!", калі мы падтрымліваем хворае дзіця… Гэта натуральна, я лічу. І мне сорамна хваліць сябе за гэта. Проста інакш нельга. Акцыя "Прафсаюзы — дзецям" пастаянная, яе падхапілі ўсе. Дзіцячы сацыяльны прытулак у Вілейцы, напрыклад, наш. Мы там і на 1-га верасня з укамплектаванымі ранцамі, з падарункамі на дзень абароны дзяцей… Нараўлянскі раён, які пацярпеў падчас чарнобыльскай катастрофы, — таксама наш, а дакладней, увогуле Федэрацыі прафсаюзаў, падшэфны. Малайцы ці не? Так і трэба.

Адгукнуліся мы і на прапанову Міністэрства культуры падтрымаць рэканструкцыю замка ў Навагрудку. Цяпер уся Федэрацыя збірае сродкі на будаўніцтва новага будынка музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Трэба ўсім светам дапамагаць — талакой рабіць важныя і патрэбныя справы.

Без лішняй сціпласці магу сказаць, што практычна нікому, хто прыходзіць да нас, не было адмоўлена ў дапамозе. Яна не заўсёды матэрыяльная — гэта бывае і слушная парада, і падтрымка.

**— Што ў бліжэйшых планах?**

— Асновы мы напрацавалі, прынялі праграму на бліжэйшыя пяць год, зацвердзілі план рэалізацыі гэтай праграмы. Прынялі ў новай рэдакцыі Статут прафсаюза. І на гэтай базе будуем сваю дзейнасць.

Цяпер жа рыхтуемся да вельмі важнай і адказнай падзеі. Ёсць такая міжнародная арганізацыя — Кансультатыўны савет прафсаюзаў работнікаў культуры незалежных дзяржаў, штаб-кватэра яго ў Маскве. У гэты савет уваходзяць дванаццаць дзяржаў, прычым не толькі краіны СНД — прынамсі, Грузія, Літва… У мінулым годзе было прынята рашэнне аб правядзенні ў нашай краіне чарговага пасяджэння па пытаннях сацыяльнага партнёрства. І вось з 29 чэрвеня па 4 ліпеня мы сустракаем удзельнікаў мерапрыемства і працуем з імі. Наша задача — акрамя таго, што мы абмяркуем формы работы, падзелімся вопытам з сацыяльнымі партнёрамі, абмяркуем некаторыя іншыя пытанні, — пазнаёміць гасцей з Беларуссю. Адбываецца ўсё будзе ў межах міжнароднага фестывалю "Вянок дружбы", які традыцыйна праходзіць у Бабруйску. Госці змогуць пазнаёміцца з нашай культурай, наведаўшы такія знакавыя для нашай краіны аб'екты, як Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Вялікі тэатр оперы і балета і іншыя. Але ж і да нас прыедуць не з пустымі рукамі — кожны з гасцей прывязе спецыяльны зацверджаны прыз для пераможцы ці ўдзельнікаў фестывалю, а некаторыя прыедуць разам з цудоўнымі творчымі калектывамі.

А увогуле праходзіць летняя аздараўленчая кампанія, хутка — уборачная пара… Тут мы таксама не ўбаку. Мы жывём інтарэсамі дзяржавы і жыццём людзей.

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Ларысы Салодкінай

**“Тварцы Перамогі” — выстаўка, па назве сваёй вельмі блізкая па духу Беларускаму дзяржаўнаму музею гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, дзе і экспануецца. Ваенная тэма, успамін пра выпрабаванні і пакуты, якія перажыло насельніцтва, набылі тут не толькі публіцыстычнае, мастацкае, гістарычнае гучанне. І не толькі высвецілі розныя праменьчыкі святой для кожнага беларуса падзеі — Перамогі.**



# Якімі іх убачыла жанчына…

Выстаўка падкрэсліла: асэнсоўваць тое, што адбылося ўжо даўно, можа і чалавек новага тысячагоддзя, які не бачыў на свае вочы жудасных людскіх пакут. Але, маючы спачувальнае сэрца, кранальную душу, трапяткое ўменне слухаць і ўнутраным слыхам чуць, можна рэканструяваць той далёкі ад нас час. Яшчэ раз сцвердзіўшы: вайна — не неабходнасць і не непазбежнасць, яна не патрэбная пераважнай большасці з нас. Можна было б сказаць, нікому з нас, але ж войны нехта пачынае…

Выстаўка экспануецца з 18 мая і будзе працаваць па 20 чэрвеня. Яе аўтар — Ларыса Салодкіна — лаўрэат Рэспубліканскай прэміі Беларускага саюза журналістаў “Залатое пяро”. Фотамайстра прадставіла партрэты людзей старэйшага пакалення, чыё жыццё, на яе думку, стала подзвігам і легендай. А праз колькі гадоў занатаваныя на фотакарцінах імгненні жыцця ветэранаў таксама стануць гісторыяй. Прысутныя на адной з урачыстасцей шведы, дзе экспанавалася некалькі работ з выстаўкі Л. Салодкінай, убачыўшы на іх ссівелыя твары салдат Вялікай Айчыннай вайны, падняліся са сваіх крэслаў. Так і віталі стоячы адлюстраваныя на карцінах чалавечыя постаці тых самых пераможцаў, што жылі ў неспакойны, несуцяшальны і жорсткі час. Яшчэ раз убачыць іх у простых жыццёвых сцэнах, у рэаліях сённяшняга дня — значыць нанова зірнуць на, здавалася б, знаёмае: у экспазіцыі прадстаўлены работы “Салдацкая каша”, “Нашы дарагія бацькі”, “Салдат”, “На ўсё жыццё”… І з кожным здымкам уражанне ўзмацняецца і замацоўваецца: на змену ветэранам прыходзяць пакаленні наступнікаў. Таму выстаўка арганічна ўключыла ў свой маўклівы аповед і іншыя, не менш дарагія старонкі, якія паказваюць сённяшнія справы выгадаваных у пасляваенны час дзяцей і шчаслівых унукаў пакалення пераможцаў.

***На здымку: пад промнямі мірнага сонца.***

Юрый ЧАРНОЎ

## *Беларускія вёскі*

*Беларускія вёскі, беларускія вёскі,*
*Тут жывуць і сягоння вайны адгалоскі.*
*Ці ж забуду калі тую бульбу без солі?*
*Тое зрытае бомбамі мёртвае поле?*
*Сіратлівую хату за ніцай вярбою,*
*Дзе мяне напаілі калісь сырадоем?*
*А ў той вёсцы адна уцалела карова,*
*Што схавалася ў лесе, за глiністым ровам.*
*Камар'ё не заела. У больках, худая,*
*Не папала пад нож халуя-паліцая…*
*Цётка Ганна мяне малаком напаіла,*
*Правяла да гасцінца і перахрысціла.*
*Эх ты, доля ліхая, салдацкая доля:*
*Ні кала, ні двара, толькі кулі ды поле…*
*Беларускія вёскі, беларускія вёскі.*
*Дзе тырчэлі пянькі, беластволяць бярозкі.*
*Той жа лес і грудок. Перакрытая хата,*
*Толькі выбраўся, мабыць, сюды пазнавата.*
*Слова быццам стрымаў —*
*абяцаў жа з'явіцца,*
*Цётка Ганна, табе я прыйшоў пакланіцца.*
*Ціхі груд. І вярба хіліць веце пад промнем,*
*Ды аблокі плывуць над табой векапомна…*
*А за хатай, у полі, красуюцца зёлкі,*
*Хлапчукі ўсё радзей там знаходзяць асколкі.*
*Уздоўж гасцінца бягуць на Барысаў бярозкі.*
*Беларускія вёскі, беларускія вёскі.*

З рускай пераклаў
Мікола Шабовіч

# Час памяці і роздумаў

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Напярэдадні сумнага юбілею — 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны — у Беларусі праводзіцца патрыятычная акцыя “Ніхто не забыты”. Ініцыяваная Беларускім саюзам афіцэраў, Беларускім рэспубліканскім саюзам моладзі, Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыяй, ДТСААФ, Беларускім саюзам жанчын, акцыя мае на мэце патрыятычнае выхаванне моладзі краіны, перадачу наступным пакаленням несумненнай праўды пра тую вайну.**

Акцыя ўрачыста стартавала 20 мая на плошчы Перамогі ў Мінску, датай афіцыйнага яе завяршэння названа 3 ліпеня. У межах акцыі арганізатары пры ўдзеле ваенкаматаў, краязнаўчых, ваенна-гістарычных музеяў, цэнтраў патрыятычнага выхавання дзяцей і моладзі арганізоўваюць паходы па мясцінах баявой славы, праводзяць Вахты Памяці ля мемарыялаў і месцаў воінскіх пахаванняў сумесна са сведкамі ваенных падзей.

Ужо самая першая паездка, запланаваная арганізатарамі акцыі па гераічнай Пухавіцкай зямлі, дала свой плён. Піянеры і члены БРСМ былі ўражаны пабачаным і пачутым. Ды і як жа не быць уражанымі, калі першым аб'ектам маршруту стала вёска Скобраўка, дзе некалі існаваў лагер смерці для дзяцей. Лагер па заборы крыві. Выступаючы перад школьнікамі, старшыня Беларускага саюза афіцэраў, генерал-лейтэнант у адстаўцы Яўген Мікульчык прыгадаў жудасныя эпізоды свайго дзяцінства — ён таксама быў хлопчыкам з Пухавіччыны. Бацькі хавалі сваіх дзяцей, каб не патрапілі на вочы фашысцкім нелюдзям. Крыві бралі памногу, некаторыя дзеці паміралі адразу. Але і тым, хто выжываў, немцы адпускалі няшмат часу. Першы забор крыві — адразу пасля размяшчэння ў лагеры, другі — праз два тыдні, трэці — праз тры. І быў ён апошнім. На гэты раз кроў забіралі ўсю, разам з косным мозгам…

Другім прыпынкам Вандроўкі Памяці сталі Пухавічы, мемарыял, прысвечаны воінам-чырвонаармейцам і партызанам. Пабывалі школьнікі ў той дзень і на “партызанскай стаянцы”, дзе калісьці размяшчалася славутая брыгада “Полымя”. Уражанні ад удзелу ў акцыі дапоўнілі сапраўдная “салдацкая каша” і цудоўны канцэрт, падрыхтаваны самадзейнымі артыстамі, апранутымі ў ваенную форму часоў Вялікай Айчыннай.

# На вастрыі галоўнага ўдару

Ігар ВАЛАСЕВІЧ

**Часам дзіўным уяўляецца мне і лёс нашага народа, і лёс дзяржавы, што цяпер завецца вольнай і незалежнай Беларуссю. Як мы толькі не іменаваліся: і Полацкім княствам, і Вялікім Княствам Літоўскім, і Паўночна-Заходнім краем.**

Семдзесят гадоў таму, 22 чэрвеня 1941 года, на нашы гарады, і на мой родны Мінск у першую чаргу, абрынуліся тысячы бомбаў і снарадаў, загінулі мільёны людзей, згарэлі каштоўнасці, што нашы продкі стваралі стагоддзямі.

Мой бацька з гэтага дня адступаў з Беластока, які ў той час таксама быў беларускім. Датупаў аж да Мінска і тут, у Шчомысліцах, патрапіў у нямецкі палон, у лагер знішчэння, Vernichtungs Lager, які немцы стварылі на тэрыторыі цяперашняй птушкафабрыкі імя Крупскай. Ён цудам ацалеў, хоць і пражыў на свеце ўсяго толькі 53 гады.

Каб хто тады, у час адступлення, асмеліўся сказаць, што Чырвоны Сцяг будзе лунаць над Берлінам, таго б, мусіць, палічылі альбо дурным, альбо правакатарам, маглі б нават і расстраляць...

Але ж такі цуд адбыўся, з Мінска немцаў выгналі праз тры гады, а яшчэ праз год венскі бомж — Гітлер — застрэліўся: больш за ўсё на свеце ён баяўся адказваць за ўсе свае пачварныя злачынствы.

Азіраючыся на мінулае, не заўсёды асэнсоўваеш той факт, што сённяшні росквіт Беларусі — гэта Божая ласка за ўсе тыя пакуты, якія наш цярплівы і працавіты народ пераносіў не толькі ў апошнюю вайну, але на працягу ўсёй сваёй гісторыі. Мы паўтараем пра страту кожнага трэцяга свайго жыхара, пра Брэсцкую крэпасць — і гэта ўсё праўда, таму што Беларусь знаходзіцца на вастрыі галоўнага ўдару, нямецкага, французскага, шведскага і нават польскага нападаў. Але ж тут гітлераўцы былі затрыманы на цэлыя два месяцы, тут, на Дняпры, быў створаны Рэзервны фронт, дзякуючы якому ў неабсяжным Савецкім Саюзе паспелі сабраць сілы, перакінуць іх пад Маскву і адагнаць фашыстаў, нанесці ім першую паразу. Але галоўнае — упершыню збіць з іх тэўтонскую пыху. Немцы згубілі тэмп! Той тэмп, якім яны прамаршыравалі праз усю Еўропу, які яны называлі Drang, nach Ost, альбо “план Барбароса”.

Спатрэбілася яшчэ тры гады і шмат крыві, каб Чырвоная Армія пасля перамогі перайменавалася ўжо ў Савецкую і біла, як сказаў наш паэт, “гітлерцаў паганых, каб не ўскрэслі век яны!”

Сярод новых камандзіраў было і шмат беларусаў, ды якіх! Маршал Савецкага Саюза Васіль Сакалоўскі, генерал-лейтэнант авіяцыі Аляксандр Рафаловіч, ураджэнец вёскі Ракуцёўшчына, што пад Заслаўем, генерал Міхаіл Пуцейка, якога называлі “генерал Наперад!”, ды тысячы не менш слаўных герояў.

Беларусь і беларусы заўсёды былі, ёсць і будуць, як булат у агні загартоўваецца, так і наша Беларусь робіцца мацнейшаю ад перажытых выпрабаванняў.

Немцы пачалі ўваходзіць у Мінск 27 чэрвеня а 17-й гадзіне з Брэсцкай шашы па Маскоўскай вуліцы на Савецкую.

Калі Чырвоная Армія іх адсюль выгнала, дык усё іхняе начальства паспела збегчы, а якой гадзіне — ніхто не ведае, ведаюць толькі, што беглі яны аж да самага Берліна, а сярод тых, хто ставіў Чырвоны Сцяг на Рэйхстагу, быў разам з Мелітонам Кантарыя і Міхаіл Ягораў, Герой Савецкага Саюза, беларускі партызан, які хоць і нарадзіўся на Смаленшчыне, але да канца дзён лічыў Беларусь сваёю Радзімаю.

Бліскучая аперацыя “Баграціён”, у выніку якой была вызвалена Беларусь, пачалася 23 чэрвеня 1944 года. Яна таксама была пачаткам галоўнага ўдару, толькі гэта быў пачатак вызвалення Еўропы ад фашызму, ад гітлерызму, адсюль Чырвоная Армія вызваліла Літву, увайшла ва Усходнюю Прусію, імкліва, за якіх 18 дзён прайшла Польшчу і наблізілася да самой Германіі. Гэтага не чакаў ні Гітлер, ні нашыя саюзнікі. Асабліва ўражаны і незадаволены быў Чэрчыль, бо на паўднёвым флангу рускія занялі Югаславію, а ён, мусіць, думаў, што яе паднясуць яму, што англійскія войскі з Балкан пойдуць на поўнач і не пусцяць бальшавікоў у Еўропу.

А Чырвоная Армія тым часам па дамоўленасці з саюзнікамі рыхтавалася да вайны з Японіяй. Ды так падрыхтавалася, што ўшчэнт разграміла мільённую Квантунскую армію ўсяго за дзесяць дзён!

Гітлераўскі памагаты Гімлер у Мінск прыязджаў, інспектаваў канцэнтрацыйныя лагеры, а сам дайшоў толькі да Брэста, ганарліва выхваляўся перад Мусаліні сваёю перамогаю над крэпасцю. Не ведаў толькі, чым гэты авантурызм для яго скончыцца, не хацеў слухацца Бісмарка, які за паўстагоддзя перад гэтым папярэджваў: “Не хадзіце ў Расію! Ні ў якім разе не хадзіце!”

Апошнім часам з'яўляюцца і такія “знаўцы” гісторыі, што скептычна ставяцца да нашых беларускіх партызан. Кажуць, што калі Гітлер упершыню пачуў пра іх, ён ашалела закрычаў: “Што яшчэ за партызаны! Знішчыць, і каб я больш не чуў гэтага слова!” Дык да 1944 года ў Беларусі народных вояроў было ўжо больш як трыста тысяч. Існавалі цэлыя раёны, куды немцы баяліся ступіць нагою. І вельмі важным было тое, што па нашым прыкладзе з немцамі ўжо змагаліся партызаны Югаславіі, Італіі, Францыі, Грэцыі... Паўсюль, куды прыходзіў нацысцкі бот, ён сустракаў усё больш моцнае супраціўленне. Немцы вымушаны былі здымаць вялікую колькасць салдат з фронту для барацьбы з партызанамі.

Начальнікам Цэнтральнага штаба партызанскага руху (ЦШПР) быў Панцеляймон Панамарэнка, Першы сакратар ЦК КП(б)Б. У 1948 годзе Сталін забраў яго ў Маскву і планаваў зрабіць старшынёю Савета Міністраў СССР. Але пасля смерці Сталіна да ўлады прыйшоў Хрушчоў, і Панамарэнка быў адсунуты ад усіх пасад. Дарэчы, Панцеляймон Кандрацьевіч не быў беларусам, ён паходзіў з кубанскіх казакоў.

Гітлер і яго нацысты былі яшчэ і прадстаўнікамі акультных сіл. Усім ім процістаіць хрысціянская цывілізацыя.

Дзякуй богу, пакуль што намаганні гэтых цёмных сіл марныя. Дый так і будзе, пакуль мы разам, пакуль верым, пакуль трымаемся святых запаветаў.

# Чалавек і свет

**Заўважыць знікненне крытыка часам лягчэй, чым таго ж пісьменніка: раптам у галіне, якою займаўся чалавек, чуецца звонкая цішыня — ніхто не гаворыць таго, да чаго ўсе прывыклі і думалі, што гэта было дадзена ад пачатку. Пасля смерці вядомага даследчыка фантастычнай літаратуры Станіслава Саладоўнікава падобная лакуна таксама мае месца і не імкнецца пакуль што кімсьці запаўняцца. Праўда, засталіся ад майстра неапублікаваныя артыкулы, якія па сёння яшчэ працягваюць аб'яўляцца ў друку. Гэта не лебядзіныя песні — проста работы, штодзённыя, але патрэбныя. Прапануем чытачу штотыднёвіка артыкул "Чалавек і свет", прысвечаны аўтарам 12 тамам серыі беларускай фантастыкі, што пабачылі свет у выдавецтве "Харвест".**

**Аддзел крытыкі газеты «Літаратура і мастацтва»**



Малюнак Марыі Лось

Станіслаў САЛАДОЎНІКАЎ

Доўгі час у свеце панавалі дзве сілы — міфалогія (рэлігія), жрэцкая ўлада і ўлада свецкая, якая дзяліла свет па прыкмеце заваяваных тэрыторый, прыродных рэсурсаў, якая намагалася выкарыстоўваць звышчалавечыя здольнасці першай улады з палітычнымі і эканамічнымі мэтамі.

Роля жрацоў ва ўсе часы была адна — звязаць зямную матэрыяльную рэчаіснасць з іншай Рэальнасцю, дзе законы стварае не грамадства ці каста абраных, а сам Госпад Бог. Адпаведнасць жраца свайму прызначэнню вызначалася чысцінёй сэрца і малітвай.

Свецкае паступова павялічвалася, пашыралася, дапаўнялася ведамі пра ўласцівасці і якасці матэрыяльнага свету з мэтай, што стала найважнейшай, — ствараць разнастайныя віды ўзбраення. Чалавек ваяваў усю пісьмовую гісторыю. І кожнага разу на баку ваяроў выступалі і вышэйшыя сілы! У чым жа звышмэта? Фантасты прапанавалі не адзін дзясятак гіпотэз на гэтую тэму. Хоць, магчыма, процігавай вайне з'яўляюцца менавіта развагі пра яе, адмаўленне яе як ладу думак? Роздум пра прызначэнне чалавека ўзвышае душу, выводзіць людзей з зоны маніпулявання і замбіравання.Станіслаў Лем — пісьменнік, філосаф, фантаст... Хочацца назваць яго не проста геніем, а мудрацом. Гэта значыць, чалавекам не проста вельмі адораным, але тым, хто выкарыстоўвае свой розум высакародна. Дык вось, Лем, сістэматызуючы матэрыял па паэтыцы навуковай фантастыкі, прачытаў тысячы твораў і здзівіўся, як шмат у іх глупства, недарэчных тэкстаў. І ўсё ж сярод гэтага "смецця" сфарміраваўся жанр, які мае свае адгалінаванні: фантастыка — фэнтэзі. Займальна прааналізаваць тэмы, што цікавяць пісьменнікаў розных краін. Здавалася б, высокі ўзровень навуковага прагрэсу, тэхнічных дасягненняў павінен стымуляваць развіццё навуковай фантастыкі. І наадварот, у краінах, дзе задача харчавання застаецца першачарговай, "касмічныя адысеі" відавочна не з'явяцца.

І вось 12 тамоў беларускай фантастыкі, што выпусціла выдавецтва "Харвест". Прычым не па адным томе, а агулам. Зразумела, глеба рыхтавалася загадзя. Былі выдадзены зборнікі "Люстэрка сусвету", "У зеніце Антарэс", асобныя творы беларускіх фантастаў выходзілі і ў Мінску, і ў Маскве. Але 12 тамоў — гэта, у любым выпадку, з'ява, падзея, якая вымагае пільнага аналізу.

Развіты ў нацыянальнай літаратуры жанр навуковай фантастыкі, а разам з ёй і фэнтэзі, уводзіць нацыянальную літаратуру ў сям'ю сусветных літаратур. У 12-томніку відавочна назіраецца агульнасць поглядаў адказнага за гэты збор У. Кулічэнкі і пісьменнікаў А. Сілецкага і С. Цэханоўскага: яны ў сваіх творах прытрымліваюцца філасофскага пачатку.

Разважанні пра чалавека лагічна прыводзяць да ідэй аб удасканальванні ягонай натуры, узмацненні станоўчых рыс і нейтралізацыі адмоўных. Такія БІКСЫ (бія-кібер-сапіенсы) у рамане А. Сілецкага "Дзеці, што гуляюць у хованкі на траве" — новая раса, створаная для таго, каб разгрузіць стомленага ад працы чалавека. Чалавек сканструяваў больш дасканалую істоту, але дастаткова хутка разумее, што стварыў сабе саперніка па эвалюцыі. Сапернік прыбірае з поля старое, непатрэбнае, адпрацаванае, пераводзіць яго да ролі хатняй цацкі, змяшчае ў рэзервацыі. Біксы ідуць сваім шляхам развіцця. Яны пакінулі Зямлю, засталіся толькі тыя, чыя біялогія дазволіла мець дзяцей ад людзей... На адной з планет біксы селяцца на балоце, пускаюць там карані, ператвараюцца ў дрэвы, на якіх вырастаюць дзіўныя крышталі, што выкарыстоўваюцца ў прамысловасці.

На гэтым фоне сюжэт робіць цікавы паварот. Біксы не тое каб адыходзяць на другі план, а становяцца часткай быцця. Яны стварылі свае цяжкасці — жыццёвыя і маральныя, сацыяльныя і навукова-тэхнічныя.

Раман А. Сілецкага, прысвечаны маральным, біялагічным, культуралагічным праблемам, цікавы ў першую чаргу менавіта як раман-роздум, твор, які выклікае спрэчкі і дыскусіі.

Што датычыць магчымага папроку аўтару ў шматслоўнасці, што праяўляецца ў разважаннях пра біксаў, то варта ўзгадаць старонкі з рамана "Браты Карамазавы" Дастаеўскага, прысвечаныя спрэчкам пра судовую рэформу ў Расіі 60—70-х гг. XIX ст. Актуальная тады тэма ў нашыя дні многім падаецца нуднай і не вартай увагі.

І вось наступная тэма, тэма андрагінаў ва У. Кулічэнкі. Уявіце: дзве паловы магнетычна прыцягваюцца адна да адной. Але калі адна палова апынаецца на "тым свеце", то яна прыходзіць у "гэты свет" за другой сваёй паловай. Трэба прызнаць, гіпотэза лагічная, але страшнаватая. Гэта знешнія падзеі рамана "Клуб горада N". Праблемы ж, што хвалююць галоўнага героя, хвалююць і нас. Гэта праблемы сапраўднай свабоды, ролі чалавека ў сусвеце, суаднесенасці духоўнага і матэрыяльнага пачаткаў у чалавеку. Героі задумваюцца над пытаннем: "Кто и зачем наградил человека… способностью страдать, мучиться?".

Адказы ж даюцца той глыбіннапаважлівай мовай, да якой мы прызвычаіліся праз класікаў: "…суть человеческих страданий в несовместимости материального и духовного, низменного и возвышенного. Материя отторгает бестелесное в той же степени, в какой душа стремится избавиться от оков тела" ці "…человечество не есть устоявшаяся форма слияния духа и материи, и среди нас можно повстречать образчики как более совершенные, так и менее. Другими словами, не все мы в равной степени люди…"

Якія высновы! І малады пісьменнік усведамляе, што даўно надышоў час называць рэчы сваімі імёнамі (дзеянне ў рамане разгортваецца напярэдадні Першай сусветнай вайны і закранае самы яе пачатак).

Нібыта на гэтыя думкі героям У. Кулічэнкі адгукаецца герой рамана С. Цэханоўскага "Скажэнне", які не разумее сутнасці нормаў таго свету, куды ён патрапіў, і намагаецца вырашыць дылему "…либо внешний мир не соответствовал укоренившимся представлениям, либо субъективное восприятие реальности начинает доминировать над самой реальностью".

Недасканаласць упарадкаванага чалавекам свету малюецца і ў творах Я. Дразда. Напрыклад, у апавяданні "Бескарыснае — бясплатна" аўтар закранае праблему далучэння еўрапейцамі тубыльцаў да сучаснай цывілізацыі, спакваля паказвае, што сам еўрапеец даўно вядзе, скажам так, умоўнае існаванне: ён праводзіць свой унікальны сацыяльны эксперымент, які з'яўляецца "огромнейшим полем деятельности для социологов, психологов, педагогов. Одних только диссертаций сотни ИСПЕЧЬ можно".

Фантастычнае ў гэтых апавяданнях, як у сапраўдным класічным творы, з'яўляецца прыёмам мастацкага выяўлення рэчаіснасці. Вось у руках аднаго з такіх умоўна існуючых з'яўляецца камера з гіпнавыпраменьвальнікам, накіраваная на спяваючага тубыльца. Эпізод зняты, і тубылец начыста забываецца пра тую песню, што спяваў, не перадасць ён цяпер яе ні сваім нашчадкам, ні публіцы, і танец не станчыць, і паданні не ўзгадаюцца больш ніколі.

Сітуацыя настолькі сучасная, што з цяперашняга нашага існавання, як чорт з табакеркі, адразу выскоквае яе доказ: скарачэнне гадзін на выкладанне моў, літаратуры, скасаванне (тут і Салтыкова-Шчадрына ўзгадаць не грэх) сусветнай мастацкай культуры з практыкі выкладання. Толькі стварылі для дзіцяці належнае, як адразу ж спахапіліся: а раптам ён разаўецца звыш патрэбнай нормы?

Невялікае апавяданне так распальвае пачуцці, што калі напрыканцы яго малюецца сцэна расплаты, дыхаеш з мсціўцамі адзіным подыхам. У тубыльцаў адбіралі душу, не маючы ўяўлення пра тое, што бяссільныя заглушыць памяць пра духоўныя напрацоўкі шматлікіх пакаленняў, што памяць гэтая прачынаецца і праз дзясяткі гадоў.

Сёння, у век "экшн", прыпавесць становіцца толькі "прынадай" для разгортвання займальнага прыгодніцкага дзеяння. Але да якіх бы галактык ні выпраўляў аўтар сваіх герояў, галоўнай адметнай асаблівасцю з'яўляецца тое, што, спасцігаючы іншы свет, чалавек незлічоную колькасць разоў падмануты сваім уласным мысленнем, ці, як распавядае адна прыпавесць, "застаецца закручаным, як сабачы хвост".

"Век Вадалея" А. Аляшкевіча прысвечаны тэме даследавання незнаёмых планет. Сакст аказваецца агромністай субстанцыяй, прызначэнне якой — ахоўваць у Сусвеце жыццё. Разуменне гэтага прыходзіць да астранаўтаў пасля перажытага страху быць вынішчанымі, пасля таго, як чалавечыя дасягненні ў тэхніцы аказваюцца бяссільнымі перад загадкавым артэфактам. І, нарэшце, пасля таго, як на зразумелай нам мове піянерам-зямлянам патлумачылі, паказалі, што адбываецца навокал.

Пры кантакце з невядомым у чалавечым мозгу спрацоўваюць два варыянты: сябра — вораг, дапаможа — нападзе, можна выкарыстоўваць — нельга выкарыстоўваць. Магчыма, менавіта з бінарнасці вырастае пачуццё ўласнасці: маё — не маё — хачу, каб стала маім. Для захавання ўласнасці чалавечы мозг прымудраецца блакіраваць, нават скажаць законы Прыроды. Гэткія гіпнатычныя методыкі ўжываюцца на планеце Агропаліс у рамане "Дзікія кошкі Барсума" Г. Аўласенкі. Сюжэт займальны і, магчыма, філасофскі падтэкст будзе ўспрыняты не ўсімі. Сеанс у гіпнафатэлі заканчваецца для жанчын, прывезеных на Агропаліс у якасці "рабочих жён", стратай памяці. "Мужы" не цікавяцца, адкуль яны паходзяць, як трапілі на гэтую планету. Гэта забароненыя пытанні. Імёны таксама змененыя ФІРМАЙ. Фантастыка? А ў штодзённым жыцці ці не гатовыя мы пайсці вельмі далёка ў кампрамісах з "ФІРМАЙ" толькі для таго, каб захаваць свой кавалак уласнасці?

У выніку "мужчынская" сістэма Агропаліса пераможаная больш дасканалай у баявым плане жаночай сістэмай Барсум. Але… перамагае любоў паміж прадстаўнікамі дзвюх планет. Як правіла, пасля разбуральных войн, катаклізмаў чалавек змякчаецца. Выяўляецца, што захаванае жыццё даражэйшае за ўладу і грошы. Але перамір'е з самім сабой цягнецца нядоўга. Ужо наступнае пакаленне пачне ўсё наноў. Магчыма, таму чалавечая фантазія ўскладае такія надзеі на звышсутнасці, прадстаўнікоў іншых цывілізацый, свайго кшталту "варагаў", якія прынясуць МІР у гэты СВЕТ.

Кранальна каротка гэтая надзея выкладзеная ў маленькім апавяданні Алены Конышавай "Дзень нараджэння Месяца". "Апокалипсис уже идёт, а Армагеддон приближается", — кажа апошняя прадстаўніца месячнага чалавецтва Таніта. Часу ўжо няма, але выратавацца яшчэ можна. Вось толькі чалавек павінен вырашыць, што ён будзе ратаваць. І ад значнасці гэтага грузу залежыць, ці пагодзяцца вышэйшыя сілы ўзяць яго ў каўчэг.

Апавяданні М. Дзеравянкі надаюць 12-томніку здаровы, бадзёры аптымістычны пачатак, нягледзячы на тое, што ніякага абялення чалавецтва ў іх няма, хутчэй наадварот, мы чуем сарказм і прысутнічаем на судзе: чалавецтва ужо "дважды два на ЭВМ считает", "Людям ещё рано покидать свою космическую клетку", "… разумные существа не имеют права менять природу". Аўтар паказвае героя, які легкадумна сцвярджае: "нет, за комфорт космических лайнеров я с радостью отдам всю девственность земных лесов", а напрыканцы апавядання, пасля таго, як героя запалохалі перасяленнем на Месяц, ён ужо знаходзіць радзіму: "…Но вот снова запел жаворонок, едва слышно зашелестела луговая трава. Мне открывался неведомый чудесный мир. Нет, я остаюсь".

Вядома, стракаты калейдаскоп твораў зборніка не пазбаўлены хібаў. Цяжка ўявіць, каб падвешаная да сука дуба адсечаная галава, вакол якой раіліся мухі, мела пах палёнага. Таксама цяжка ўявіць, каб падчас камняпаду, калі на човен нясуцца шматпудовыя глыбы, адзін з плывучых кінуўся да іншага, каб пагладзець, як яго "царапнул по плечу" каменьчык. Нехта не ведае, што чабор і багародзіцкая ("багародская" — лепш!) трава — гэта адна і тая ж расліна. Але ўсё гэта дробязі, дробязі, дробязі. Галоўнае, што аўтарам дарагі свет зямны ў велізарным мностве сваіх праяў, што яны прадумваюць этычныя праблемы выхаду чалавека за межы гэтага свету, што пераважае, не, пануе ў зборніку герой з чалавечым тварам, які пакутуе, шукае, кахае, ставіць перад сабой зямныя і сусветнага маштабу пытанні, не рвач, не цынік, не нікчэмнасць, а той, хто хоча ўдзельнічаць у вырашэнні лёсаў свету, хто не хоча хадзіць па шматлікіх пратаптаных недалёкім чалавекам сцежках, але ўжо верыць, што з тымі ведамі і адчуваннямі, якія назапасіў чалавек, можна ісці па выверaных часам шляхах. І гэта — сучасная фантастыка.

# «Я жадаю цішыні…»

Пятро КАМКОЎ

*Мы ўсе — паэты*
*ў свеце гэтым,*
*Калі сябе лічыць*
*Сусветам,*
*Калі глядзець*
*на белы свет*
*Праз свой маленечкі сусвет*
*І пакідаць ад думак след.*

Менавіта так вызначыў месца і прызначэнне паэта ў грамадстве Віктар Кунцэвіч у чарговай кнізе паэзіі "Гул у звоне", якая выйшла нядаўна ў Магілёўскай абласной друкарні імя Спірыдона Собаля. І няхай гэта — "маленечкі сусвет", але творца змог аддаць чытачам часцінку сваёй шчырай і адкрытай паэзіі і душы.

Кніга складаецца з трох раздзелаў: "Ачышчэнне", "Дажджынкі па шкле", "Разумею завею", у якіх аўтар не толькі разважае пра асабісты лёс, а яшчэ па-філасофску асэнсоўвае ролю чалавека на гэтым свеце, яго адказнасць за стан усяго жывога на зямлі. Тэматыка вершаў вельмі разнастайная. Тут можна сустрэць, напрыклад, творы, у якіх гучыць тэма Чарнобыля. "Чарнобыль — вялікі склад




болю", — сцвярджае паэт у вершы "Склады". І тут жа задае пытанне ўсім нам: "Ды хто гаспадар гэтых складаў?"

У сваіх вершах В. Кунцэвіч звяртаецца і да тэмы мінулага беларускага народа. Яго непакояць многія моманты жыцця, пра якія доўгі час маўчалі, або калі гаварылі, то даволі паверхоўна і замаскіравана. Цікавым у гэтым плане з'яўляецца верш "Апошні ліст рэпрэсіраванага". У аўтара свой падыход, сваё бачанне аднаго са складаных перыядаў нашай гісторыі.

*Пра тое,*
*як груган праклятым*
*Нявечыў, мучыў, забіваў,*
*Як вір халодны*
*ў Курапатах*
*Спакой пакутнікам даваў…*

Гэтая тэма гучыць і ў вершы "Лёс паэта", які прысвечаны памяці Цішкі Гартнага.

Па творах паэта адчуваецца, што яны народжаны неабыякавай душой. Вельмі цяжка "прачуць" тыя даўнія часы, у якія жылі героі твораў паэта. Аднак ён піша не столькі пра час, колькі пра асобу. Таленавіта передае настрой, думкі, глыбокую заклапочанасць пра лёс Радзімы.

Паэт увесь час у пошуку. Трэба адзначыць, што вобразы ў яго — светлыя. Прысутнасць песімізму мяжуе з аптымізмам, што дае новы штуршок для адчування красы. Яго жыццесвярджальныя вершы ствараюць атмасферу разумення паміж Аўтарам і Чытачом ("А сёння сонца на далонях", "Дождж", "Узрост Хрыста" і інш.).

Дапытлівы чытач адразу заўважыць тугу паэта. Каханне. Пра мінулае, аднак памятнае:

*Муж сабакам сена косіць,*
*Пасівела да ўсяго,*
*А ваду і сёння носіш*
*Ты з калодзежа таго.*

чытач адразу адчувае, што былога кахання ўжо няма, але засталося тое, што перадаць словамі часам амаль немагчыма. У вершах відаць вялікая павага і любоў да Яе Міласці Жанчыны: ("Я яе пабачыў…", "Мяне апякае сэрца горыч…", "Аповед закаханага").

Раздзел "Разумею завею" напоўнены вершамі пра прыроду, яе няспынны рух. Чалавек — неадрыўная частка навакольнага свету. Тым больш паэт, які ў кожным дотыку ветрыку, чырвані рабін, пажоўклым лісці, ва ўсім будзённым бачыць сваё, таямнічае.

# Глыток горнага паветра

Алесь МАРЦІНОВІЧ

Чаргаві ў перакладзе на беларускую мову гучыць як "чатыры крокі". Не мудрагелячы, "Чатыры крокі" назваў сваю новую паэтычную кнігу і Ганад Чарказян. Туды ўвайшло ажно 441 (магчыма, я ў падліку памыліўся, то прашу прабачэння) чатырохрадкоўе. Вядома, не колькасцю адзінай жыве чалавек. Але, як без хлеба надзённага не абысціся, прынамсі, калі пішаш вершы, так і колькасць у паэзіі рэч ухвальная, калі гэта не ідзе на шкоду якасці. "Чатыры крокі" пацвярджаюць правільнасць падобнай думкі.

За рэдкім выключэннем чаргаві Г. Чарказяна — гэта паэзія высокага кшталту. А яшчэ, як таго вымагае жанр, і вялікай філасофскай напоўненасці, чаго, пагадзіцеся, дабіцца пры такой лаканічнасці — чатыры радкі, чатыры крокі — не так і проста. Г. Чарказян жа гэтага лёгка дамагаецца. Прычына, бадай, не толькі ў таленце, а і ў тым, што ён, як вядома, ураджэнец тых зямель, дзе здаўна надта цэніцца народная мудрасць. Яна ж, мудрасць гэтая, арганічна і напоўніла чаргаві — як дождж жывіць горныя рэкі.

Мікола Мятліцкі, які пераклаў творы Г. Чарказяна на беларускую мову, у невялікай прадмоўцы "Паэзія горных вяршынь" згадвае "цэлае сузор'е імён знакамітых каўказскіх паэтаў. Гэта і грузін Галакціён Табідзэ, і азербайджанец Самед Вургун, і армянін Геворк Эмін, і балканец Кайсын Куліеў, і аварац Расул Гамзатаў..."

Я, праўда, далёкі ад думкі шукаць месца ў гэтым сузор'і Г. Чарказяну. Па той простай прычыне, што кожная яркая зорка здатна завабліваць сваім уласным святлом. Той жа, хто любіць творчасць




Г. Чарказяна, неаднаразова мог пераканацца, што ягоная зорка на небасхіле беларускай паэзіі даўно заняла сваё годнае месца. Не ў апошнюю чаргу — дзякуючы чаргаві.

Асобныя з ягоных твораў так і просяцца ў ёмісты том... Калі памяць не падвяла мяне, ён называецца "Мудрасць тысячагоддзяў". У кнізе гэтай сабраны афарыстычныя ці проста трапныя выказванні. Да месца ў кнізе "Мудрасць тысячагоддзяў" было б, для прыкладу, такое чатырохрадкоўе Г. Чарказяна:

*Звычка даўняя*
*ёсць адна —*
*Скінь ля крыніцы*
*абутак спярша.*
*І стане крыніца*
*светлай да дна,*
*Як і твая*
*ў гэты міг душа.*

Было б не лішнім і гэтае чаргаві:

*Праз змрочны туман*
*дасвецця*
*Сонца промні*
*шпурляе жменяй.*
*Прыбывае святлыні ў свеце,*
*А ў душы яе —*
*меней і меней.*

У чатырохрадкоўях Г. Чарказяна прысутнічае мудрасць, калі можна так сказаць, спластаваная, пераствораная ў згустак думкі, што нясе ў сабе нейкае важнае і важкае выказванне. З'яўляючыся, безумоўна, словам самога паэта, яна разам з тым успрымаецца і як падагульненне жыццёвых назіранняў.

Аднак у Г. Чарказяна ёсць і чаргаві, у якіх прысутнасць аўтара асабліва навідавоку. Правільней — ягонага лірычнага героя, які ў дадзеным выпадку з'яўляецца і ўспрымаецца аднадумцам паэта. У такіх творах найбольш адчувальна асобнае, але яно блізкае, зразумелае кожнаму, у каго збалелая душа. Бо шмат з таго, што робіцца ў жыцці, дзеецца зусім не так, як мусіць. Чалавек забывае пра тое, што ён не толькі спажывец, а яшчэ і мае адказнасць за ўсё жывое. Толькі пры гарманічным суадносенні гэтых двух пачаткаў можна разлічваць на будучыню чалавецтва. Інакш адбудзецца самае страшнае, незваротнае. Падобныя думкі нараджае, скажам, наступнае чатырохрадкоўе:

*Вырубка лесу —*
*сполах і шум,*
*З голля гняздоўе*
*зорыць пустое.*
*Зноў пад соснамі*
*смутак нашу,*
*Быццам раптоўна*
*стаў сіратою.*

Думкам цесна, а высновам важка і ў гэтым чаргаві:

*Люблю ганчарскі*
*занятак шчыры, —*
*Збан кожны далучан*
*да продкаў славы.*
*А над зямлёй —*
*азонавыя дзіры,*
*Планета наша —*
*як збан дзіравы.*

Паэт і гэтым разам адштурхоўваецца ад свайго, асабістага. І адразу ж (дый як іначай, гэта ж чатырохрадкоўе ёсць чатырохрадкоўе) пераходзіць да праблемы глабальнай. Гэты "збан дзіравы" таксама нагадвае: чалавек, адумайся! Няўжо не разумееш, што можа знікнуць усё, чым захапляемся?! І ўсе, хто нам дораг.

Таму і трэба даражыць кожным імгненнем. І радавацца таму чалавеку, які дарагі табе і блізкі:

*Пасміхніся,*
*жонка мая, і даруй.*
*Сон, дачушка,*
*змахні рукой.*
*Прычакаем ўтраіх мы*
*дасвеццяя зару*
*Над унучкай —*
*балесна-малой.*

Кніга Г. Чарказяна "Чатыры крокі" — як глыток чыстага горнага паветра. Удыхаеш яго на поўныя грудзі і ніяк не можаш надыхацца. Адначасова з'яўляецца нейкая свежасць у думках, калі шмат што пачынаеш успрымаць зусім інакш, чым дагэтуль. Міжволі як бы філасафам становішся. Ужо клопатна табе не толькі ад свайго асабістага. Разважаеш і задумваешся і пра месца іншых людзей на гэтай агромністай і разам з тым вельмі маленькай планеце.

Такія пачуцці перажываеш, калі знаёмішся з новай кнігай паэзіі Г. Чарказяна "Чатыры крокі". Разам з ім робіш крокі ад асабістага да агульнага, ад паўсядзённага да вечнага. Нават не чатыры крокі, а куды болей. Ды не ў колькасці сутнасць. Існасць у тым, што напачатку іх, гэтых крокаў, было толькі чатыры. Паэт, прапанаваўшы свае новыя чаргаві (той, хто ўважліва сочыць за творчасцю Г. Чарказяна, ведае, што гэта не першы ягоны зварот да гэтага жанру), запрасіў свайго чытача ў суразмоўцы. У тым і заключаецца сапраўдная паэзія. Пазнаёмцеся з новай кнігай Г. Чарказяна, і вы ў гэтым упэўніцеся.



# Ён быў мысляром і фантазёрам

На пачатку чэрвеня пайшоў з жыцця вядомы беларускі пісьменнік Павел Місько — аўтар такіх яркіх і надзвычай чытэльных нашымі школьнікамі кніг, як "Грот Афаліны" і "Прыгоды Бульбобая"… Перадусім згадваю гэтыя кнігі, якія амаль адразу сталі класікай айчыннай літаратуры для дзяцей. Яны чыталіся, перавыдаваліся, а сам пісьменнік нейк вельмі сціпла стаяў удалі іх убаку, нібыта зводдаль назіраючы за гэтай папулярнасцю.

Так… Павел Андрэевіч быў вельмі сціплым чалавекам. Ва ўсялякім выпадку, я не памятаю нейкага гучнага інтэрв'ю з ім, хоць для гэтага былі ўсе падставы — ён адзін з нямногіх пісьменнікаў, чые творы карысталіся нязменным попытам у маленькіх чытачоў.

Павел Місько ўмеў пісаць ярка і глыбока. А яшчэ ўмеў здзіўляць нечаканасцямі ў сваёй творчасці. Як і многія пісьменнікі, ён пачынаў з журналістыкі, на пачатку сямідзясятых нам разам давялося працаваць у рэдакцыі "ЛіМа", дзе ён тады ўзначальваў аддзел нарыса. Потым перайшоў у выдавецтва "Мастацкая літаратура" і вельмі гучна заявіў пра сябе як празаік, як творца па-філасофску ўдумлівы і арыгінальны, што і праявілася ў яго рамане "Мора Герадота". Менавіта гэты твор прынёс пісьменніку заслужаную вядомасць і назаўжды прапісаў яго ў плыні сапраўднай, сур'ёзнай і вялікай літаратуры. І хоць у яго не было такой шырокай славы, як, скажам, у Васіля Быкава ці Уладзіміра Караткевіча, ён, безумоўна ж, быў Асобай, што вельмі годна ўпісвалася ў пару росквіту ўсяго нашага прыгожага пісьменства.

І ішчэ адна нечаканасць, якую асабіста я ўспрымала як нейкі ўнутраны выклік, што сур'ёзная літаратура пачала выпадаць з жыцця, а яе месца займалі забаўляльныя шоу. Гэта ўжо былі дзевяностыя гады, і многім, напэўна, давялося бачыць у падземных пераходах Чалавека ў сіняй берэтцы, які прадаваў па-мастацку выплеценыя кошыкі, тая самыя традыцыйна-беларускія кашы. Гэтым Чалавекам быў Павел Місько. Не ведаю, як шоў такі дзіўны бізнес, але я вельмі шкадую, што не набыла тады адзін з тых кошыкаў, хай сабе і ў якасці сувеніра ад Чалавека, які быў, ёсць і цяпер ужо назаўжды будзе заставацца ў гісторыі нашай літаратуры, а ў маёй памяці яшчэ і такім нязвыклым успамінам…

Павел Місько застанецца ў часе не толькі сваімі творамі, а яшчэ і як Чалавек, які святлом сваіх думак і памкненняў змагаўся з цёмным бокам жыцця (аповесць "Зялёныя змеі"), а харством душы прыўнёсу ў жыццё тыя непасрэднасць і светлыню, якія і дарыў дзецям у сваіх кнігах, думаючы пра тых, хто будзе ствараць і будаваць сваю Беларусь пасля нас, сённяшніх, заўтра.

Раіса БАРАВІКОВА

# Знаёмцеся: Валерый Хіхіч



Валерый Хіхіч

Аўтару гэтых вершаваных радкоў Валерыю Хіхічу пашанцавала: ён нарадзіўся на Мядзельшчыне, у тым кутку беларускай зямлі, пра які пясняр нарачанскага краю, народны паэт Беларусі Максім Танк з гонарам і любасцю пісаў: "Ёсць куток на зямлі: дзень адзін пражывеш — назаўсёды цябе зачаруе..." І хто ведае, магчыма, гэтая спадчынная блізкасць да славутых мясцін яшчэ ў школьныя гады абудзіла ў Валерыя Хіхіча любоў і замілаванасць да роднага слова, прынесла таемнасць сустрэчы з "госцяй нябеснай" — паэтычнай творчасцю. Але ж, як гэта нярэдка здараецца і як прызнаецца сам аўтар, па-сапраўднаму "верш прачнуўся праз гады". Калі ён, дыпламаваны філолаг, змушаны быў падацца ў будаўнікі. Цяпер жыве і працуе ў Маладзечне.

Для болей поўнага знаёмства з аўтарам дадам яшчэ адзін неад'емны факт з яго прыпозненай творчай біяграфіі: у апошнія гады ўбачылі свет дзве паэтычныя кніжкі Валерыя Хіхіча — "Жураўліны клін" і "Цеплыня ўспамінаў".

Цёплых сустрэч яму з чытачамі!

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## Несуцешнасць

*Неяк несуцешна,*
*Як на рану соль,*
*Разышліся сцежкі,*
*Несцярпімы боль.*

*Стаў прытулкам горад,*
*Стаў маім жыццём.*
*Адзіноты голад*
*Рэзаў, як асцём.*

*Ад чужых мне вокан*
*Ліўся гэткі ж свет і спеў.*
*Мітуснёй навокал*
*Горад не сагрэў.*

*Колькі не даказана*
*Самых любых слоў.*
*Колькі не разгадана*
*Самых мілых сноў.*

*І спявалі рыфмы*
*Жалямі журбы,*
*І ляцелі пісьмы,*
*Нібы журавы.*

*Сем лістоў у тыдзень.*
*Столькі ж у адказ.*
*Але час, як злыдзень,*
*Перайначыў нас.*

*Стаў чамусь прыходзіць*
*Паштальён радзей.*
*Як па нейкай згодзе,*
*Пісьмы карацей.*

*Не было папрокаў.*
*Не было хлусні.*
*І загаслі ў змроку*
*Залатыя дні.*

*Страты ў твар заложаны*
*Сеткаю маршчын.*
*Казкаю прыгожаю*
*Промень-успамін.*

## Нязбыўная мара

*Колькі суму і болю ў прыгожых вачах,*
*А я іх цалаваў бы бясконца.*
*Нібы цяжкая ноша на кволых плячах,*
*Нібы ў хмарку зайшло тваё сонца.*

*Не магу зразумець я чужой слепаты.*
*Я б начамі стагнаў у падушку,*
*Каб цябе я згубіў, каб пакінула ты*
*І тваё прадаўжэнне — дачушка.*

*Розум проста, практычна падвёў да таго,*
*Што з табою равеснікі дзеці,*
*Але сэрца ў пяшчоце не чуе яго,*
*Мне так светла, што ёсць ты на свеце.*

*Ты і побач, і ў недасягальным жыцці,*
*Нібы я паглядаю з-за кратаў.*
*Хоць меў шчасце абняць, хоць магу я прыйсці,*
*Не мая! Не мая! Не мая ты!*

*Ты, напэўна, адчула агонь той святы.*
*Твой парыў летуценны і мілы,*
*На расстанне, калі прыхінулася ты,*
*Пранясу я ў душы да магілы.*

## Думкі

*Думка хмаркай легкакрылай,*
*Што ў бяссоніцы не спіць...*
*Ці то кінуць якар гірай?*
*Ці то ветразь распусціць?*
*Ад матулінай пячуркі,*
*Як пад бураю лісцё,*
*Паляцела з ціхай вулкі,*
*Паплыло маё жыццё.*
*Па чужых краях-краінах*
*Мітусіўся да пары,*
*Па азёрах жураўліных*
*І па беразе Туры.*
*Дыхаў воблакам туману,*
*Чуў я рытмы скарасцей,*
*Бачыў шчырасць і падманы,*
*Слёзы крыўды, боль страсцей.*
*За жыццё ўсяго я зведаў,*
*Адлятаў, як птах, у вырай.*
*Сам пакратаў, сам памераў.*
*Мо таму пішу я шчыра?*
*Ды гады бяруць даніну,*
*І жаданні ўсё прасцей.*
*Хоць гукае клін гусіны,*
*Мае сцежкі карацей.*
*Мар надзеі — летуценні...*
*Подых шчасця на дваіх...*
*Не сумненне, а імкненне*
*Апусціцца на калені,*
*Сплёўшы рукі на тваіх.*

## Як у полі

*Як у полі,*
*Чыстым полі*
*Плачуць пухам*
*Тры таполі.*
*Снегам чыстым*
*І празрыстым*
*Яны сыпалі*
*З дзяцінства.*
*Цёплы подых*
*Светлы, весні*
*Ад народнай*
*Роднай песні.*
*Зацягнулі*
*Бабкі ў згоду,*
*І пра явар,*
*Пра каліну,*
*Пра хлапчыну,*
*Пра дзяўчыну...*
*Я ў памяці*
*Не страчу*
*Песень тых,*
*Падобных плачу.*

## Спякота

*Травы згарэлі*
*У спякотнай бядзе.*
*Што гэта творыцца?*
*Як бегемоты,*
*Каровы ў вадзе.*
*Горача.*
*З самага рання*
*Ў рэдкім быллі*
*Могуць пакорпацца.*
*Сенам траскучым*
*На карані кормяцца.*
*Кормяцца.*
*Русь мая Белая!*
*Бог барані!*
*Жар такі гібельны.*
*Мо ад спякоты*
*На гэтай зямлі*
*Маманты вымерлі.*
*Каторы ўжо тыдзень*
*Дзень за днём*
*Бабулі іконам моляцца.*
*Конь, намахаўшыся*
*Ад аваднёў,*
*Морыцца.*
*Быццам у стэпе,*
*На грэшнай зямлі*
*Ягайлы і Вітаўта.*
*Піць несупынна*
*Ля голай раллі*
*Просіць*
*Кнігаўка.*



Фота Алеся Высоцкага



Вольга Норына

## Зоркі

*Пераражылі акцёры славу,*
*Спартсмены — дачнікі цяпер.*
*Як жыць ім без любімай справы,*
*Без стартаў новых і прэм'ер?*
*Былая прыгажуня горка*
*Ўздыхае па сваёй красе:*
*«О Божа, ззяла яркай зоркай!*
*Цяпер такая ж, як усе».*
*Мы цягнемся к высокай ноце,*
*Мы помнім іх — у зорны час:*
*Калі яны былі на ўзлёце,*
*І тых яшчэ, хто рана згас.*

* * *

*Жыццё мне ўяўляецца вольнаю сцэнай,*
*Дзе лучыць нас праца.*
*У памяці вашай, сябры дарагія,*
*Хачу я застацца*
*Газетным артыкулам, песняй лірычнай,*
*Магчыма, раманам.*
*Я вам усміхнуся вачамі прыветна*
*З тэлеэкрана.*
*Не зможаце да мяне дазваніцца,*
*Наведацца самі,*
*Адкрыйце старонку маю ў Інтэрнэце —*
*І зноўку я з вамі.*
*Не кіну нікога сам-насам з бядою,*
*Далёка ці блізка —*
*Да вас завітае мой голас нягучны*
*Радкамі з дыска.*
*Мы рады сустрэчам пасля разлукі,*
*Мы вернасць — цэнім.*
*І дзякуй усім, хто сабраў нас разам*
*На гэтай сцэне.*

## Між Сцылай і Харыбдай

*Між двух агнёў, між двух каханняў*
*Гарэць ці пазбягаць спаткання?*
*Надзеяй жыць, маўчаць далей*
*Ці падпяваць баладзе хрыплай?*
*Між двух жаданняў ацалець —*
*Нібы між Сцылай і Харыбдай.*

* * *

*Ты чуеш,*
*у горадзе пахне вясной?*
*З галінак крышталёных*
*Асыпаўся іней.*
*А вечар чароўны —*
*У мроіве сінім,*
*І гэта таму,*
*Што ты зноўку*
*Са мной.*

* * *

*Як у дзяўчынкі, чырванее твар,*
*Калі ў бяседзе пра цябе згадаюць.*
*І слова кожнае тады спявае,*
*Ляціць, як залаты асенні дар.*
*І думкі ўсе — як ветразь караблю,*
*Як вецер ветразю, каб не апасці.*
*І не ўтаіць, што я цябе люблю*
*З усёю сілай непазбыўнай страсці.*

## Пасля кіно

*Кладзецца морак на зямлю.*
*Пасля кіно няўтульна ў скверы.*
*Хто ў яркі свет прачыніць дзверы?*
*Я твар у шалік затулю.*
*Экран усцешыў і пагас,*
*Чароўны, як куточак раю,*
*А некалькі*
*экранных фраз*
*Усё яшчэ я паўтараю.*
*Дзівачка, веру ўсё адно,*
*Што да любві сваёй прычалю:*
*Жыццё зацягвае на дно,*
*А я трымаюся на хвалях.*

* * *

*Без развітальных слоў,*
*без нараканняў горкіх*
*Пакіну гэты горад, колісь дарагі.*
*Рашыла так сама:*
*пакіну гэты горад,*
*Для восені сваёй — я выбрала другі.*
*Пасля, магчыма, абгавораць і асудзяць:*
*Магла б змірыцца і самотна жыць.*
*Ці дараваць змагу —*
*сабе і блізкім людзям?*
*Каго забуду я? Чым буду даражыць?*

*Вакзал. І прадчуванне волі і прастору.*
*Рукой не памахае мне здалёк, ды ўсё ж*
*Асеннюю слязу пралье ён, гэты горад,*
*На парасонаў кветкі,*
*што цвітуць у дождж.*

* * *

*Сустрэчы нашы сталі скарбам.*
*Успомню тых, што адышлі, —*
*І ўжо інакш зяяюць фарбы*
*Жыцця, і неба, і зямлі.*

*Вярнуць бы ўсё і ўсіх, ды позна.*
*І больш за словы ўсе таму*
*Душу кранае ліст апошні,*
*Што ціха падае ў зіму.*

* * *

*Я ў творчым вырай — адна са ста,*
*І разам мы вучыліся лятаць.*
*Пашанцавала іншым: іх вяло*
*Да спеўнай славы звонкае крыло.*
*А мой палёт згубіўся ў вышыні,*
*Сябрам вядомы толькі і радні.*
*Ну што ж, мы ўсе зарок спяваць далі,*
*І я — адна са ста*
*Тут, на зямлі.*

**З рускай пераклаў Мікола Маляўка**

# Усе пытанні чалавечага быцця

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**Кнігі Выдавецтва Беларускага Экзархата Маскоўскага Патрыярхата вядомы ва ўсім свеце. Паўсюль, дзе ёсць прыходы Рускай Праваслаўнай Царквы, ёсць і гэтыя кнігі. Больш таго, трапляюць навінкі выдавецтва ў магазіны праваслаўнай кнігі не пазней як праз два тыдні пасля іх выхаду. Дырэктар выдавецтва Уладзімір Грозаў падкрэслівае:**

— Мы гэтым адрозніваемся ад усіх іншых выдавецтваў, дзяржаўных ці то прыватных. З кнігай працуем да самага канца — гэта значыць да дастаўкі яе спажыўцу. Вязём нашы кнігі ў самыя аддаленыя рэгіёны Расіі — у Сібір, на Далёкі Усход. Пастаўляем у краіны далёкага замежжа — нават на амерыканскі кантынент і ў Аўстралію.

**— Ці не за гэтую дзейнасць Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл уручыў вам ордэн Святога дабравернага князя Данііла Маскоўскага?**

— Тое адбылося ў лістападзе 2010 года. Для мяне гэта — вялікі гонар, хаця я зусім не прыпісваю ўсе заслугі сабе. Тое, чаго мы дабіліся, — заслуга ўсіх нашых супрацоўнікаў, работнікаў выдавецтва, якія імкнуцца не толькі вырабіць (скажам метафарычна) смачны духмяны хлеб, але і давезці гэткім жа свежым і духмяным да тых, хто чакае яго.

**— Уладзімір Усеваладавіч, ці згодны вы, што менавіта ў гэтым і ёсць сутнасць асветніцтва?**

— Асветніцтва — гэта распальванне ў душы і сэрцы чалавека агеньчыка любові і дабра, іскры Божай, закладзенай у кожным з нас яшчэ пры нараджэнні і замацаванай хрышчэннем. Гасподзь дае чалавеку душу і ўкладае ў яе такое высокае паняцце, як сумленне. Гэта — лакмусавая паперка, якая характарызуе самадастатковасць асобы, завершанасць яе маральнага аблічча. Задача духоўнай асветы — не даць чалавеку забыцца на сумленне.

**— Нават пакаленне, якому цяпер 35—40 гадоў, памятае часы, калі кнігу духоўнага зместу было немагчыма набыць у магазіне і за чытанне такой літаратуры можна было паплаціцца, ва ўсялякім разе, службовым становішчам, магчымасцю атрымліваць веды ў прэстыжнай навучальнай установе. Цяпер усё інакш — ці ўзрасла духоўнасць нашага народа?**



— У тыя часы, якія вы ўзгадваеце, я быў чалавекам у пагонах і займаў даволі высокую пасаду. Першы раз мне далі Біблію толькі патрымаць у руках — яна належала бабулі аднаго з нашых супрацоўнікаў. Біблія патрапіла ў мой дом тады, калі па маёй просьбе калега з Гродна перадаў адзін з канфіскаваных экзэмпляраў. Я меў неасцярожнасць пахваліцца каштоўным набыткам у коле блізкіх сяброў і… ледзь не пазбавіўся з-за гэтага працы. Часы, сапраўды, былі суровыя для вернікаў. Але Біблію ўсё ж такі знаходзілі і чыталі. Чалавек жа — істота цікаўная. Ці чытаем мы цяпер больш духоўнай літаратуры? Безумоўна, і параўноўваць не трэба. Аднак я б не ставіў працэс духоўнага ўдасканалення чалавека ў плоскасць чыста асветніцкую. Калі дазволіце, я прывяду паралель. Вось самалёт — 98 працэнтаў магутнасці яго рухавіка ідзе на пераадольванне сілы цяжару і толькі 2 — на рух наперад. Чалавеку таксама трэба пераадолець у душы сваёй сілу прыцягнення мірскога, зямнога, штодзённага, каб узняцца на пэўную духоўную вышыню і рушыць пасля да Бога. Можа падацца, што духоўнае перараджэнне нашых сучаснікаў адбываецца не надта хутка. Але такія глыбінныя працэсы чалавечаму воку пабачыць насамрэч немагчыма. У нас пад нагамі — мацнейшая тэктанічная платформа, якая стваралася і мацавалася на працягу стагоддзяў вялікімі падзвіжнікамі веры. Нашы продкі, скіраваныя такімі моцнымі духоўнымі настаўнікамі, узняліся на неабсяжную духоўную вышыню, пра якую можна толькі марыць. Яны перадалі нам свае жыццястойкія, жыццесцвярджальныя гены на фізічным узроўні і не перастаюць маліцца за нас там, дзе цяпер знаходзяцца. Таму як бы непрывабна іншы раз мы ні выглядалі, трапляючы ў сітуацыю жорсткага выбару, мы паўстанем у большасці сваёй на бок дабра і вышэйшай ахвярнасці. А духоўныя кнігі… Яны дапамогуць зрабіць выбар больш асэнсавана, з найменшымі ваганнямі.

**— Ваша выдавецтва часта згадваецца ў сродках масавай інфармацыі ў сувязі са здзяйсненнем новых цікавых праектаў. Назавіце тыя з іх, за якія адчуваеце асаблівую гордасць.**

— Падрыхтоўка да выдання кніг для нас штодзённая справа. Безумоўна, не ўсе праекты аднолькавыя, не ўсе раўнацэнныя. Але як можна разважаць, што важней: шыкоўны пірог ці то сціплы бохан хлеба? Нам трэба і тое і іншае — у залежнасці ад сітуацыі. Гэтак і з духоўным хлебам. Безумоўна, імідж выдавецтву ствараюць падарункавыя, святочныя, юбілейныя выданні. Альбо, напрыклад, наш праект "Вяртанне святынь". З'яўленне факсіміле славутага "Слуцкага Евангелля" літаральна ўзарвала нашу штодзённасць, стала падзеяй. А праект жа прадугледжвае выданне каля 30 найменняў унікальных рукапісных твораў, сярод якіх і "Жыціе Еўфрасінні Полацкай" — першы літаратурны твор, напісаны на нашай зямлі, дарэчы, жанчынай, сястрой прападобнай Еўфрасінні, Звеніславай (у манастве Еўпраксіяй), і "Полацкае Евангелле", і першакніга Вялікага Княства Літоўскага "Лаўрышаўскае Евангелле". Такія праекты выклікаюць інтарэс да нашай духоўнай культуры, нашай старажытнай духоўнай традыцыі, да гістарычных асоб, урэшце. Але не менш важна сёння даць сучаснаму чалавеку кампетэнтны адказ і на самыя злабадзённыя пытанні рэчаіснасці. Праінфармаваць пра тое, што адбываецца ў свеце. Дапамагчы стварыць гармонію ва ўласнай сям'і. Вылечыць спакутаваную душу. Наша выдавецтва выпускае кнігі, якія асвятляюць усе пытанні чалавечага быцця. І мы рады, што можам так сказаць.

**— Якое месца сярод выпушчаных вамі кніг займае мастацкая літаратура? І што гэта за кнігі?**

— Мы разумеем важнасць мастацкай літаратуры ў працэсе выхавання чалавека, у першую чаргу — маладога. Але мастацкія кнігі, якія выходзяць у нашым выдавецтве, павінны адпавядаць высокім патрабаванням маральнасці. Мы старанна вывучаем прапанаваныя да выдання рукапісы і радуемся, калі знаходзім добрыя і цікавыя творы. Насамрэч у нас ёсць нямала аўтараў, якія пішуць гэтак, што адарвацца ад кнігі немагчыма, і пры ўсім тым вучаць чытача дабру, справядлівасці, цярпенню, маральнасці, ахвярнасці і ўдзячнасці.

*Прэзентацыя*

# История войны и мира

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

Знаем ли мы историю? Вы ответите утвердительно — такой предмет изучали в школе, в вузе. Авторы новой книги "Военная энциклопедия Беларуси", изданной "Белорусской Энциклопедией имени П. Бровки", — историки и военные — развеют ваши сомнения насчёт знаний, задав довольно простой вопрос: "Сколько белорусов получило высокое звание Героя Советского Союза в Великой Отечественной?" Обрадованные лёгкостью, вы приведёте цифру, озвученную тележурналистами в недавнюю годовщину Великой Победы, и будете посрамлены. Эти гуляющие в прессе данные относятся к статистике февраля 1945 года. А ведь до мая в Берлине было ещё так далеко!

Уточнённые данные о Великой Отечественной и сведения об остальных войнах, в которых участвовали белорусы, изложены в двуязычной "Военной энциклопедии Беларуси". В издании, выход которого приурочен к семидесятилетней годовщине начала Великой Отечественной войны, содержатся основные сведения по военному делу и знаковая информация по военной истории. Много статей, посвящённых современной белорусской армии, военной технике и вооружению, проблемам военного строительства, войны и мира.

В течение десяти лет шла работа над подготовкой издания. Белорусским авторам помогли сотрудники военно-исторических архивов Москвы и Санкт-Петербурга. В книге размещены фотоматериалы из архивов издательства, военного информационного агентства "Ваяр" Вооружённых Сил Республики Беларусь, Государственного пограничного комитета Республики Беларусь, Главного управления командующего Внутренними войсками МВД и Военной академии Республики Беларусь.

Одним из недостатков "Военной энциклопедии" является то, что каждая из статей не включает список источников, на основе которых она составлялась. Это обусловлено техническими причинами — объём книги предельно допустимый. Создатели энциклопедии говорят: "Мы — первопроходцы и не против последующих усовершенствованных вариантов".



*На снимке: главный редактор издательства Лариса Языкович и курсанты 43-й группы Минского суворовского военного училища.*

## Мастак і кніга

**Пераемнасць пакаленняў, іх узаемасувязь — адзін з фактараў працягу і развіцця традыцыі. Думаю, што ў дачыненні да мастацтва афармлення кніг, кніжнай графікі гэта тэза — не выключэнне. Так склалася, што на старонках “Кніжнага свету” мы дагэтуль прадстаўлялі чытачам сталых, вопытных, вядомых мастакоў, кніжных дызайнераў. Але, натуральна, у графіцы ёсць і новыя імёны, маладыя творцы. Дызайнер, графік Васіліса Паляніна-Календа — адна з іх. Выпускніца Белдзяржуніверсітэта, Васіліса працавала над афармленнем кніг прозы Сяргея Календы “Помнік атручаным людзям”, “Казкі: Гісторыі (не) пра нас”, “Іржавы пакой з белымі шпалерамі”, зборніка вершаў Віталя Рыжкова “Дзверы, замкнёныя на ключы”, яе графічная работа сталася ілюстрацыяй да апавядання польскага пісьменніка Ігнацы Карповіча, што было апублікавана ў зборніку *Travel through Europe* еўрапейскай асацыяцыі літаратараў *Halma*. Пра адметнасці сучаснай кніжнай графікі, стажыроўку ў Германіі, любімых творцаў і ідэальныя кнігі — наша гутарка з Васілісай.**



Марына ВЕСЯЛУХА

# Вызваліся, каб зрабіць больш

**— Скептыкі часам выказваюць меркаванне, што кніжная графіка адыходзіць у небыццё, што прайшлі яе “залатыя часы”. Ці сапраўды гэта так?**

— Кніжная графіка жыве! Пакуль будуць пісацца кнігі, выдавацца часопісы, кніжная графіка будзе працягваць сваё існаванне! Яна існуе побач з жывапісам і мастацкай графікай, гэта такая ж значная частка мастацтва, як і ўсе астатнія. Я веру ў тое, што кніга застаецца для нас адной з галоўных духоўных патрэбнасцей, а калі ў ёй існуе гармонія тэксту ды работы мастака — гэта і ёсць лепшы доказ таго, што кніжная графіка нікуды не знікла.

**— Працуючы над ілюстрацыямі да кніг, абавязкова адштурхоўваешся ад тэксту, натхняешся ім?**

— Так. Калі я маю замову на ілюстрацыі да вершаў, чытаю іх, думаю, разважаю, асэнсоўваю ідэі, выказаныя аўтарам, а ўжо потым свае пачуцці афармляю графічна. Часам здараецца, што настрой верша супадае з той ці іншай работай, якая ўжо ляжыць на маёй паліцы. Думаю, гэта натуральна, бо мы ўсе людзі з аднолькавымі па сутнасці перажываннямі радасці і самоты, іншая справа, што гэтыя пачуцці могуць выяўляцца ў розных інтэрпрэтацыях. Але часцей я ўсё ж раблю ілюстрацыі пасля асэнсавання тэксту.

**— Ты працавала і з вершамі, і з прозай. Што працней ілюстраваць? Ці ёсць розніца ў падыходах паміж ілюстрацыямі да іх?**

— Я лічу, што ў гэтым выпадку паняцця “працей” не існуе. Няма розніцы, што ты ілюструеш — празаічны твор ці паэтычны. Мне падаецца глупствам, калі хтосьці кажа, што паэзію (ці прозу) ілюстраваць працей. Гэта рэчы, якія трэба адчуваць, і ўсё. Ёсць проза, якая цябе ўражвае, і паэзія, што ўвогуле ніяк не адгукаецца ў тваім успрыманні, і наадварот.

**— А калі разважаць пра казкі і ўспомніць кнігу Сяргея Календы “Казкі: Гісторыі (не) пра нас”, над якой ты працавала…**

— Калі можна так сказаць, гэта быў першы для мяне сур’ёзны праект у кніжнай графіцы. Цікава было працаваць з жанрам казкі, але тут яшчэ шмат залежыць ад асабістага ўспрымання, бо ва ўсім можна знайсці частку чагосьці казачнага, ды наадварот, за кожнай казкай існуе рэальны свет.

**— Сярод ілюстрацый з кніг, што ты аздабляла, многа работ у жанры аўтапартрэта. Чаму так?**

— Так, ёсць такое. Калі чуеш гэтае пытанне, на памяць адразу прыходзяць словы мексіканскай мастачкі Фрыды Кало, якая казала, што праз сябе ёй працей выказаць эмоцыі і перажыванні. Але не думаю, што толькі па гэтай прычыне. Магчыма, яна проста ўсё жыццё шукала сябе... Здаецца, кожны чалавек (а людзі творчых прафесій асабліва) увесь час знаходзіцца ў пошуку. Мне гэты пошук працей здзяйсняць праз аўтапартрэт. Яшчэ тут




адыгрывае ролю псіхалагічны фактар: калі нешта адчуваеш, хочацца паказаць, што гэта адчуваеш менавіта ты, таму і ідзеш такім шляхам.

**— Ці адрозніваюцца работы “для сябе” ад зробленых па заказе?**

— Я, мабыць, вельмі шчаслівы чалавек, бо калі да мяне звяртаюцца з просьбай дапамагчы аформіць кнігу, мне гэта заўсёды надзвычай цікава. Я люблю маляваць, і нават рабіць штосьці на заказ вельмі прыемна, таму раблю са шчырасцю.

**— Каго лічыш сваімі творчымі настаўнікамі?**

— Гэта дакладна многія мастакі, работы якіх дапамаглі зарыентавацца: вядома, Анры Матыс, Эдвард Мунк, Эдуард Баргнер, Людвіг Кірхнер, Эгон Шыле, Віктар Барысаў-Мусатаў, Міхаіл Врубель, падабаюцца калажы Конрада Марка-Рэлі, вельмі люблю нямецкую мастачку Паулу Модэрзон-Бэкер і мексіканку Фрыду Кало… Ды наогул, гэты спіс можна працягваць да бясконцасці… Яшчэ мяне шмат чаму навучылі мае выкладчыкі Наталля Рачкоўская, Усевалад Швайба, Ігар Герасіменка, Людміла Русава. Апошняя выкладала ў нас кампазіцыю, але, на жаль, яе ўжо няма ў жывых. Менавіта яна дапамагала нам раскрывацца, вызваляла ад комплексаў і вучыла глядзець паза межы белага ліста. Яшчэ выкладаў цудоўны мастак-шрыфтавік Павел Семчанка, чалавек неардынарны і вельмі таленавіты.

**— Ведаю, што ты некаторы час навучалася ў Германіі ў знакамітага графіка Вальтэра Захса…**

— Так, Вальтэр Захс — цудоўны, вельмі шчыры і добры чалавек, выбітны графік і скульптар, які ўжо ўпэўнена займае сваё месца ў гісторыі мастацтва. Ён вельмі дапамог мне ў мастацкай дзейнасці, навучыў рабіць ксілаграфіі і манапрынты. Усе тры месяцы (менавіта столькі там была) я працавала ў яго майстэрні. Гэта сапраўды быў вялікі падарунак лёсу! Праца ў Веймары дазволіла мне зрабіць вялікі крок наперад.

**— Ці адрозніваюцца падыходы да кніжнай графікі, што выкарыстоўваюцца беларускімі і нямецкімі мастакамі?**

— Так, дакладна адрозніваюцца. Нямецкія мастакі больш вольныя ў сваіх дзеяннях, не абмежаваныя нікімі рамкамі — жанравымі і творчымі. Яны менш прытрымліваюцца цвёрдых правілаў, не скоўваюць свае ідэі. Нават калі я пачынала працаваць з Вальтэрам Захсам, ён глядзеў на мае работы і час ад часу казаў: “Вызваліся, ты можаш рабіць больш”. Не магу за ўсіх казаць, таму што ў нас шмат маладых і таленавітых мастакоў, ім проста трэба больш магчымасцей для працы ў нашай краіне!

**— Калі ж параўноўваць пакаленні беларускіх кніжных мастакоў: старэйшае і маладое…**

— Вядома, яны адрозніваюцца, гэта заканамерна. Але я не сказала б, што па якасці работ маладыя пераўзыходзяць старэйшае пакаленне. Адным з лепшых мастакоў кнігі нашага часу мне падаецца Павел Татарнікаў, яго ілюстрацыі да кнігі “Песня аб паходзе Ігара” моцна ўражваюць. Здаецца, у сучаснай ілюстрацыі больш эксперыменту, пошуку новых шляхоў выяўлення. Мабыць, мы адчуваем сябе больш разняволенымі, заўсёды знаходзімся ў пошуку, натуральна, што ніхто не хоча паўтарацца.

**— На тваю думку, як павінна выглядаць ідэальная кніга?**

— Гэта кніга са сваім адметным характарам. Ва ўніверсітэце я рабіла дыпломны праект у выглядзе кнігі: мае вершы, ілюстраваныя аўтапартрэтамі. На той момант гэта была для мяне ідэальная кніга, а цяпер яе проста весела ўспамінаць. Ідэальная кніга — як ідэальная сукенка, пашытая па тваіх памерах.

***На здымках: “Кубак кавы” (аўтапартрэт); ілюстрацыя да кнігі Сяргея Календы “Казкі. Гісторыі (не) пра нас”.***

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Карэнда, І.А. Воплаўская госця / Іван Карэнда. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 240 с.**

“Перад смерцю — усе роўныя. А перад жыццём? Мусіць, не. Бо памінаюць усе, а годна жывуць адзінкі”, — так разважае ў сваіх “Думках-згадках” паэт і празаік Іван Карэнда. Разважае пра сэнс жыцця, месца Бога ў жыцці чалавека, пра гультайства і працавітасць… Новую кнігу пісьменніка, што выйшла ў выдавецкай серыі “Лімаўскі фальварак”, склалі аповесць “Воплаўская госця” (пра лёс сельскага настаўніка Сціпана Лоўдача), апавяданні, гісторыі-мініяцюры, а таксама нататкі-замалёўкі.



**Адважны, В. Выбраныя творы / Вінцук Адважны; уклад., прадм., камент. І. Багдановіч. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 592 с.**

Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч) поруч з Адамам Станкевічам, Кастусём Стэповічам, Аляксандрам Астрамовічам належыць да той слаўнай кагорты святароў, якія актыўна і самаахвярна працавалі на ніве адраджэння беларускай нацыянальнай культуры і духоўнасці. Апрача душпастарскага паклікання Язэп Германовіч быў адораны немалым літаратурным талентам, які выявіўся ў розных жанравых формах і непаўторным стылі. Лепшы доказ таму — новы том праекта “Беларускі кнігазбор”, які склалі найбольш значныя творы Вінцука Адважнага — вершы, проза, успаміны, публіцыстыка. Змешчаны ў кнізе і лісты святара, а таксама матэрыялы пра яго жыццё і творчасць.




**Коэльо, П. Валькирии / Пауло Коэльо; пер. с португ. Д. Ружского. — Москва: АСТ, Астрель, 2011. — 224 с.**

Галоўны герой новай кнігі Паула Каэльа, як заўсёды ў творах гэтага пісьменніка, ідзе за сваёй марай. Гэтым разам ён выпраўляецца ў пустэльню Махаве, каб сустрэцца там са сваім анёлам-ахоўнікам. Менавіта тут, у пустэльні, якая апынаецца не такой адзінокай і безжыццёвай, ён сустракае маладога Мага і групу жанчын-воінаў валькірый. Яны і дапамагаюць Паулу дасягнуць мэты. Усё заканчваецца добра — герой, як заўсёды, знаходзіць Сапраўдную Любоў і Ісціную Веду. Але наколькі яны сапраўдныя і ісцінныя? Ці магчыма іх знайсці прапанаваным шляхам, чытач адкажа сам для сябе.




**Леннон, Дж. Испалец в колесе / Джон Леннон; пер. с англ. А. Курбановского. — Москва: Манн, Иванов и Фербер, 2011. — 208 с.**

Гэта другая кніга вялікага нонканфарміста XX стагоддзя, заснавальніка *The Beatles* Джона Ленана. Пасля поспеху першага опуса *John Lennon In His Own Write* (1964), аўтар працягнуў літаратурныя эксперыменты і праз год, 24 чэрвеня 1956 года, апублікаваў другую кнігу. На гэты раз у яе ўвайшлі мініяцюры, кароткія пародыі, сцэнкі, вершы, не пакладзеныя на музыку. Як і заўсёды ў Ленана, у кнізе свет паказаны праз мову, метафары і фігуры мовы, часам наўмысна нязграбныя, рэмінісцэнцыі з папулярнай літаратуры, газетныя і тэлевізійныя клішэ. Адметным выданне робяць і графічныя ілюстрацыі, выкананыя самім Ленанам.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**

# Два эцюды




## Хата

Тое месца, дзе ты нарадзілася і выхоўвалася, заўсёды дарагое табе, бо яно для цябе звыклае, роднае, блізкае. Тут жылі твае дзяды і бацькі, тут ты зрабіла па зямлі свае першыя крокі, пайшла ў дзіцячы садок, а потым — у школу. Тут ты ўпершыню закахалася і была такою шчаслівею і няшчаснаю адначасова. Менавіта тут, на радзіме, ты ўведала сваіх першых сяброў і ворагаў, спазнала самыя розныя пачуцці — ад любові да нянавісці. Ніякімі каштоўнасцямі, золатам або срэбрам не вымяраецца дадзенае табе самім нараджэннем. Аднак надыходзіць час ехаць у іншы горад, нават чужую краіну. Так складваюцца абставіны…

І едзеш, і прывыкаеш жыць у інакшым месцы, і табе пачынае здавацца, што ты жыла там заўсёды. Табе падаецца знаёмым усё, быццам ты карэнная жыхарка новай для цябе краіны. Вясёлая, радасная, ты крочыш па яе тэрыторыі, твае вока цешыцца наваколлем, ты спадзяешся знайсці сваё шчасце, прагнеш быць патрэбнаю, неабходнай. Але час няўмольна бяжыць, пара вяртацца на радзіму. Гэта сумна і цяжка: іншыя мясціны зрабіліся для цябе даражэйшымі за смарагды і дыяменты.

Ты зноў прывыкаеш да жыцця на Бацькаўшчыне. Потым цябе зноў пацягнуць у дарогу незвычайна прывабныя чужыя краявіды. Толькі здзіўляешся: чаму для некаторых людзей гэта важная частка жыцця, вандроўкі, непрыцягальная і нецікавая? Праца, кватэра і крама ўвасабляюць для такіх сэнс і змест быцця. Ды сумна жыць без падарожжаў па сутнасці, седзячы на адным месцы!

Іда была жанчынай сярэдняга ўзросту і дужа шкадавала пра тое, што гэта "сярэднясць" пачала з цягам часу кідацца ў вочы. Каб выратавацца ад невясёлых думак пра немінучасць маршчын, ссутуленай спіны і распаўнелай таліі, наша гераіня палюбіла прыемныя сюрпрызы, цешачы сябе радаснымі дробязямі. Яна купляла дарагія гатункі мыла, імпартную парфуму ды, старанна дагладаючы сябе, імкнулася даўжэй захоўваць маладосць і свежасць. У сваім жыцці немалое месца яна адводзіла падарожжам. Апошнім часам, аднак, яны ўжо не вабілі Іду так, як некалі раней. Ёй хацелася не быць у святы адной, яна марыла стварыць сям'ю… Тады вялікая кватэра, у якой Іда жыла па волі лёсу, ужо не здавалася б ёй такою няўтульнай.

Няшчасная, бо самотная, Іда ездзіла ў падарожжы таму, што ў дарозе магла спакойна падумаць пра свае праблемы, якія спадзявалася ўдала вырашыць. Яшчэ спадзявалася… Але часта ёй здавалася, што з-за сваёй адзіноты яна нямілая ўсяму свету, які ніколі не дапаможа ёй разабрацца са сваімі клопатамі. Іда не была здольнай даць сабе з імі рады з-за тугі, меланхоліі, дэпрэсіі, — а ўсё гэта расло ў яе душы, знішчаючы здароўе і саму Іду як асобу.

Не раз у кабеты з'яўляліся адчайныя думкі пра самагубства, спыняла яе хіба толькі тое, што знешне ўсё ў яе жыцці было ў поўным парадку. А што нечага ўсё роўна бракавала… Чаго ж? Можа, хвалюючага пачуцця кахання?

У мінулую нядзелю Іда са здзіўленнем і захапленнем назірала за паводзінамі закаханай парачкі, якая заўзята абдымалася на лаўцы аўтобуснага прыпынку, нікога не баючыся і не саромеючыся. А ў Іды вельмі даўно не было любоўных перажыванняў. Тут ёй і адкрылася, што ўсе людзі вакол яе, якія прагнуць пачастункаў, відовішчаў, грошай, але не маюць у сэрцах кахання… душэўна мёртвыя. А парачка закаханых была жывою! Астатнія — тыя, хто набываў, напрыклад, чаравікі, ехаў у вёску садзіць бульбу, мяняў кватэры, гнаўся за апошняю мадэллю аўто, насамрэч не жылі, не радаваліся жыццю. Яны проста існавалі. Як жывыя трупы, яны ішлі (ці беглі) у "Макдональдс" і жэрлі, потым пілі піва, чаўплі нешта неразумнае, нарэшце, абдымаліся адно з адным. Але яны былі пустыя, як і ўся іх "дзейнасць". Так аднойчы Іда ўбачыла сваё рэальнае жыццё без ілюзій, і тады ёй зрабілася сапраўды страшна.

Няўжо ўсё ў яе нагэтульки незваротна страчана, няўжо ніхто болей не ўсхаліхне яе, не ўсхвалюе, не "зачэпіць"?.. Ці гэта павінна так быць, і трэба змірыцца з непарадольнасцю агульнага настрою — неадчэпнага, як павуцінне? Аднак жа, мусіць, ёсць і нейкі іншы, цікавейшы варыянт быцця?

Іда пыталася і не знаходзіла адказу. Ёй пачынала ўжо здавацца, што яна стаіць сярод вялізнага балота, якое паступова засмоктвае ўсіх… немінуча ўтопіцца ў ім і яна, Іда. Але толькі тады, калі яна не будзе змагацца, біцца за сябе ў гэтым агідным, ненавісным, пастылым балоце!

Іда ўвайшла ў сваю кватэру і на поўную магутнасць уключыла песню ў выкананні французскай спявачкі Мірэй Мацье. Тая таксама пражыла свой жаночы век быццам бы самотна, аднак жа не рабіла з гэтага вялікай праблемы. Жыццярадаснасці не страціла, пачуцця гумару — таксама. Жыла сабе адна як таленавіты творчы чалавек… Не, безумоўна, каханыя ў яе былі. Толькі яна, відаць, хутка расчароўвалася ў іх і выганяла прэч (як, дарэчы, і робіць Іда). Не цярпела іх подласці і двудушнасці, здрады, падману, не прыніжалася перад імі дзеля таго, каб неяк карміцца, апранацца, — а магчыма, з гонарам казала: "Ідзі прэч! Ты мне паспеў надакучыць!" Далёка не кожная жанчына асмеліцца так сябе паводзіць…

Ды і святар на споведзі параіў Ідзе развітацца з тым несвабодным мужчынам, які хацеў бы кахаць яе неяк па-свойму (як гаспадар гарэма, ці што?). Як было б непрыемна, калі б Іда ўжо ўлезла ў тую багну, а потым стаяла б з усім гэтым брудам у душы перад алтаром! Дый ці можна было б ёй, Ідзе, тады з перавернутаю душою наогул бываць у Божым храме? Напярэдадні Вялікадня Іда прыйшла туды, каб ачысціцца і падрыхтавацца маральна, духоўна да сустрэчы найвялікшага свята. Ёй хацелася быць такою прыгожай і чыстай душою, каб магчы паляцець над горадам разам з анёламі, як на карціне Марка Шагала.

І трэба сказаць, Ідзе гэта ўдалося. Яна сапраўды ў думках узнялася і высока ўзляцела. Адбыўся той цуд у Божым доме…

У Вялікую Пятніцу, калі Іда разам з усімі вернікамі цалавала ногі распятаму на крыжы Хрысту, яна заўважыла, што Божае цела ў паўзмроку быццам бы свеціцца, а Божае аблічча выпраменьвае спагаду і міласэрнасць. Адышоўшы ад натоўпу, Іда доўга стаяла ўбаку і глядзела на Хрыста. Яна нібы застыгла ў палоне свайго рэлігійнага пачуцця, якое проста перапаўняла яе. Госпадзь, здавалася, клікаў яе да сябе, хочучы ёй нешта сказаць. Можа, каб яна не сумавала, не перажывала гэтак?..

Новае надзвычайнае адчуванне, не падобнае да ўсіх вядомых Ідзе раней, падзейнічала на жанчыну, нібыта ўспышка яркага святла. Усё жыццё Іды азарылася Божаю прысутнасцю, і ў цемры зведаных раней памылак, расчараванняў, болю як бы запалілася васковая свечка. Свечка свяціла ясна, гарэла доўга, Іда так і не магла адысці ад Гасподняга крыжа, адарваць позірк ад соцень людзей, якія ішлі і ішлі адзін за адным, цалуючы крыж.

Мала хто з іх, хутчэй за ўсё, адчуў тое, што перажыла Іда. А яна ў тыя хвіліны вырашыла для сябе раз і назаўсёды: яна будзе ў першую чаргу кахаць Бога (і толькі потым — усіх астатніх). Ён будзе ў яе адзіным, яму яна застанецца вернаю.

Тады на душы ў Іды зрабілася так лёгка, як можа быць у дзіцяці пасля доўгага горкага плачу. І сталася: нібы на вячэрнім небе запалілася мноства бялюткіх зорачак. Яны мігцелі, сваім зіхоткім святлом паказваючы Ідзе яе далейшы шлях.

Вярнуўшыся дахаты, Іда зразумела, што ўсе кватэры і пакоі, якія займала яна ў розныя гады жыцця, не былі для яе сапраўднымі месцамі жытла. На самай справе ў яе заўжды была толькі адна хата. Такою хатай з'яўляўся для яе дом Божы. Ён, светлы і чысты, як святое месца вабіў да сябе Іду, радуючы яе сваім хараством. Яно было вонкавым, бо аказвалася навідавоку, яно закранала, змяняючы, і ўнутраны свет чалавека…

Калі ў чарадзейны куфэрак пакласці звычайную рэч, то яна адразу зробіцца незвычайна каштоўнай, папрыгажэе. А калі чалавечая душа будзе часта судакранацца з гаючаю атмасферай храма, то яна не адразу, але з цягам часу набудзе незвычайную прыгажосць. Гэта добра ведалі нашы продкі, якія і ў святыя, і ў будзённыя дні наведвалі храмы, маліліся, прасілі ў Бога блаславення.

Цяпер Іда будзе часта хадзіць у сваю новую хату — лепшую ў свеце, таму што ў ёй добра, лёгка бывае нялюбай і занядбанай жаночай душы.

## Вясковец

Фёдар ужо даўно жыў у горадзе, але, тым не менш, у душы працягваў заставацца вясковцам. Ён любіў прыроду, часта выязджаў за горад, дзе меў прысядзібны ўчастак, яму падабалася праца на зямлі. Цяпер была вясна: прырода абуджалася ад сну, пачыналі зеляніць дрэвы. Фёдар збіраўся ехаць на лецішча. Ён, немалады ўжо чалавек, пасля напружанага працоўнага тыдня, праведзенага за камп'ютарам у акадэмічным інстытуце, дзе "служыў", у выхадныя адчуваў не тое што патрэбу, а проста неабходнасць выбрацца на волю з царства душных каменных каробак, якія гарадскія жыхары называлі дамамі. У Фёдара былі свае планы наконт таго, што і як пасеяць, што зрабіць на зямлі, як угноіць і перакапаць участак пад бульбу.

Замкнёны ў сабе, як усе палешукі, Фёдар рэдка дзяліўся з іншымі людзьмі сваімі задумамі. Фёдар ведаў, што часта нават лепшыя сябры недзе ў глыбіні душы могуць аказвацца тваімі заклятымі ворагамі, хітра хаваючы пад маскаю добрапрыстойнасці свае злыя намеры. Таму, зморчаны і недаверлівы, ён рэдка каму давяраў, заўсёды асцерагаючыся інтрыг і звычайнай зайздрасці. Фёдару зусім не хацелася, каб, даведаўшыся нешта пра яго асабістае жыццё, знаёмыя распаўсюджвалі пра яго плёткі, плявузгаючы абы-што і часам жорстка насміхаючыся, здзекуючыся з яго.

Фёдар быў удзіноцы. Ён развёўся з жонкай, пакінуўшы ёй добрую кватэру і вялікую бібліятэку. Дзеці засталіся жыць з маці, выраслі, пасталелі і амаль ніколі не нагадвалі пра сябе, абуджаючы цішыню паміж імі і бацькам рэдкімі тэлефоннымі званкамі. Фёдару жылося няпроста, ён не чуў сябе шчаслівым. Пачуццё самоты ўзмацнялася ў ім з усведамленнем таго, што ўсё ў іх узаемным жыцці з жонкай магло складвацца добра — а склалася дрэнна, горш няма куды.

Па сваіх поглядах Фёдар быў, як многія вучоныя, атэістам: не верыў ні ў Бога, ні ў чорта. Ён любіў гаварыць, што верыць у прыроду, ёй кланяецца і на яе моліцца. Збоку магло падацца, быццам бы Фёдар — самы сапраўдны сатаніст (як кажуць палякі): давярае снам, верыць у прымхі і забабоны, выконваючы гэтак званыя правілы народнай культуры. Далібог, іншых людзей усё гэта здзіўляла, нават весяліла. Фёдара шмат хто лічыў пацешным дзіваком, нават вар'ятам: маўляў, давёў сябе чалавек да бальніцы сваёй паглыбленасцю ў навуковыя даследаванні. І нічога супраць не скажаш: любы сапраўдны атэіст (чытай — сатаніст) са здаровым розумам пацвердзіць, што Фёдар — хворы дурань. Як такога яшчэ на працы церпяць! (Трэба звярнуцца да каго трэба, каб яго звольнілі. Ці ж не праўда, Людачка?)

Гэтыя дзівацтвы выглядалі б абсалютна бяскрыўдна, калі б за імі не стаяла трывалая вера ў Бога. А так… Не было ў жыцці апірышча, хоць свой матэрыяльны дабрабыт Фёдар і ўзняў на высокі ўзровень.

Фёдар часта ездзіў у службовыя камандзіроўкі, бачыў свет і ўпэўнена разважаў пра жыццё і людзей. Яму было зразумела, што не ўсё так проста, як здаецца на першы погляд. Свае назіранні над жыццём і светам Фёдар занатоўваў у невялікім дзённіку, які вёў гадоў дзесяць і які спадзяваўся некалі апублікаваць. Гэта былі даволі цікавыя нататкі: у іх адлюстроўваліся палітычныя падзеі, настрої грамадства, знаходзілася месца і для літаратурных з'яў… Туды запісваўся нават прагноз надвор'я — у якім годзе якія былі тэмпература паветра, вільготнасць, атмасферны ціск.

Дзённік вёўся ў некалькіх агульных сшытках, Фёдар складаў іх у стосікі. Можа, для каго-небудзь гэта таксама было дзівацтвам?.. Як здольны навуковец, якому падабалася ўсё сістэматызаваць, Фёдар шчыра захапляўся гэтым заняткам — вядзеннем дзённіка. Дарэчы, там занатоўваліся і ўсе яго крыўды, расчараванні, пакуты. Ён пісаў, між іншым, пра сваіх нядобрых суседзяў, якія абражалі яго годнасць, лямантуючы пад акном, што ён ідыёт, таму што займаецца навукай.

Так, сапраўды ў наш час быць вучоным можа толькі нейкі маньяк, параноік. Бо ўсе гатовы за вялікія грошы працаваць хоць і прыбіральшчыкамі, мыць унітазы. А тут за малую зарплату чалавек усё жыццё, можна сказаць, вынаходзіць вечны рухавік. І каму гэта патрэбна?

Аднойчы з Фёдарам здарылася няшчасце: яго моцна напалохаў суседскі сабака. І адкуль ён толькі ўзяўся, такі ікласта-злосны?.. Ён кідаўся на Фёдара, як ашалелы, і брахаў, брахаў… А потым суседскі сынок, уладальнік сабакі і рэдкі падонак, крычаў пад вокнамі ў адрас Фёдара (як вар'ята) усялякія абразы. Крычаў і ўслед Фёдару абы-што: маўляў, нікому не трэба твая навуковая дзейнасць, цябе хутка здадуць куды трэба і там добранька падлечаць!..

Невядома было, хто больш ашалеў, — сабака ці той сынок. Нават калі б усё тое, пра што крычаў той малады хлопец, было праўдаю, то навошта, на думку Фёдара, ён лез у чужое жыццё? Фёдар шчыра здзіўляўся гэтаму. Як у юнака можа быць такая чорная, брыдкая, брудная душа? Хіба што яго бацькі з'яўляюцца мужам і жонкаю толькі намінальна, на паперы? І ўся непрыемная атмасфера ў сям'і перадаецца сыну, вылазячы, як кажуць, на паверхню?

Фёдар ад спалоху пачаў заікацца. Заходзячы ў студэнцкую аўдыторыю і чуючы насмешкі юнакоў і дзяўчат, ён вельмі пакутаваў, бо разумеў: у сталым узросце заіканне наўрад ці лечыцца. Фёдар страчваў вялізныя грошы, стаж і самапавагу, вымушана адмаўляючыся ад выкладання. А суседскі сынок па-ранейшаму крычаў пад вокнамі па начах, здзекуючыся з Фёдара і з яго навуковай дзейнасці. Улетку ён прыводзіў пад вокны цэлую кампанію юнакоў, у якой хлопцы былі, што называецца, хуліганамі яшчэ тымі… "Залатыя хлопчыкі" вылі, спявалі, рагаталі. Фёдар нерваваўся, бо якраз працаваў над новаю тэмай. Яму патрэбен быў паўнацэнны сон, вучоны не мог больш трываць падобных здзекаў. Пяць разоў за лета ён выклікаў міліцыю, каб утаймаваць крыважэрных хлопцаў. Але нішто не дапамагала…

І што цікава: іншым суседзям гэта было даспадобы. Значыць, яны заўсёды ненавідзелі Фёдара, ухваляючы паводзіны распусных юнакоў? Як прымхлівы, забабонны чалавек з комплексамі, Фёдар жыць з такімі суседзямі пад адным дахам болей не хацеў. Але паўстала пытанне: што ж рабіць далей?

Фёдар вырашыў сваю праблему радыкальна. Ён звольніўся з акадэмічнай працы, прадаў абрыдлую ўжо кватэру, у якой зазнаў столькі крыўдаў і расчараванняў… І, нават не развітаўшыся з былымі суседзямі (а з многімі ён пражыў трыццаць гадоў!), прадаўшы таксама дачу, узяў ды і з'ехаў у вёску. Прычым не ў сваю родную, а ў зусім іншую… Там шмат дзесяцігоддзяў таму Фёдарава маці працавала настаўніцай.

Настаўнікам робіць цяпер і сам Фёдар. Ён ужо не заікаецца, і школьнікі з яго не смяюцца. А самае галоўнае — ніхто ўжо ніколі не крычыць у яго пад вокнамі. Бо людзі, у тым ліку суседзі, яго паважаюць і любяць. Некаторыя з іх яшчэ памятаюць яго маму, якая была адукаванай, разумнай жанчынай і часта гаварыла Фёдару: "Сынок, не руш нічога і не бойся нікога!"

Усё ж, як думае Фёдар, незалежна ад наяўнасці або адсутнасці веры ў Бога правілы народнай культуры існуюць і дзейнічаюць. Фёдар цвёрда верыць у тое, што яго былыя гарадскія суседзі-крыўдзіцелі атрымаюць сваё пакаранне не ад Бога, дык ад д'ябла і што нейкія надчалавечыя сілы неўзабаве знішчаць іх дазвання. Фёдар грэшны ў гэтай сваёй нелюбові, бо ворагаў, як вядома, трэба шкадаваць…

Ды як жа, скажыце, не глядзець на іх з пагардаю?

# Каб вам гэтак шанцавала!

**Вось што значыць творчая навучальная ўстанова: чарговая работа студэнтаў, якая высноўваецца з калектыўнага пошуку і грунтоўных даследаванняў, індывідуальных фантазій і крэатыўных эксперыментаў, можа стаць самастойным мастацкім праектам, вартым публічнай увагі. Яна можа нават справакаваць аншлаг ва ўніверсітэцкай аўдыторыі. А яшчэ — захапіць усіх прысутных: ці то прафесара-педанта, ці то скептыка, спанатранага ў музычна-сцэнічных відовішчах, ці то выпадковага і досыць інертнага гледача... Ці то абазнаных лімаўцаў. Так яно гэтым разам і атрымалася: студэнтам народнага аддзялення кафедры харэаграфіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў удалося (не без дапамогі выкладчыкаў, вядома) захапіць, здзівіць, парадаваць гасцей, што прыйшлі паглядзець выніковую курсавую работу.**



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Віктара Кавалёва**

Прызнацца, мы не ведалі, на **што** ішлі. Бо да гэтага часу даводзілася знаёміцца са шматграннай дзейнасцю кафедры харэаграфіі факультэта традыцыйнай беларускай культуры і сучаснага мастацтва БДУКіМ толькі на справаздачных канцэртах у вялікіх сталічных залах, пераважна падчас папулярнага сталічнага фестывалю "Арт-мажор". А чаго было чакаць ад імпрэзы, якая мела адбыцца ў камерных умовах універсітэцкай аўдыторыі і фармальна з'яўлялася практычным паказам па дысцыпліне "Мастацтва балетмайстра"? Праўда, паказ ладзіўся як фальклорны вечар пад заваблівай назвай "Каму пашанцуе, той і станцуе". І хоць у яго праграме без аніякіх каментарыяў значылася два з лішкам дзясяткі танцавальных нумароў — работ студэнтаў-трэцякурснікаў, мы не настройваліся на стандартны "зборны" канцэрт. Мы чакалі сюрпрызаў. Дачакаліся? Анягож!

### Фальклор як terra incognita

Імпрэза разгортвалася на падмурку адмысловага сцэнарыя з прыгодніцкім сюжэтам. Жылі сабе тубыльцы краіны Гогі-Могі, дзень пры дні працавалі ды адпачывалі, працавалі ды адпачывалі, працавалі ды... Пакуль Добры Чараўнік не звярнуў аднойчы ўвагу на іх каляндар: сарваў лісток — а на лістку чарговым ранейшая лічба, сарваў яшчэ адзін — а пад ім аказалася ўсё тая ж дата. "Усе дні ў вас аднолькавыя. Як жа можна гэтак жыць? Трэба нешта мяняць!" — не паспелі жыхары краіны Гогі-Могі прыпыніць свой карагод і задумацца над словамі Добрага Чараўніка, як той вокамгненна знік, а дакладней — ператварыўся ў Злога Чараўніка. Той выскаліўся на перапуджаных тубыльцаў, выхапіў у аднаго з хлопцаў саламяны капялюш ды шпурнуў далёка-далёка. І паляцеў брыль аж у краіну Закідайла... Каб знайсці яго, герой гісторыі мусіў павандраваць па розных землях, адкрыць для сябе таямнічыя краіны, пазнаёміцца са звычаямі іх насельнікаў, пабачыць усялякія дзівосы, паганіцца за лятучым зэдлікам і пераадолець хітрыкі Злога Чараўніка. Няцяжка здагадацца, што ўсіх чакаў шчаслівы фінал. Нават Злога Чараўніка, бо ён аказаўся проста маскай свайго антыпода-дабрадзея, які прыдумаў інтрыгу з капелюшом, каб раскатурхаць, абудзіць ад жыццёвай спячкі, падштурхнуць да творчасці народ Гогі-Могі.

Немудрагелісты і шчыры, як светлае наіўнае мастацтва, гэты сюжэт даў магчымасць прадставіць індывідуальныя работы студэнтаў не як стракатую падборку паасобных кампазіцый, а як пэўную культурна-этнаграфічную цэласнасць, сінтэзаваную на аснове традыцый новую мастацкую каштоўнасць.

### Справа не ў капелюшы. А ў танцах

Нагадаю, што праграма фальклорнага вечара пад заваблівай назвай "Каму пашанцуе, той і станцуе" не змяшчала ніякіх каментарыяў ці падказак для гледача. Прадстаўленага ў ёй пераліку танцаў (з пазнакай крыніцы ўзору, паводле якога створана пастаноўка, і аўтара работы) было дастаткова, каб зарыентавацца ў чарадзе артавых падзей незвычайнага спектакля. А потым успамінаць...

Успамінаць каларытную польку "Нізуху" (фальклорны ўзор зафіксаваны ў свой час у вёсцы Даўгаполічы, што на Пружаншчыне, ад інфарматара 1916 года нараджэння; работа Марыі Пуцінавай). І поўны гумару карагод "Трухман" (узор зафіксаваны ў вёсцы Каравічы на Гомельшчыне, інфарматар 1911 года нараджэння; работа Веранікі Пасечнік). І камедыйны "спірытычны сеанс" пад назваю "Нябожчык" з удзелам калядных масак (фальклорны ўзор паходзіць з Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці, інфарматарам быў



вясковец 1912 года нараджэння; работа Дзмітрыя Пуйшы). І вясёлыя "Гогі-Могі" (інфарматар з Карэліцкага раёна, 1935 года нараджэння; работа Наталлі Палавінкінай)... Традыцыйныя і арыгінальныя танцавальныя прыёмы; уплывы акрабатыкі, сучаснай побытавай пластыкі; элементы тэатралізацыі, народных гульняў і рытуалаў; рытміка ліній і фарбаў у арнаментальнай аздобе народных строяў... А яшчэ — жартоўныя пярэбрахі з выкарыстаннем сакавітай і трапнай, і такой мілагучнай і цалкам "нарматыўнай" беларускай лаянкі: "Соль табе ў вочы, перац табе ў нос!" Ці яшчэ: "А каб тваё вокі глядзелі ў розныя бокі!" Ці такое: "Мы вам пакажам, колькі мы важым!"

### Традыцыя — гэта людзі

З году ў год студэнты кафедры харэаграфіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў на працягу 3 курса займаюцца вывучэннем і апрацоўкай аўтэнтычных матэрыялаў, у тым ліку сабраных падчас летніх фальклорных экспедыцый сваімі папярэднікамі. А потым прадстаўляюць плён уласнай навукова-творчай працы ў аўтарскіх пастаноўках. Такая прыгожая традыцыя ў навучанні новага пакалення майстроў беларускай народнай харэаграфіі мае знакамітага ініцыятара і пачынальніка — доктара мастацтвазнаўства, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесара Юлію Чурко. Знаўца класічнага балета і нацыянальнага беларускага танцавальнага фальклору, яна доўгія гады ўзначальвала кафедру харэаграфіі БДУКіМ, з якой і дагэтуль падтрымлівае стасункі, стала ў свой час арганізатарам і мастацкім кіраўніком навукова-даследчай лабараторыі танцавальнай творчасці пры ўніверсітэце. Вялікім плюсам для пераемнасці, для развіцця знакавых традыцый ВНУ можна лічыць той факт, што шаноўнаму даследчыку і педагогу пашанцавала на таленавітую, высокаэрудзіраваную, энергічную паслядоўніцу — спадкаемцу распачатых спраў ды перспектыўных ідэй. Гэта Святлана Гуткоўская, кандыдат філалагічных навук, прафесар, якая ачольвае кафедру сёння.

Святлана Гуткоўская спрычынілася да падрыхтоўкі незвычайнага студэнцкага паказу не толькі як выкладчык мастацтва балетмайстра, але і як мастацкі кіраўнік імпрэзы. Поруч з ёю працавалі выкладчык па акцёрскім майстэрстве і пантаміме, дацэнт Міхаіл Камінскі ды музычны кіраўнік Алена Ільіна.

Вядома ж, дзе танец, дзе народны фэст, дзе сцэнічнае відовішча — там і музыка. Дык вось, удзельнікам фальклорнага вечара пашчасціла танчыць пад каларытнае і чуйнае гранне дуэта баяністаў Уладзіміра Паніча і Яўгена Арцюшкова, а таксама фальклорнага гурта "Раме" кафедры этналогіі і фальклору. У складзе гэтай элітнай суполкі — Алесь Масібут (скрыпка), Павел Ляшок (ударныя) ды яе кіраўнік Вячаслаў Калацэй (дуда). Пра яшчэ адзін прыродны складнік сінкрэтычнай народнай творчасці — спевы і дэкламацыю — дбалі самі артысты-танцоры. І студэнты паказалі, што ў БДУ культуры і мастацтваў спяваць здатныя не толькі будучыя вакалісты: кафедры харэаграфіі пашанцавала на маладыя галасы, якія ў кантэксце фальклорнай імпрэзы гучалі з арганічнай шчырасцю.

### Выклікаем на "біс"

Спецыялісты-педагогі, безумоўна, прааналізавалі ўжо навуковы і мастацкі вынік студэнцкай працы, увасобленай у дасціпнай творчай форме. Не ведаю, наколькі крытычны быў іх настаўніцкі вердыкт. Затое магу засведчыць, што непасрэдная глядацкая ацэнка строгіх педагогаў сягала вышэй за 10 балаў. Як захоплена яны пляскалі ў ладкі! А ў заключную "Кадрылю", пастаўленую Яўгенам Бягловым ды Людмілай Каранкевіч паводле фальклорнага ўзору з Навагрудчыны, спакваля, але заўзята ўлучыліся разам з гасцямі-гледачамі ўніверсітэцкія выкладчыкі дый нават рэктар.

Аднаго шкада: гэта была "ўсяго толькі" частка навучальнага працэсу, яскравую студэнцкую імпрэзу пашанцавала паглядзець зусім не многім. Паказаць бы яе шырэйшаму колу гледачоў: хай бы моладзь, "выхаваная Інтэрнэтам і масавымі тэлеканаламі", убачыла, як арыгінальна, прыкольна і прыгожа, і па-беларуску можна бавіць час.

***На здымках: сцэны з фальклорнага вечара "Каму пашанцуе, той і станцуе".***



# Дзеля яркай музычнай будучыні

**Надыход лета... Гэта заўсёды радаснае прадчуванне наступных адпачынкаў, канікулаў, прыемнага баўлення часу. Аднак для музыкантаў — гэта перыяд напружанай працы, дэманстрацыя гледачам і слухачам свайго майстэрства, вынікаў творчасці. Працягваючы мерапрыемствы па выкананні дзяржаўных праграм адраджэння і развіцця культурных традыцый, прылучэння моладзі да дасягненняў нацыянальнай музычнай культуры, па ініцыятыве Беларускага саюза музычных дзеячаў, Беларускі саюз кампазітараў, Беларуская асацыяцыя духавых аркестраў і ансамбляў, Маскоўскі Патрыярхат і Беларускі Экзархат, духоўна-асветніцкі цэнтр “Спадарожнік хрысціяніна”, сярэдняя школа №4 і дзіцячая музычная школа №19 горада Мінска пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь паспяхова правялі нядаўна Першы адкрыты рэспубліканскі фестываль-конкурс музычнага мастацтва “Спадчына”. Адначасова, у межах новага праекта, ладзіўся ІІІ Рэспубліканскі конкурс выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах імя І. Дабравольскага.**

Андрыян КАРАНЕВІЧ

Што вызначалася арганізатарамі фестывалю ў якасці яго галоўных мэт? Папулярызацыя старадаўніх і сучасных твораў беларускіх аўтараў, актывізацыя творчай дзейнасці выканаўцаў, эстэтычнае выхаванне новага пакалення навучэнцаў і развіццё іх творчых здольнасцей сродкамі музычнага мастацтва, садзейнічанне захаванню і папулярызацыі традыцый нацыянальнай культуры. У канцэртных і конкурсных праграмах фестывалю-конкурсу другога, заключнага тура ў намінацыі “Сольнае і камерна-інструментальнае выканальніцтва” ўзялі ўдзел больш як 300 выканаўцаў: вучні сярэдніх агульнаадукацыйных школ, этншкол, дзіцячых музычных школ, комплексаў “гімназія-каледж”, навучэнцы каледжаў культуры і мастацтваў ды адораныя прадстаўнікі іншых устаноў.

Вельмі ўражвае прадстаўніцтва ўдзельнікаў: 110 выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах, 34 піяністы, 33 выканаўцы на народных інструментах, 18 вакалістаў, 7 струннікаў. У намінацыі “Ансамблевае выканальніцтва” ўдзельнічала больш як 90 калектываў, у тым ліку было 10 духавых аркестраў, 60 інструментальных ансамбляў, 6 вакальных, 8 струнных і 7 фартэпіянных ансамбляў.

Аб’ектыўна ацэньвала творчасць удзельнікаў, ажыццяўляючы прытым кансультацыйна-метадычную работу, кампетэнтнае журы конкурсных і фестывальных праграм на чале з яго старшынёй Вячаславам Кузняцовым — лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесарам, загадчыкам кафедры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, сакратаром праўлення Беларускага саюза кампазітараў і членам Беларускага саюза музычных дзеячаў. Сустаршынёй журы была Людміла Шаламенцава — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар кафедры фартэпіяна БДАМ, член БСМД. У якасці сустаршыні па народных інструментах працаваў Міхась Солапаў — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар кафедры баяна — акардэона БДАМ, член праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, а намеснікам сустаршыні па духавых інструментах абралі Генадзя Забару — заслужанага артыста Беларусі, саліста Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дацэнта кафедры драўляных духавых інструментаў БДАМ.

> “Першы адкрыты рэспубліканскі фестываль-конкурс музычнага мастацтва “Спадчына” стаўся першым мерапрыемствам, зладкаваным насустрач 25-годдзю Беларускага саюза музычных дзеячаў, якое наша творчая суполка адзначыць у лютым 2012 года.

Вельмі ўражлівымі ў кантэксце гэтага свята беларускага музычнага мастацтва выглядалі творчыя дасягненні выкладчыкаў і кіраўнікоў калектываў — членаў Беларускага саюза музычных дзеячаў. Так, канцэртны духавы аркестр “Светач” Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў пад кіраўніцтвам Віктара Валатковіча і Аляксандра Фёдарава атрымаў Гран-пры фестывалю-конкурсу “Спадчына”. Паспяхова выступілі на ІІІ Рэспубліканскім конкурсе імя І. Дабравольскага квінтэт беларускіх дудак “Дудачка” і квінтэт дудак капэлы беларускіх народных духавых інструментаў “Гуды” імя Уладзіміра Грома (БДУ культуры і мастацтваў) пад кіраўніцтвам дацэнта Ігара Мангушава, якія адпаведна атрымалі Гран-пры і дыплом лаўрэата І ступені. Духавы аркестр гімназіі № 17 пад кіраўніцтвам Р. Гельманава стаў на гэтым конкурсе ўладальнікам дыплома ІІІ ступені, а ансамбль трубачоў Беларускага саюза музычных дзеячаў “Festivo” пад кіраўніцтвам прафесара Аляксандра Карацеева і духавы аркестр Магілёўскага ўпраўлення МНС Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Мікалая Каранько адзначаныя званнямі лаўрэатаў і ганараваныя Гран-пры конкурсу. З прыемнасцю дадам, што гэтыя два калектывы нядаўна чарговы раз прадэманстравалі сваё майстэрства на ІІ Міжнародным фестывалі духавой музыкі ў Баранавічах, дзе атрымалі спецыяльныя дыпломы за высокі ўзровень канцэртных праграм, а ансамбль трубачоў “Festivo” на Х Міжнародным фестывалі духавых аркестраў быў адзначаны аналагічным дыпломам.





Першы адкрыты рэспубліканскі фестываль-конкурс музычнага мастацтва “Спадчына” не толькі прадэманстраваў поспехі маладых выканаўцаў ды іх педагогаў. Ён таксама выявіў неабходнасць надаваць увагу раскрыццю талентаў не толькі ў камерна-інструментальным выканальніцтве, але ж і ў аркестравым, і ў ансамблевым музіцыраванні, прытым арыентуючы выкладчыкаў і кіраўнікоў калектываў на жанравую разнастайнасць беларускага рэпертуару.

***На здымках: квінтэт дудак капэлы беларускіх народных духавых інструментаў “Гуды” імя Уладзіміра Грома Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў; квінтэт “Дудачка”.***

# Сябруем з Балашыхай

Наталля ВАСІЛЁНАК

Надзвычай добрыя сяброўскія адносіны склаліся паміж дзіцячымі музычнымі школамі № 10 імя Яўгена Глебава горада Мінска і імя Георгія Свірыдава горада Балашыха, што ў Падмаскоўі. Традыцыйна, вясною, у Балашысе праходзяць міжнародны фестывалі-конкурсы “Славянскія сустрэчы”, у межах якіх адбываецца шмат цікавых мерапрыемстваў: выстаўкі выяўленчага мастацтва, агляды харавых і аркестравых калектываў, разнапланавых ансамбляў, канцэрты класічнай і духоўнай музыкі.

Неаднаразова бралі ўдзел у гэтым свяце калектывы нашай вядомай сталічнай школы і заўсёды вярталіся са званнямі лаўрэатаў. Вось і сёлета ансамбль “Натхненне”, якім кіруе Наталля Ручымская, бліскуча выступіў і заняў І месца ў сваёй намінацыі.

Таксама паміж дзвюма школамі ва ўрачыстай абстаноўцы была падпісана дамова наконт супрацоўніцтва, якая прадугледжвае стасункі ў галіне прафесійнага, культурна-асветніцкага і духоўнага выхавання моладзі, умацаванне міжнацыянальных адносін паміж рускім і беларускім народамі, рэалізацыю сумесных музычна-адукацыйных праграм для навучэнцаў і выкладчыкаў.



*На здымку: ансамбль “Натхненне” мінскай ДМШ № 10 імя Яўгена Глебава.*

## Нашы юбіляры



**Валянціна Міхайлаўна КРЫЛОВІЧ** — заслужаная артыстка Беларусі, салістка Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА. Тэлефоны: *(017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.*

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Вясковыя Зосі ці Геда Габлер?

**Пачынаецца лета, і хочацца ўзяцца за якую-небудзь лёгкую, яркую, цікавую тэму — напрыклад, тэму кахання альбо тэму жанчыны. Тым больш што найпрывабнае ў мастацкім творы для шматлікай колькасці сучасных чытачоў — гэта менавіта каханне і, адпаведна, унутраны свет закаханых (альбо ўжо не здольных кахаць) герояў. Магчыма, адмысловы падыход да гэтай тэмы беларускіх пісьменнікаў, адметнасць створаных імі жаночых вобразаў шмат у чым тлумачаць сённяшнюю непапулярнасць класічнай літаратуры. Аднак менавіта гэтая, шмат чым матываваная адмысловасць — вельмі цікавая з'ява…**

Хтосьці з маладых беларускіх літаратуразнаўцаў аднойчы супаставіў драматычны абразок "Антон" М. Гарэцкага з п'есай "Геда Габлер" Г. Ібсена: маўляў, у абодвух творах галоўныя героі — хваравітыя, нервовыя, надта ўражлівыя людзі. Даследчык у прынцыпе меў рацыю, але практычнае параўнанне тэкстаў найперш выразна падкрэслівае асаблівасць беларускай літаратуры ў еўрапейскім кантэксце. Самагубства з-за кахання (кульмінацыя п'есы Ібсена) — надзвычай рэдкая з'ява ў беларускай драматургіі і прозе першай паловы XX стагоддзя, яшчэ больш рэдкім можна лічыць памкненне пісьменніка засяроджвацца выключна на асабістым, інтымным жыцці героя. У тагачаснай беларускай літаратуры каханне, здрада, расчараванне, сямейныя праблемы заўсёды ідуць у звязку з сацыяльнай праблематыкай. Так, каханне Алены Гарошкі да Янкі Здольніка ("Тутэйшыя" Янкі Купалы) — вынік дзявочай апантанасці ідэаламі свайго настаўніка; адкрытае нежаданне Зосі ўзяць шлюб з нялюбым хлопцам ("Сокі цаліны" Ц. Гартнага) — пратэст супраць вясковых традыцый, праява росту самасвядомасці асобы.

Практычна немагчымая для беларускай літаратуры і гераіня кшталту Геды Габлер — выкшталцоная жанчына, якая жыве ў раскошы, цалкам засяроджваецца на сваёй незадаволенасці мужам і жорстка выпрабоўвае былога каханка. Мэта Ібсена — звярнуць увагу на духоўную пустэчу ў душы чалавека з мяшчанскага асяроддзя, які не мае сур'ёзных жыццёвых цяжкасцей і пакутуе ад надуманых праблем. Беларуская жанчына пачатку XX стагоддзя — амаль на сто працэнтаў сялянка (у тагачасных гарадах і мястэчках беларусы складалі каля 11 працэнтаў насельніцтва) — не мела магчымасці жыць толькі асабістымі праблемамі ці нейкімі абстрактнымі супярэчнасцямі, не магла прысвячаць шмат увагі свайму туалету, дый побытавыя дэталі, праз якія можна раскрыць унутраны свет гераіні, былі зусім іншага кшталту.

Разам з тым, канец XIX — пачатак XX стагоддзя — час, калі жанчыны заходняга, урбанізаванага свету пачалі вельмі вострa ўсведамляць сваю падпарадкаванасць мужчынам і актыўна змагацца за ўласныя правы. Сітуацыя ў Беларусі была іншай, і справа не толькі ў тым, што галоўнай праблемай тагачаснай беларускі была праблема выжывання. У аграрным грамадстве існуе традыцыйны падзел працы на "мужчынскую" і "жаночую", таму жанчына адказвае не толькі за хатнюю гаспадарку і выхаванне дзяцей, але і прымае ўдзел у розных відах сельскагаспадарчых прац, займаецца вырабам тканіны і адзення, прадуктаў харчавання, прызначаных для гандлю. У беларускай літаратуры жанчына — гэта не распешчаная прыгажуня, у якой безліч вольнага часу, а працавітая сялянка альбо прадстаўніца іншых тыпова жаночых прафесій — настаўніца, сакратар, доктар. Пісьменнік абавязкова пазначае прафесійную прыналежнасць гераіні, нават калі не засяроджваецца на ейнай працоўнай дзейнасці. Знамянальна, што "Сокі цаліны" — першы беларускі раман XX стагоддзя — распачынаецца з'яўленнем Зосі, якая вядзе каня з пашы і атрымоўвае даручэнне назаўтра зябліць папар. Для вясковай сям'і, у якой няма дарослых сыноў, лічылася натуральным, што дзяўчына выконвае "мужчынскую" працу. Жанчына, якая працуе, — норма як для беларускага грамадства, так і для беларускай літаратуры, норма, усталяваная і савецкай уладай.

Цудоўна было б, калі б тыповая вясковая дзяўчына выклікала абсалютнае захапленне сваёй увішнасцю, гаспадарлівасцю і практычнасцю ў герояў тагачасных раманаў ды ў саміх пісьменнікаў. Аднак прэтэнзіі беларускіх мужчын былі крыху большымі. Камуніст Рыгор Нявычны, якога кахае згаданая Зося, фактычна згаджаецца з заўвагай сябра пра тое, што дзяўчына з мястэчка будзе яму лепшай парай, чым сялянка; Юзік з "Мядзведзічаў" К. Крапівы захапляецца вясковай камсамолкай Шурай, бо ў яе ёсць тое, чаго не хапае ягонай жонцы (таксама Зосі), — бойкасць, сацыяльная свядомасць, мэтанакіраванасць і "палітычная падкаванасць". Сымон у "Салаўі" З. Бядулі губляецца пры сустрэчы з каханай (трэцяй Зосяй), уражаны непрывабнасцю ейнага — звычайнага вясковага — жытла. Лявон Задума з аповесці М. Гарэцкага "У чым яго крыўда?" доўга параўноўвае яўрэйскіх дзяўчат і маладых шляхцянак, зрэшты пачынае сябраваць з вясковай Лёксачкай, якая, "дурненькая, баялася, што ён вучоны, а яна простая…", і рэзка расчароўваецца ў каханай, калі атрымлівае ад яе ліст з банальнымі штампамі кшталту "цалуем вас няшчотна раз" альбо "рука мая пісала, не ведала — каму, а сэрцайка сказала, што міламу свайму". Ідэал згаданых герояў — Алена Гарошка, патрыятычная Іра з аповесці М. Гарэцкага "Дзве душы" ці, прыкладам, рамантычная Вера Засуліч з рамана М. Зарэцкага "Вязьмо".

> *Беларуская жанчына пачатку XX стагоддзя — амаль на сто працэнтаў сялянка (у тагачасных гарадах і мястэчках беларусы складалі каля 11 працэнтаў насельніцтва) — не мела магчымасці жыць толькі асабістымі праблемамі ці нейкімі абстрактнымі супярэчнасцямі, не магла прысвячаць шмат увагі свайму туалету, дый побытавыя дэталі, праз якія можна раскрыць унутраны свет гераіні, былі зусім іншага кшталту.*

Гераіні М. Зарэцкага значна вылучаюцца сваёй складанасцю і рамантычнасцю ў шэрагу жаночых вобразаў, створаных беларускімі пісьменнікамі. М. Зарэцкаму належыць літаральна адзіная сур'ёзная спроба стварыць гераіню кшталту Геды Габлер ці Настассі Філіпаўны з "Ідыёта" Ф. Дастаеўскага. У рамане "Сцежкі-дарожкі" сустракаем ракавую паненку Раісу, "дзівосную, да святасці грэшную багіню бязмежна-смелых агнёвых уцех", якая таксама скончвае жыццё самагубствам — разам з каханым выпівае атруту. Дзеля Раісы галоўны герой Лясніцкі пакідае былую каханку — вясковую яўрэйку Макрыну, але хутка аддае перавагу рэвалюцыянерцы Ніне.

Раман Зарэцкага — адзін з нешматлікіх твораў 20—30-х гадоў, дзе асабістыя стасункі не толькі раскрываюць галоўных герояў з сацыяльнага боку, але і цікавяць самога аўтара. Вабная, таямнічая панна Людміла з трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" — яшчэ адзін цень Геды Габлер у беларускай літаратуры; іншы вобраз такога кшталту — экзальтаваная мяшчанка Любачка ў драматычным абразку "Гапон і Любачка" М. Гарэцкага. Надламанасць, трагедыйнасць гэтай гераіні не выклікае асаблівага спачування ані ў яе жаніха, ані ў самога аўтара. Станоўчая гераіня тагачаснай літаратуры — гэта ўсё ж такі жанчына з рацыянальным, здаровым мысленнем, якая мае актыўную грамадзянскую пазіцыю.

Атрымліваецца, што намінальна жаночыя персанажы беларускай прозы вельмі разнастайныя, але далёка не ўсе яны распрацаваныя сапраўды глыбока. Лічыцца, што героі іншага полу рэдка атрымліваюцца ў пісьменнікаў моцнымі, а літаратурная сітуацыя ў Беларусі ў 20—30-я гады адметная тым, што творчы асяродак быў амаль цалкам мужчынскім, — вядома, калі не браць у разлік Наталлю Арсенневу і Ларысу Геніюш (яе першы зборнік "Ад родных ніў" выйшаў толькі ў 1942 г.), а таксама пачынаючых паэтак. Трэба адзначыць, што гераіні беларускай прозы — нават тыя ж вясковыя Зосі — гэта звычайна не мяккія пакорлівыя Канапляначкі з рамана "Людзі на балоце", а дзяўчаты, здольныя даць адпор і адстойваць сваю пазіцыю. Праўда, нягледзячы на тое, што ў вясковай сям'і жанчына — аўтарытэтны дарадца ў гаспадарчых справах, стэрэатып мужчынскага дамінавання ўсё адно існаваў: ведае мужык, "што сам вінават, а паддацца бабе не хоча. Як гэта, каб яе верх быў?"

Побач з сем'ямі, дзе ўладу мае мужчына, у беларускай літаратуры хапае і прыкладаў сем'яў, дзе галоўную ролю адыгрывае кабета. Так, у аповесці "Лявон Бушмар" К. Чорнага Галена ўплывае на свайго звераватага, панурага мужа найперш праз жаночыя хітрыкі, праз незалежнасць паводзін. Але найбольш каларытнае ў гэтым сэнсе апавяданне Лукаша Калюгі "Іллюк-даследчык", дзе таўсмужная Альжа збівае мужа "на горкі яблык" і нават зводзіць у дамавіну хваравітага юнака, які ні пра што трапляе кабеце пад гарачую руку.

Беларускія пісьменнікі не аналізавалі грунтоўна праблему сямейнага гвалту, але цікава, што для жанчыны вырашэнне асабістых праблем часцяком звязваецца з новай савецкай сістэмай: кінута жонкі Лявона Бушмара дружна жывуць у калгасе, раман "Мядзведзічы" сканчваецца ўрачыстым пісаннем удавой Агатай заявы на ўступленне ў партыю, былая жонка Карызны ("Сцежкі-дарожкі") пачынае новае жыццё як грамадская працаўніца: "Марына Паўлаўна праз цэлы дзень жыла ў ружовым чадзе новага адчування. Яна нібы памаладзела адразу на дзесятак год — у яе ў галаве мітусіліся такія смелыя і такія пекныя лятункі…". Камсамол, калгас, партыя — дзівосная, феерычная перспектыва для вясковай жанчыны. Праўда, беларускія пісьменнікі не спяшаліся расфарбоўваць яе ўсімі колерамі вясёлкі.

Пры стварэнні станоўчых жаночых вобразаў, пры распрацоўцы сюжэтаў беларускія пісьменнікі, безумоўна, кіраваліся ўласнымі ідэаламі, уяўленнямі пра тое, што карысна і добра для новага грамадства. Разам з тым, вызначальную ролю адыгрывала традыцыйнае народнае стаўленне да жанчыны, якое часам абсалютна аўтаматычна выяўлялася ў мастацкіх творах першай паловы XX стагоддзя.

## Universum



# Сакрэты нашай ментальнасці

Віка ТРЭНАС

*Нельга не пагадзіцца з тым сцвярджэннем, што мы жывём ва ўрбаністычную эпоху. Для таго, каб зарыентавацца ў вялікім горадзе, неабходна мець падрабязную карту і вялікае жаданне адшукаць патрэбны геаграфічны аб'ект. Таксама варта памятаць пра дасведчаных мінакоў, у якіх можна папытаць дарогу, бо, як вядома, язык да Кіева давядзе. Шчыра кажучы, калі да мяне на вуліцах звяртаюцца: "Прасціце, не падскажаце, как можна прайці?..", я, канечне, заўсёды падказваю. Але задумваюся пра тое, што хацела б падарыць землякам компас, які прывёў бы іх да аўтэнтыкі, да каранёў, да роднай мовы. У пошуку нацыянальнай ідэнтычнасці варта спершага зазірнуць у глыбіні стагоддзяў, а лепей нават тысячагоддзяў. У самасвядомасці беларусаў адмысловым чынам перапляліся старажытныя веды продкаў, язычніцкія і хрысціянскія вераванні. Наша традыцыйная культура неверагодна багатая і разнастайная. Паглядзеўшы на свет вачыма нашых мудрых прадзедаў, мы зможам многае зразумець у нас саміх цяперашніх. Нам у дапамогу — дзве кнігі, каштоўнасць якіх цяжка пераацаніць.*

## Таямніцы сакральнага ландшафту

Навукова-папулярнае выданне "Сакральная геаграфія Беларусі", што пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва", у даступнай для шырокіх чытацкіх колаў форме распавядае пра тое, у чым палягае сутнасць нашай карціны свету. Аўтары кнігі Людміла Дучыц і Ірына Клімковіч разам са сваімі калегамі і паплечнікамі з этна-гістарычнага цэнтра "Явар" больш як дзесяць гадоў вандруюць па Беларусі. Напэўна, няма той сакральнай мясціны, дзе б не пабывалі даследчыкі. Святыя горы, азёры і рэкі, крыніцы, балоты, камяні, дрэвы… Шматлікія легенды і паданні, старадаўнія вераванні і забабоны на старонках "Сакральнай геаграфіі Беларусі" карпатліва занатаваныя, а даўнія веды, назапашаныя нашым народам, сабраныя і сістэматызаваныя пад адной вокладкай. Ці ведаеце вы, што "гарадзішчы і горы насыпалі волаты, у стварэнні азёраў і рэк бралі ўдзел звяры і птушкі, а камяні і дрэвы — гэта ператвораныя ў іх людзі"? А што вобраз дарогі надзвычай часта сустракаецца ў беларускім фальклоры? Асабліва скрыжаванні і рostaні ўспрымаліся як небяспечнае і падазронае месца, як зона на мяжы з іншасветам, дзе маглі збірацца розныя нячысцікі і чараўнікі. Зрэшты, на дарожных прасцягах, згодна з паданнямі, можна было сустрэць Бога ці святога ў выглядзе вандроўнага старца. Не забывайцеся пра гэта, збіраючыся ў шлях. А лепей — вазьміце з сабой кнігу "Сакральная геаграфія Беларусі", яна стане вашым пуцяводзіцелем па міфа-паэтычнай карціне свету.

## Скарбы міфалогіі беларусаў

Энцыклапедычны слоўнік "Міфалогія беларусаў" (складальнікі Ірына Клімковіч, Віктар Аўтушка, навуковыя рэдактары Тацяна Валодзіна, Сяргей Санько) — фундаментальнае выданне, у якім дастаткова поўна апісаная традыцыйная культурная спадчына беларусаў. Да яго падрыхтоўкі спрычыніліся болей як трыццаць навукоўцаў, што стварылі каля тысячы артыкулаў. Першы варыянт "Слоўніка" выйшаў у 2004 годзе (перавыдадзены ў 2006-м), сёлета кніга істотна абноўленая і дапоўненая.

# Іван Ласкоў: пісьменнік двух народаў

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**Ад нараджэння ён, праўда, і не Іванам Ласковым быў. Меў прозвішча не Ласкоў, а Ласкавы. Бо Ласкавым быў ягоны бацька. Па нацыянальнасці ўкраінец, ён у 1933 годзе перабраўся ў Гомель: уцёк з роднай яму Пастаўшчыны, ратуючыся ад голаду. У Гомелі пазнаёміўся з маладой тэлеграфісткай. Неўзабаве яны ажаніліся. Ды нядоўгім было сямейнае шчасце: 19 чэрвеня 1941 года ў іх нарадзіўся сын, якога назвалі Іванам, а літаральна праз некалькі дзён малады бацька пайшоў на фронт, дзе ў хуткім часе прапаў без вестак.**

Юліі Апанасаўне давялося адной выхоўваць сына, які быў настолькі адораным, што яго, трохгадовага хлапчука, ведалі ва ўсім наваколлі. Ужо тое, што Ваня Ласкоў у такім раннім узросце навучыўся чытаць, успрымалася як штосьці неверагоднае. Тым больш што чытаў ён Біблію — на царкоўнаславянскай мове.

Сярэднюю школу закончыў з залатым медалём. Без асаблівых праблем паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Праўда, на хімічны факультэт, хоць яшчэ школьнікам друкаваўся ў газеце "Чырвоная змена". Але будучага хіміка І. Ласкова літаратура, паэзія не адпускалі ад сябе. У гады студэнцтва ён з'яўляўся членам літаратурнага аб'яднання пры "Чырвонай змене", якое ўзначальваў паэт Іван Калеснік. І, канечне ж, пісаў не толькі вершы, але і прозу.

У 1966 годзе, адпрацаваўшы два неабходныя па размеркаванні гады, паступіў у Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве на аддзяленне перакладу. Сякія-такія набыткі ў гэтым кірунку ён ужо меў. Пісаў на двух мовах — рускай і беларускай. Некаторыя свае творы сам і перакладаў. Між іншым, і ў далейшым паспяхова карыстаўся ў сваёй творчасці гэтымі дзвюма мовамі. Тым не менш з гадамі ўсё больш усведамляў сябе менавіта беларусам.

Аднак канчаткова з рускай мовай пісьменнік усё ж не развітаўся. Вызначальным было тое, што пасля заканчэння Літаратурнага інстытута ён пераехаў на сталае жыхарства ў горад Якуцк. Не мог не паехаць, бо з тых краёў была родам ягоная жонка, якуцкая пісьменніца Валянціна Гаўрыльева. Пра-



цаваў у аддзеле пісем, загадваў аддзелам рабочай моладзі газеты "Молодежь Якутии", быў рэдактарам аддзела масава-палітычнай літаратуры Якуцкага кніжнага выдавецтва, старшым літаратурным рэдактарам часопіса "Полярная звезда".

Самы значны паэтычны твор Ласкова — паэма "Хромец" — спачатку была напісана па-руску. Аўтар праз некаторы час пераклаў яе і на беларускую мову, прычым знайшоў вельмі дакладны эквівалент назве. Сярэднеазіяцкі эмір і палкаводзец Тамерлан, які праславіўся сваёй надзвычайнай жорсткасцю, праходзіць не як кульгавы, а як Кульга. Пра мастацкія вартасці гэтага твора яскрава сведчыць ужо тое, што пасля паэмы ў 1975 годзе па-руску (беларускамоўны варыянт пабачыў свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" праз дзесяць гадоў), яна аказалася ў цэнтры гаворкі на адным з пленумаў праўлення Саюза пісьменнікаў РСФСР.

У паэме "Кульга" раскрыліся эпічныя якасці ягонага таленту. І. Ласкоў здолеў расказаць пра ўсіх тамерланаў — вялікіх і малых дыктатараў, якія на працягу стагоддзяў пралівалі людскую кроў, прагнучы панавання над усім светам.

Найбольш значныя свае празаічныя творы І. Ласкоў перакладаў ужо з беларускай мовы на рускую. Гэта датычыць і апавяданняў, што ўвайшлі ў ягоную кнігу "Чароўны камень", і "маленькай аповесці" "Андрэй-Эндэрэй — справядлівы чалавек, або Беларус на полюсе холаду". Увогуле, творчасць І. Ласкова — вельмі шматгранная. Ён яшчэ быў і нарысістам, эсэістам, публіцыстам. Дый гісторыкам-даследчыкам — таксама. Вызначальнымі сталі роздумы пра паходжанне беларускага народа. Шляхам прыцягнення шматлікіх крыніц, у выніку супастаўлення самых розных, часам супярэчлівых звестак, ён паступова прыйшоў да высновы, што Літва не была балцкім племем, а карані ў беларусаў угра-фінскія. Пра гэта пісаў у сваіх даследаваннях "З маўклівых прадонняў", "Жамойцкі тупік", "Дагістарычныя блуканні: літва і жамойці", "Нашчадкі таямнічае Літвы". Асобныя з гэтых матэрыялаў былі апублікаваны ў "ЛіМе".

Іван Ласкоў вельмі любіў Якуцію, але значна больш любіў Беларусь:

*На сэрца леглі белай ночы дзівы,*
*Люблю тваю*
*(Якуціі — **А. М.**) бясконцую зару,*
*Але прабач — усё адно радзімай,*
*Хай і другой, цябе не назаву.*

*Дару табе душу сваю і слова,*
*Працуючы з відна і да відна,*
*Але не станеш мне радзімай новай:*
*Яна, як маці, ў кожнага адна...*

(верш "***Дамок, лядок і вербалоз у скрусе…")

У Ласкова хапала нядобразычліўцаў. Асабліва шмат іх стала пасля таго, як пісьменнік расказаў у друку пра тое, як адзін з класікаў якуцкай літаратуры ў гады сталінізму пісаў на сваіх калег даносы. Пасля гэтага з'явіліся ўжо і непрыхаваныя пагрозы. У сувязі з апошнім загадкавай успрымаецца смерць Івана Ласкова: пайшоў у тайгу і не вярнуўся. Адбылося гэта 28 чэрвеня 1994 года.

Творчасць І. Ласкова вартая ўдзячнай памяці і якутаў, і беларусаў. Можна сказаць і наадварот, але ад гэтага сутнасць не зменіцца. Ён быў і застанецца пісьменнікам абодвух народаў. Самабытным пісьменнікам.

# Ліст Івана Ласкова

**Пачынаючы збіраць матэрыялы пра паходжанне назваў рэк і азёр Пастаўшчыны, я паслаў ліст у далёкую Якуцію і атрымаў адказ. Якая сувязь паміж назвамі Рэспублікі Саха і нашымі гідронімамі? Ды самая непасрэдная: там тады жыў Іван Ласкоў, беларускі пісьменнік і публіцыст, артыкулы якога ўзрушылі балотны традыцыяналізм поглядаў на фарміраванне сучасных беларускіх назваў і зрабілі ў тапаніміцы Беларусі тое ж, што і працы М. Ермаловіча ў разуменні старажытных гістарычных працэсаў. Прапаную ўвазе чытачоў ліст Івана Ласкова які датычыць ягоных поглядаў на тапаніміку Беларусі і Пастаўшчыны.**

**Ігар ПРАКАПОВІЧ**

Шаноўны Ігар Міхайлавіч!

Шчыры дзякуй Вам за добрыя словы пра мае артыкулы, у прыватнасці, "Племя пяці родаў" і "Адкуль пайшла беларуская мова". Дзеля гэтай працы я зусім адарваўся ад асноўнай — вершаў і прозы, таму прыемна, што гэта не марна, што мае публікацыі чытаюцца і прымаюцца да душы нашай інтэлігенцыяй.

Свае тапанімічныя пошукі я пачаў з таго, што параўнаў гідранімію Беларусі і поўначы (Комі, Урал, Перадуралле). Пра гэта Вы павінны памятаць з "Племя пяці родаў". Гэтая сувязь адкрылася для мяне выпадкова. Але потым я пачаў яе шукаць мэтанакіравана, падбіраючы для гэтага спецыяльную літаратуру. Знаёмства з ёю прывяло да думкі, што гідранімія Беларусі, асабліва што тычыцца рачных назваў, — фіна-вугорская <…>

Так магло атрымацца толькі з таго, што ў старажытнасці фіна-вугорскія плямёны жылі перамешана, празпалосна. Гэта былі плямёны паляўнічыя, якія займаліся таксама сельскай гаспадаркай. Насельніцтва ўсёй Усходне-Еўрапейскай раўніны было рэдкае. Плямёны качавалі па ёй, як хацелася, у пошуках новых паляўнічых угоддзяў. Між сабой жылі мірна, не варагавалі.

Качаванне спынілася тады, калі асноўным заняткам стала земляробства. Да гэтага часу практычна ўся тэрыторыя сучаснай Расіі, Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі была заселена перамешанымі фіна-вугорскімі плямёнамі.

Геаграфічныя назовы, зразумела, даваліся і раней. Але калі племя пераходзіла на новае месца, усе яны без следу зніклі, бо новыя насельнікі, прыходзячы на тое самае месца, давалі свае <…>

Сёння на гідранімію Беларусі існуюць два супрацьлеглыя погляды. Адзін — яго прытрымліваецца цэлая школа А. Трубачова і У. Тапарова — што яна працэнтаў на 90 — 95 балтыйская, рэштка — славянская, іранская, грэцкая. Другі — погляд Вашага настаўніка В. Жучкевіча: што яна пераважна славянская, а на памежжы з Літвой і Латвіяй балтыйская. У Жучкевіча таксама ёсць прыхільнікі.

У тых і другіх логіка, здавалася б, маецца. Калі на Беларусі жывуць славяне, а суседзі іх — балты, дык якія яшчэ могуць быць назовы, апрача славянскіх і балцкіх. Але як тыя і другія даходзяць да канкрэтнага аналізу, так і пачынаюць "правальвацца".

У кнізе У. Тапарова і А. Трубачова "Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Приднепровья" "лінгвістычны аналіз" часцяком зводзіцца і да таго, што назоў *Свислочь* абвяшчаецца балцкім толькі таму, што… канчаецца на "ь", г. зн. мяккі знак (!). Болей абсурднага і не прыдумаеш. А Жучкевіч, напрыклад, назоў Няміга выводзіць ад "не мигать": маўляў, на Нямізе варта стаяла. Не буду тут тлумачыць Свіслач (бо прыйдзецца ці не старонку пісаць), а з Нямігай усё проста: па-эстонску "неем" — "каса"-(рачная), "йыгі" — "рака". "Неем-йыгі" — "рака з косамі".

Мабыць, Вы ўжо адчулі, да чаго я хілю: для вывучэння гідраніміі Беларусі трэба ў першую чаргу звяртацца да фіна-вугорскіх моваў, фіна-вугорскіх тэрмінаў, якія звычайна стаяць напрыканцы гідроніма. Пры гэтым не вылучаць нейкую адну мову (дапусцім, комі-пярмяцкую), а карыстацца па магчымасці ўсімі. Я разумею, што, жывучы ў раённым мястэчку, не так проста прыдбаць патрэбную літаратуру. Але іншага шляху няма.

Цяпер пра тыя канкрэтныя назовы, на якіх Вы "спатыкнуліся". Яны і для мяне складаныя. Рэч у тым, што ўсе яны азёрныя (Швакшты, Споры, Свір, Думбля, Глодава, Лодасі, Трумнічы). А азёрныя назовы — лакальныя. Яны могуць быць названымі ў вузкім дыялекце, словам, якое бытуе толькі ў ваколіцах возера. Я ж магу выказаць толькі погляд "з боку", чыста тэарэтычны.

Швакшты Жучкевіч тлумачыць ад літоўскага "švakstas", што азначае "чорная грэзь". Але ў літоўскіх слоўніках я такога слова не знайшоў, таму яно пад сумненнем. Можна прапанаваць іншае тлумачэнне.

Па-комі "ты" — "возера". Напрыклад, у Комі Рэспубліцы азёры: Карсты, Косты і інш. У нас на Беларусі зыход "ты" таксама не рэдкасць: Дрывяты, Чарты, Дрысвяты. Гэта, па-мойму, вельмі важкі аргумент на карысць таго, што на Беларусі жылі пермскія гаворкі. Сапраўды, ці магла ў славянскай мове ўтварыцца назва возера ў множным ліку? Не павінна! А адкуль жа тыя Дрывяты, Дрысвяты? Ад пермскага "ты". Уплывам гэтага "ты", я думаю, тлумачыцца і множны лік такіх назоваў, як Споры, Лодасі, Трумнічы (мабыць, тут пачаткова таксама было "ты").

Аснова ж назову "Швакшты" можа быць і не пермскай. Суфікс "-кш" — марыйска-мардоўскі. Па-макшанску "шава" — "блюда"(посуд). Такая вобразная назва возеру адпавядае. Такім чынам, "шава-кш-ты". Зразумела, гэта адно з магчымых тлумачэнняў.

У Споры мне чуецца пермскі гідранімічны тэрмін "ор" — "рэчышча". Асновай жа магло быць комі "соп" — "жоўць". Адсюль пачатковая назва "сор-ор-ты". Перайсці ў сучасную



Іван Ласкоў (злева) у Якуціі.

форму яна магла пад націскам слова "спор".

Свір. У Ленінградскай вобласці ёсць рака з такой назвай, таму фіна-вугорскае паходжанне не выклікае сумневу. В. Жучкевіч недарэчна тлумачыць назву возера праз прозвішча. Але хто калі зваў азёры ў гонар нейкага чалавека? Вось вёскі — іншая справа, вёскі часцей за ўсё завуцца па імёнах, прозвішчах, мянушках.

Вы маеце рацыю: тлумачыць Свір праз фінскае "syva" нявартa, бо ад сыва-ярве перайсьці да Свір немагчыма. Я думаю, у Свір прысутнічае комі "йир" — "вір". Асновай жа тут можа быць комі "сов" — "соль" або хутчэй "сыв" — "сала, тлушч". "Сыв-йир" — Свір, "тлустае возера" у сэнсе багатае. Якуты раку Вілюй завуць "сальны Вілюй".

Думбля. Тут комі суфікс "ля" (прыметнікавы). "Думб" — гэта, падобна, дуб у мясцовым варыянце. Аснова перакладзеная з фіна-вугорскай гаворкі.

Глодава. Тут, мне здаецца, таксама пераклад. Глод — магчыма, па-мясцоваму "голад" (параўнайце з польскім). "Галоднае возера" — пустое, небагатае. "Ва" напрыканцы — пермскае "вада".

Лодасі — у аснове можа быць комі "вад" — "лясное возера". У пермскіх гаворках "в" можа пераходзіць у "л". Тое сама і на Беларусі: вапна — лапна, вымя — лымя. Аднак тут яшчэ трэба шукаць і думаць.

Трумнічы — відавочна, таксама пераклад. Заход "-іч" — фіна-вугорскі, як у Нар-ач, аснова "трумн-" — "труна"(параўнайце з польскім "трумна"). Сэнс назвы ў тым, што каля возера былі могілкі або нейкая прыкметная магіла. Такія назвы ў фіна-вугорскай традыцыі.

Пра назовы вёсак на "-уна". Можа, варта пашукаць іх тлумачэнне ў літоўскай мове? Суфікс "-ун-" маецца ў літоўскай мове. Хаця і самі маем: буркун, гарбун і г.д. Таму ў першую чаргу трэба звяртаць увагу на націск: калі ён падае на "у", то назвы, мусіць, літоўскія, калі ж на "ы", то нашы.

Супадзенні тапонімаў Пастаўскага і Воранаўскага раёнаў павінны сведчыць, што іх насяляюць нашчадкі блізкароднасных плямёнаў.

…Астатнія назвы з дасланых Вамі літоўскіх аналагаў не агледжваюць. І гэта вельмі паказальна: згодна з школай Тапарова-Трубачова, яны ж усе павінны быць літоўскімі.

…З пажаданнем поспехаў ва ўсіх Вашых захапленьнях.

**Іван Ласкоў.**
**8 мая 1992 года.**

Уладзімір РЫНКЕВІЧ,
прафесар БДУ
культуры і мастацтваў,
фота аўтара

# Навуковы падмурак пленэраў

**На сённяшні дзень мы можам з задавальненнем канстатаваць, што ў культурным жыцці нашай краіны значную колькасць мастацкіх акцый складаюць пленэры, прысвечаныя дзеячам нацыянальнай культуры мінулых стагоддзяў. Назапашаны значны вопыт беларускай "пленэрыяды", які яшчэ чакае свайго даследчыка. Цяпер жа размова пойдзе пра актуальныя пытанні ладкавання мастацкіх актаў такога роду. Матэрыял для размовы дае вопыт правядзення мастацка-публіцыстычных праектаў апошніх гадоў, прысвечаных беларускім мастакам XIX ст., да арганізацыі якіх меў непасрэднае дачыненне аўтар артыкула. Гэта — "Успамін пра Дабраўляны", прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Казіміра Бахматовіча (Смаргонь, 2008), "Нашчадкі Міхала Падалінскага" (Орша, 2009) і "Ян Лапацінскі" (Шаркаўшчына, 2010).**

Звонку гэтыя мастацкія акцыі падобны да пленэраў, што праводзяцца ў рэспубліцы штогод. Мастакі выязджалі ў знакамітыя гістарычныя мясціны, дзе пісалі эцюды, на вечарынах вялі палкія размовы пра лёс мастацтва, па заканчэнні пленэру ладзілі мастацкія паказы. Але былі адрозненні і па сутнасці. Усё гэта — комплексныя мастацка-публіцыстычныя праекты, кожны з якіх уключаў некалькі ўзаемазвязаных мастацкіх акцый.

Узгаданыя прозвішчы мастакоў XIX ст. да ажыццяўлення праектаў былі вядомы толькі вузкаму колу даследчыкаў і гісторыкаў мастацтва. Ні мастакі-ўдзельнікі, ні раённыя ўлады, мясцовыя дзеячы культуры і адукацыі пра іх не ведалі. Імёны нашых некалі знакамітых землякоў трэба было наноў вяртаць на айчынную культурную глебу. Памятаю, якое пачуццё ўсхваляванасці і гонару ахапіла прадстаўнікоў інтэлігенцыі Оршы, калі яны пачулі, што менавіта іх зямляк Міхал Падалінскі быў піянерам беларускай "вучонай" (прафесійнай) графікі, пэўны час кіраваў гравюрным кабінетам у Віленскім універсітэце. З якім здзіўленнем жыхары вёскі Дабраўляны Смаргонскага раёна на выстаўцы ля рэштак маёнтка графа Гюнтэра даведаліся пра тое, што тут нарадзіўся, працаваў і завяршыў свой зямны шлях мастак Казімір Бахматовіч — адзін з першых беларускіх літографаў, рысавальшчык-мініяцюрыст. Некаторыя жыхары Шаркаўшчыны ўжо ведалі пра мясцовых магнатаў роду Лапацінскіх, але тое, што староста Мсціслаўскі Ян Нікодэм Лапацінскі быў заўзятым калекцыянерам (у ягонай галерэі былі карціны Рубенса, Чаховіча, Нарбута) і сам займаўся гравюрай па медзі, было нечаканым нават для самых "прадзвінутых" мясцовых краязнаўцаў. У маленькіх гарадах і пасёлках, дзе такога роду мерапрыемствы праходзілі ўпершыню, пленэр адыграў значную ролю не толькі ў культурна-інфармацыйным забеспячэнні патрэб насельніцтва, але і ў вызначэнні арыенціраў развіцця прафесійнай і непрафесійнай мастацкай творчасці на раёнах.

Актуальнасць гэтых праектаў вызначыла само жыццё. Зварот да тэмы беларускай культурнай спадчыны ў галіне выяўленчага мастацтва з'явіўся своечасовым, запатрабаваным і сугучным з нядаўна зацверджанай Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь Дзяржаўнай праграмай "Культура Беларусі" на 2011 — 2015 гады. Аб'яднаўшы мастацкія, асветніцкія і прапагандысцкія сродкі, гэтыя праекты былі падпарадкаваны ідэі вяртання ў Беларусь, захавання і папулярызацыі нематэрыяльнай нацыянальнай культурнай спадчыны. Шмат яшчэ давядзецца зрабіць даследчыкам, публіцыстам, мастакам, каб у народзе ведалі творцаў беларускага паходжання мінулых стагоддзяў і тых, хто пэўны час працаваў у нашым краі і зрабіў значны ўнёсак у айчынную культуру. Бо сёння ў навуковай і папулярнай замежнай літаратуры пра нашых землякоў часта гавораць як пра "муляроў з крэсаў усходніх польскіх" або мастакоў заходняга абшару Расійскай імперыі, называючы іх "палякамі", "рускімі" ці "літоўцамі", але не "беларусамі-ліцвінамі".



Вядома, што жыццядольнасць праектаў закладваецца на этапе іх падрыхтоўкі: у вызначэнні канцэпцыі, задач, структуры мерапрыемстваў, этапаў выканання, сродкаў рэалізацыі, прагназаванні вынікаў. У нашым выпадку падрыхтоўка дакументаў адбывалася ў працэсе перамоў з кіраўнікамі ўстаноў-заснавальнікаў праекта і арганізацый, якія забяспечвалі іх падтрымку. А заснавальнікі і асноўныя фундатары — раённыя выканаўчыя камітэты. Менавіта яны ў першую чаргу зацікаўлены ў такіх праектах, бо вострa адчуваюць патрэбу развіцця культурнага, ідэалагічна-выхаваўчага кірунку на мясцовым нацыянальна-гістарычным матэрыяле. На самадзейным узроўні такі пласт не падняць. Патрэбны кваліфікаваныя навуковыя работнікі і высокапрафесійныя мастакі. Таму кіраўніцтва райвыканкамаў вітала ініцыятыву правядзення праектаў і пры ўсіх аб'ектыўных эканамічных праблемах мясцовых бюджэтаў знаходзіла магчымасці іх ажыццяўлення.

Заўсёды знаходзяцца людзі ў адміністрацыйным апараце, якім выпадае ўзвальваць на сябе цяжар немалых арганізацыйных клопатаў. Як тое з адказнасцю і энтузіязмам выконвалі Г. Флікоп (на той час дырэктар СДК у Смаргонскім раёне), І. Воранава (дырэктар Аршанскага гісторыка-культурнага комплексу), І. Шынкевіч (начальнік аддзела культуры Шаркаўшчынскага райвыканкама). Без устанаўлення даверлівых адносін паміж людзьмі ніякая справа не робіцца. Таму ў наладжванні кантактаў між заснавальнікамі і выканаўцамі праектаў дапамагалі мастакі, якія мелі добрыя стасункі з мясцовым кіраўніцтвам. Без такіх мастакоў, як Мікалай Таранда, Віктар Крук, якія выконвалі абавязкі старастаў пленэраў, наўрад ці згаданыя праекты маглі б мець поспех.

Значная роля ў правядзенні запланаваных мерапрыемстваў адводзілася дзяржаўным установам і грамадскім аб'яднанням. У першую чаргу адзначым Беларускі саюз мастакоў, адзін з асноўных кірункаў дзейнасці якога — папулярызацыя нацыянальнага мастацтва. Кіраўніцтва творчага саюза ўдзельнічае ў фарміраванні складу мастакоў-пленэрыстаў, прадстаўляе экспазіцыйную плошчу сталічнага Палаца мастацтва і забяспечвае рэкламу ў правядзенні заключнай выстаўкі. Так, на самай вялікай выставачнай пляцоўцы краіны мерапрыемствы раённага маштабу набываюць размах рэспубліканскіх акцый: адбываецца акт вяртання ў сучасную культурна-інфармацыйную прастору імёнаў беларускіх мастакоў. Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў таксама традыцыйна аказвае падтрымку праектам, забяспечваючы навуковае рэцэнзаванне матэрыялаў і рэдактарска-выдавецкую работу па вытворчасці кнігі і буклета, які фіксуе гэтую падзею ў гісторыі.

У складзе пленэрнай групы некалькі месцаў рэзервуецца для творчай моладзі — студэнтаў апошніх курсаў мастацкіх ВНУ. У такіх "творчых акадэміях" не толькі здзяйсняецца прынцып пераемнасці пакаленняў: моладзь набывае прафесійны вопыт работы, вучыцца мысліць маштабна, па-дзяржаўнаму, што сугучна словам старшыні БСМ У. Савіча: "Я хацеў бы, каб нашы мастакі размаўлялі мовай роднай зямлі..." Пуцёўкай у вялікае мастацтва можна лічыць граматы БСМ за паспяховыя вынікі ў творчай рабоце, якімі былі ўзнагароджаны А. Вырва, Р. Коршунаў (Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў), С. Саявец, В. Шчэрба (БДУ культуры і мастацтваў) і інш.

Перадачу мастакамі-ўдзельнікамі пленэру твораў у дар мясцовым установам культуры можна разглядаць як аснову для стварэння або папаўнення фонду мастацкіх галерэй у раёнах. Гэтая акцыя з'яўляецца канкрэтным крокам на шляху пераадолення дыспрапорцыі магчымасцей спажывання здабыткаў нацыянальнай культуры гарадскім і сельскім насельніцтвам.

Творчай працы мастакоў заўсёды папярэднічала вялікая даследчая мастацтвазнаўчая работа. Без навуковага падмурка праекты з самымі высакароднымі задумамі застануцца на ўзроўні банальнага пісання эцюдаў на стан прыроды з элементамі рэштак нейкай архітэктуры. Вывучэнне літаратурных крыніц, збіранне эмпірычнага матэрыялу ў музейных фондах Польшчы, Літвы, Расіі, яго апрабацыя на навуковых канферэнцыях і ў артыкулах перыядычнага друку заняла ў аўтара больш як дзесяць год. Праведзенае навуковае даследаванне цяпер матэрыялізуецца ў асобных навуковых выданнях. У дадатак кнігі ўключаецца гістарычны матэрыял мясцовых краязнаўцаў. Напрыклад, у кнізе "Ян Лапацінскі" змешчаны матэрыял пра род Лапацінскіх герба "Любіч" В. Ляскоўскага з Шаркаўшчыны. Пэўную дапамогу ў набыцці якаснага ілюстрацыйнага матэрыялу па дамоўленасці з культурна-адукацыйнымі ўстановамі мы атрымліваем з Польшчы. Дызайнерскую распрацоўку выданняў робіць Вячаслаў Паўлавец — чалавек, неабыякавы да ідэі адраджэння нацыянальнай культуры. З распаўсюджваннем гэтага выдання сярод галаўных бібліятэк і спецыяльных адукацыйных устаноў мастацкага профілю пачынаецца другое жыццё спадчыны мастака: яе далейшае вывучэнне, выкарыстанне ў навуковай і культурна-адукацыйнай сферах.

Размова не была б шчырай, калі не сказаць пра нявырашаныя праблемы. Цяпер праекты ажыццяўляюцца ў асноўным за кошт раённых бюджэтаў, спонсарскай дапамогі і сяброўскай працы асобных спецыялістаў на грамадскіх пачатках. Але вяртанне спадчыны ў выглядзе алічбаваных здымкаў мастацкіх твораў і дакументальных матэрыялаў у Беларусь, таксама як і выданне кніг, стварэнне сацыяльна значных карцін, гравюр гістарычнага зместу для музейных экспазіцый — справа, якая патрабуе дзяржаўнага падыходу для стварэння дасканалай даследчай і творчай матэрыяльна-тэхнічнай базы.

Цяпер у працэсе ажыццяўлення знаходзіцца праект, прысвечаны мастаку Артуру Бартэльсу (яго пленэрная частка запланавана на кастрычнік 2011 года ў Лагойску). На стадыі распрацоўкі — праект 2012-га, прысвечаны 180-годдзю з дня нараджэння Альфрэда Ромера (Паставы). А на чарзе яшчэ пяўтара-два дзясяткі імёнаў, якія чакаюць свайго часу ўваскрашэння ў сучаснай культурнай прасторы Беларусі. Праекты перш за ўсё важны як рэальная дзейнасць па ўмацаванні нацыянальнай самасвядомасці для саміх беларусаў, але разам з тым яны могуць стаць сродкам пазіцыяніравання стаўлення нашай краіны да сваёй культурнай спадчыны перад суседнімі дзяржавамі.

*На здымку: мастакі на пленэры.*

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Гучанне ў колеры



**Падчас XVI Свята мастацтваў "Музы Нясвіжа-2011" у мясцовым цэнтры культуры і адпачынку адбылося адкрыццё выстаўкі мінскага мастака і педагога Уладзіміра Клімушкі "Трансскрыпцыі".**

Транскрыпцыя (па-лацінску: trans — "праз", "перад" і scriptio — "пісьмо", "пісанне", літ. — "перапісванне") — сістэма пісьма або знакавая сістэма, якая прызначана перадаваць (запісваць) сваімі сродкамі іншую сістэму пісьма ці знакавую сістэму. У фанетычнай транскрыпцыі кожная літара павінна азначаць гук, які нязменны ў розных спалучэннях. Аднак не кожная літара штодзённасці вымаўляецца і мае гучанне ў колеры. Колеры робяць нябачнае бачным, але ад гэтага незразумелае не заўсёды становіцца ўцямным. Неабходна знайсці адпаведнасць не ў знешнім падабенстве, а ва ўнутранай сутнасці праўды, сувымернай цяперашнім выклікам часу. На бясконцым шляху спасціжэння найвышэйшай стаіць мастацкі вобраз як максімальнае імкненне наблізіцца да ісціны. Усё сутнаснае, сапраўднае, істотнае ўбірае ў сябе вобраз. І ў нараджэнні яго заўсёды захоўваецца таямніца. Мастацтва павінна канцэнтраваць рэчаіснасць, перакладаючы, перапісваючы цяперашняе на мову вечнасці. Транскрыпцыя перадае сістэму знакаў штодзённасці на мову жывапісных канатацый, спадзяванняў, мар, дзе галоўнае не тое, хто мы ёсць, а тое, кім мы хочам быць.

На вернісажы Уладзімір Клімушка падкрэсліў, што распавядаць пра змест экспазіцыі няма сэнсу, бо вобразы яго работ настолькі абагульненыя, што ствараюць неабмежаваную прастору для ўяўлення гледача. Аднак у кожнай абстрактнай выяве схаваныя глыбокія ўражанні яго ўласнага дзяцінства, якія ніколі не пакідаюць чалавека, толькі раз-пораз нагадваюць пра сябе. У 1980 годзе ён разам з братам адкрыў для сябе неверагодны свет Нясвіжскага замка з яговаламі, магутнымі сценамі, вежамі, мудрагелістымі пераходамі. Цяпер, калі малюе нейкую абстракцыю, разумее, што па сутнасці пішацца вобраз замкавай вежы, брамы, бо дзіцячыя ўражанні не знікаюць са свядомасці, суправаджаюць нас і ў творчасці.

*На здымку: У. Клімушка "Лабірынт".*



**Палац мастацтва прэзентаваў персанальную выстаўку жывапісу славацкага творцы Андрэя Смолака.
Ён закончыў сярэднюю мастацкую школу ў Сніне, вучыўся на філасофскім факультэце ўніверсітэта Паўла Ёзафа Шафарыка ў Прэшаве па спецыяльнасці "Выяўленчае мастацтва і руская мова".
Па заканчэнні пераехаў у Браціславу і прысвяціў сябе дзейнасці мастацкай прапаганды.
Пасля атрымаў спецыяльную адукацыю ў Акадэміі выяўленчых мастацтваў у Празе ў прафесара Вацлава Паспішылы; з'яўляецца членам Славацкага мастацкага грамадства.
Ён — уладальнік шматлікіх прэмій і ўзнагарод.
Галерэя Andrej Smolák адкрылася ў Сніне ў 1993 годзе як філіял берлінскай галерэі МІРО.
У якасці заснавальніка ён стаў яе першым дырэктарам і прадаўжае ім быць да сённяшняга дня.
Яго карціны знаходзяцца ў галерэях і прыватных калекцыях у шматлікіх еўрапейскіх краінах, а таксама ў ЗША, Японіі, Аўстраліі.**

**Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара**

# Кожны малюе свой экватар

Прадстаўленыя работы мастака прасякнутыя эратызмам. Яны як бы замглёныя, тумановыя, з ужываннем прыёму сфумата. Кампазіцыйна дакладныя, прадуманыя, з ледзь улоўнымі каларыстычнымі нюансамі. Большасць карцін вымагае пільнага разгляду і "даследавання", каб вылучыць далікатныя, экспрэсіўныя абрысы жаночых фігур, твараў: "Праўды мы ніколі не даведаемся", "Танец вакханак", "Акрыленая", "Ноч мілосьнікаў", "Пакуты і раскоша", "Месяцовая ноч", "Калі квітнеюць ружы", "Сем грахоў", "Згадка пра маладосць", "Жарсць", "Лёс", "Астральны сон", "Сон Леанарда"...

Андрэй Смолак вядомы шматлікімі сваімі праектамі: заснаваў у Сніне штогадовы Міжнародны мастацкі фестываль, Прыватную пачатковую школу мастацтваў. У 1998-м у сувязі з 665-гадовым юбілеем першага ўзгадвання пра Сніну ён ініцыіраваў стварэнне "Самай доўгай карціны ў свеце" даўжынёй 650 метраў і вышынёй у метр, над якой на працягу двух тыдняў працавалі 830 мастакоў, палітычных і грамадскіх дзеячаў. Цяпер у Сніне рыхтуюць архітэктурную канцэпцыю Галерэі адной карціны, дзе гэта палатно і будзе прадстаўлена. Займаўся рэалізацыяй праекта "Намалюй свайго матылька", мэтай якога было несці свету разуменне і цярпенне. Дзесяць год таму распрацаваў праект па заснаванні Галерэі манументаў, які павінен знаходзіцца на сутыку трох дзяржаў: Славакіі, Польшчы і Украіны. У Новай Седліцы, дзе калісьці былі вуллі вядомага пчаляра Зофіі Мацяшоўскай, акадэмічны скульптар з Браціславы Марэк Жытнян усталяваў алегарычны манумент "Мядовая баба". Цяпер вядуцца работы над стварэннем манумента Мірыям Гамбурд з Ізраіля "Крылы надзеі", якому наканавана стаць сімвалам вяртання: ён паўстане пад воданапорнай вежай Старына. Таксама распрацоўваюцца скульптуры Цібара Бартфая "Дзяўчына з нагамі качкі" паводле мясцовай легенды пра прыгожую, але жорсткую землеўладальніцу. На ўзвышшы пад Настасам размесціцца скульптура Дзіда Бескіда, заступніка леснікоў і сялян, які разумеў мову жывёл і птушак. Яе выкуюць кавалі ў майстэрні Рамана Шломскага з Гарадка пры Львове па праекце жывапісца Рамана Апалінскага. Большая частка з запланаваных кампазіцый паўстане адлюстраваннем багацця народнай творчасці і гісторыі краю пад Бескідам.

Увагу наведвальнікаў прыцягнула не толькі персанальная выстаўка Андрэя Смолака, а і яго новы міжнародны праект "Маляваны экватар". "Душа свету жыве чалавечым шчасцем. Але і няшчасцем, зайздрасцю і рэўнасцю. Напаўняць сваю Асаблівую гісторыю — адзіны абавязак чалавека. Усё адзіна. А калі жадаеш чаго-небудзь, увесь Свет аб'ядноўваецца, каб ты дамогся гэтага", — менавіта з гэтай цытаты з кнігі Паула Каэльа "Алхімік" узнікла ідэя дадзенага праекта. Людзі, якія хочуць выказаць блізкасць да якой-небудзь



ідэі, удзельнічаць у маніфестацыях або пратэставаць за што-небудзь ці супраць чаго-небудзь, часцяком ствараюць ланцужок з чалавечых рук. Трымаючыся за рукі, запаўняюць цэлыя вуліцы, плошчы, гарады. Так бы мовіць, ланцужок праекта з чалавечых рук складзе 40 075 кіламетраў — менавіта такая працягласць экватара.

Ідэя "Маляванага экватара" палягае ў стварэнні сімвалічнага ланцужка з чалавечых рук вакол усяго зямнога шара, яна павінна будзе выклікаць пазітыўнае мысленне і садзейнічаць, тым чынам, стварэнню сусветнай грамадскай свядомасці, пазітыву і дружбы паміж народамі.

Як паведаміў першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, праект аб'ядноўвае людзей розных нацыянальнасцей і прафесій з кожнай краіны свету. Гэта не толькі мастакі, але і кіраўнікі краін і гарадоў, каралі, прынцы, артысты, пісьменнікі, оперныя зоркі, музыканты, палітыкі, навукоўцы, касманаўты, лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, спартсмены, святары... Яны намалююць 40 075 твораў памерам 20 на 20 сантыметраў, кожны з якіх сімвалізуе адзін кіламетр экватара. Тэма твораў — любая, але заснаваная на пазітыве ды стваральнасці. Ужо сабрана тысяча карцін. Сярод аўтараў — Прэзідэнт Славацкай Рэспублікі Іван Гашпаровіч, Пасол Славацкай Рэспублікі ў нашай краіне Марыян Серватка, сусветна вядомы хакеіст Петэр Бондра...

Афіцыйныя паслы праекта ў Беларусі — Уладзімір Савіч, Рыгор Сітніца, Сяржук Цімохаў ды Ілона Касабука. Усё пачалося менавіта з Ілоны Касабукі. Два гады таму яна была ў Славакіі на пленэры, потым пазнаёміла нашых творцаў з Андрэем Смолакам. Дзякуючы ёй завязаліся кантакты, і "Маляваны экватар" запачаткаваўся ў Беларусі.

У нас будуць маляваць акрамя мастакоў міністр культуры нашай краіны Павел Латушка, мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі Юрый Гільдзюк, народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг… Мяркуецца прыцягваць да гэтага праекта іншых афіцыйных асоб, дзеячаў культуры і мастацтва.

На выстаўцы А. Смолака работы прадставілі пяцьдзясят айчынных аўтараў, якія прынялі ўдзел у праекце "Маляваны экватар": Ілона Касабука, Рыгор Сітніца, Георгій Паплаўскі, Алесь Суша, Гаўрыла Вашчанка, Васіль Касцючэнка, Сяржук Цімохаў, Віктар Нямцоў, Уладзімір Вішнеўскі, Святлана Каткова, Фёдар Ястраб, Зоя Луцэвіч, Сямён Дамарад, Зоя Літвінава, Валерый Славук, Уладзімір Кожух і іншыя. На жаль, не паспела выстаўка адкрыцца, як твору Уладзіміра Савіча "Прырабілі ногі". Але Андрэй Смолак прывёз з сабою чатыры скрыні гатовых палотнаў, так што засталося толькі намаляваць.



Праект разлічаны прыкладна на пяць гадоў. Таксама ў планах праектаванне і ўзвядзенне новай галерэі — адзінай свайго роду ў свеце. Праўда, месца для яе яшчэ не вызначана: яна можа быць пабудавана ў Славакіі або ў якой-небудзь іншай краіне, каля будынка штаб-кватэры ААН ці каля Еўрапейскага Парламента.

***На здымках: работы Рыгора Сітніцы і Ілоны Касабукі; Андрэй Смолак "Пакуты і раскоша".***



## Рыцар прыгожай кнігі

Абарваўся зямны шлях мастака Мікалая Казлова... Мінулым летам адзначалі яго 65-годдзе. Гэтай вясной віншавалі з чарговай і, як заўсёды, непаўторнай выстаўкай станковых работ, што ладзілася ў сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Радаваліся кожнаму яго візіту ў нашу ўстанову. Чакалі ў хуткім часе выхаду новых беларускіх кніг з ілюстрацыямі, створанымі таленавітым сямейным дуэтам — Мікалаем Казловым і Наталляй Суставай... Ды журботная навіна густым чорным ценем легла на светлыя ўражанні і чаканні, засланіла яскравую, казачна-фантазійную палітру творчасці мастака.

Сёння мы смуткуем. Успамінаем. І ведаем, што ніколі не перастанем захапляцца яго творчасцю, якая застанецца вечна жывой мастацкай спадчынай. Застанецца ў многіх зборах і фондах — выкананымі ў арыгінальнай аўтарскай тэхніцы графічнымі серыямі "Старыя цацкі", "Парад", "Фантазус"... Застанецца малюнкамі ў шматлікіх кнігах: двухтоміку казак народаў Еўропы, "Беларускіх народных казках", "Трох казках" Э. Т. А. Гофмана, "Рабінзоне Круза" Д. Дэфо, "Прыгодах Алісы ў краіне цудаў" Л. Кэрала, вершаваных зборніках А. Хаяма, А. Разанава, кнігах А. Клышкі, Г. Аўласенкі...

Выпускнік Маскоўскага паліграфічнага інстытута, Мікалай Казлоў, які працаваў пераважна ў кніжнай графіцы (у тым ліку на пасадзе галоўнага мастака выдавецтва "Юнацтва" і падчас нядаўняга супрацоўніцтва з нашай РВУ), аформіў і праілюстраваў каля дзвюх соцень выданняў! Яго работы неаднаразова экспанаваліся на міжнародных выстаўках за мяжой, адзначаліся дыпломамі ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў "Мастацтва кнігі".

Пайшоў з жыцця яркі творца, сумленны і дапытлівы прафесіянал, працаўнік, сапраўдны рыцар вытанчанага кніжнага мастацтва. Смуткуем разам з роднымі, блізкімі, калегамі, прыхільнікамі творчасці Мікалая Рамнавіча — з усімі, хто гэтымі днямі перажывае незаменную страту шчырага сябра, цудоўнага чалавека і мастака.

**Супрацоўнікі РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара



**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры наладзіў персанальную выстаўку вышыванак Святланы Дубялір "Гульня фантазіі". Дырэктар музея Лідзія Макарэвіч адзначыла, што яны ўпершыню адкрылі для сябе Святлану Аркадзьеўну як мастачку. Тут праходзілі розныя па тэматыцы выстаўкі, але гэта ўсіх скарыла сваёй прыгажосцю і незвычайнасцю. Работы цалкам аўтарскія — ад ідэі, малюнка алоўкам і да ўвасаблення ў колеры. Яны выкананыя шоўкам у тэхніцы гладдзю, гарманічныя, цікавыя, сапраўдныя творы мастацтва.**



# Фантазійныя гульні душы

Святлана Дубялір нарадзілася ў 1941 годзе ў Віцебску ў сям'і вядомага беларускага драматурга Аркадзя Маўзона, які ў свой час стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР за фільм "Канстанцін Заслонаў". Ён жа быў аўтарам аднайменнай п'есы, якая ставілася на падмостках розных тэатраў. Своеасаблівая сувязь пакаленняў у таленце. Святлана Аркадзьеўна скончыла курс кіраўнікоў драматычных калектываў мастацкай самадзейнасці пры Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Працавала ў Дзяржаўным тэатры лялек, у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва", затым, з 1967 года (з дня заснавання) па 2001-ы, — у газеце "Вечерний Минск", член Беларускага саюза журналістаў.

На выстаўцы знітаваліся два лёсы, злучыліся дзве асобы — Святланы Дубялір і яе бацькі Аркадзя Маўзона. Яна і яе сястра Марына ўпершыню прадставілі для дэманстравання наведвальнікам побач з экспазіцыяй вышыванак матэрыялы з архіва свайго бацькі.

Старшыня грамадска-культурнага аб'яднання "Вышывальшчыца" Алена Бакаева заначыла, што ёй замест назвы "Гульня фантазіі" прасілася назва "Фантазія душы". Бо ў кожную работу ўкладзена душа гэтага цудоўнага майстра. Вышыўка бывае рознай: можна адразу купіць набор са схемамі і падабранымі адпаведнымі ніткамі. Зусім іншае — калі ў галаве нараджаецца сюжэт, які потым увасабляецца на тканіне, важны і падбор нітак, прычым толькі шаўковых, а гэта цяжкі ў рабоце матэрыял. Творы выкананыя ў асноўным на чорнай тканіне, на якой вельмі складана вышываць. Святлана Аркадзьеўна брала ўдзел у сумесных гарадскіх і рэспубліканскіх выстаўках аб'яднання "Вышывальшчыца", а на персанальнай яна цалкам раскрылася як аўтар, мастак і чалавек.

Сястра майстрыхі Марына Аркадзьеўна, былая супрацоўніца выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", падкрэсліла, што Святлана пачала займацца вышыўкай адносна нядаўна — 12 гадоў таму. Гэты крэатыўны дар вельмі доўга спеліўся ў ёй і вось нарэшце раскрыўся напоўніцу. За гэты перыяд створана каля 70 сапраўдных мастацкіх твораў.



Некаторыя з іх знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Беларусі, Расіі, Канадзе, ЗША. Гэта ўжо чацвёртая па ліку персанальная выстаўка. Упершыню аўтар выстаўлялася ў 2002 годзе ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, потым — у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна і ў бібліятэцы імя Н. К. Крупскай. Так што дадзеная персанальная экспазіцыя — сапраўдны падарунак да яе юбілею.

Мастацтвазнаўца, дырэктар галерэі "Славутыя майстры" Алена Спірыдонава выказала меркаванне, што з дзяцінства мы ўсе таленавітыя, ідзём угору, наверх, потым гэты рух прытармажваецца, становіцца роўным і, на жаль, па прыступках сыходзіць уніз. У Святланы Аркадзьеўны, без перабольшвання, няма прыступак уніз. Адкрыць у сабе нешта ў такім узросце, калі многім ужо не хочацца нічога адкрываць, каштуе многага. Гэта сведчанне не толькі вялікага мастацтва, але і вялікай працаздольнасці ды працавітасці, для якіх патрэбны фантазія і палёт душы.

У сваю чаргу Святлана Дубялір падзякавала ўсім прысутным за цёплыя словы. Яна з задавальненнем прадстаўляе тое, што робіць у вольны час, а яго ў пенсіянера хапае. Вырашыла паспрабаваць займацца вышыўкай, і — атрымалася. Святлана Аркадзьеўна параіла не баяцца ісці на пенсію, бо ў гэты час насамрэч пачынаецца новае жыццё. Тое жыццё, да якога раней чалавек толькі імкнуўся, жадаў. Галоўнае — знайсці сабе цікавы занятак, тое, што прыносіць задавальненне.

Святлана Аркадзьеўна — чалавек творчы, цікавіцца мастацтвам, захапляецца маляваннем. Творам аўтара, выкананым па ўласных эскізах, уласцівыя арыгінальнасць мыслення, самабытнасць, рамантыка, пачуццё гумару і самаіронія.

***На здымках: Святлана Дубялір і яе работы "Калос і грацыі" ды "Калядная казка".***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Афарызм

*У веліч душы ніхто не мае магчымасці запусціць лапы.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Сям'я — як малая царква

Фестываль "Сям'я. Яднанне. Айчына" ладзіцца ў нашай краіне з 2007 года дзякуючы Праваслаўнай Царкве. У правядзенні гэтых мерапрыемстваў важная роля належыць Выдавецтву Беларускага Экзархата. "Сям'я, — гаворыць распарадчы дырэктар гэтага выдавецтва Уладзімір Грозаў, — свайго роду малая царква. Значэнне сям'і асабліва ўзрастае сёння, калі мы маем складаную дэмаграфічную сітуацыю".

Якой жа павінна быць яна, сучасная сям'я? Пра гэта ішла гаворка на сустрэчы, што адбылася ў Баранавіцкай музычнай школе. Былі закрануты і іншыя пытанні. Перад прысутнымі выступілі супрацоўнік аддзела па пытаннях новых рэлігійных рухаў Мінскага епархіяльнага ўпраўлення Варвара Іванова, Веранікa Сярдзюк з Цэнтра падтрымкі сям'і і мацярынства "Матуля", яна ж аўтар кнігі "Непраздные рассказы", аўтар і вядучы праграмы "Благовест" тэлеканала "Лад" Арцём Махакееў, вядомы пісьменнік Алесь Марціновіч.

Дэманстраваўся фільм, што так і называецца — "Сям'я. Яднанне. Айчына". Размова суправаджалася паказам слайдаў. А. Марціновіч, у прыватнасці, расказаў пра найбольш цікавыя выданні, якія апошнім часам пабачылі свет у Выдавецтве Беларускага Экзархата і рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва" і напоўнены той высокай духоўнасцю, без якой немагчыма фарміраванне сапраўднай сям'і.

**Юрась ШУМСКІ,**
**г. Баранавічы**

# Тэатр аднаго акцёра

Новай гранню творчасці ўразіў лунінецкіх ліцэістаў вядомы пісьменнік, сцэнарыст, бард Сяргей Трахімёнак. На мінулай сустрэчы, якая адбылася восенню, ён паабяцаў, што абавязкова яшчэ раз завітае ў госці. Пры ўсёй сваёй занятасці выкладчык Інстытута нацыянальнай бяспекі, доктар юрыдычных навук, прафесар стрымаў дадзенае слова. Сяргей Аляксандравіч паказаў урыўкі з монаспектакля "Развітанне з дваранствам", прэм'ера якога адбылася ў Мінскім тэатры-студыі кінаакцёра.

Паказ адбываўся ў атмасферы ўзаемнай шчырасці, уважлівасці, даверлівасці.

Расказваючы пра стварэнне п'есы, у аснове якой паэмы "Граф Нулін" А. Пушкіна і "Бывайце, дваране!" М. Шыпілава, С. Трахімёнак патлумачыў, што гэтыя творы напісаны ў падобнай іранічнай манеры, хоць і апісваюць падзеі розных стагоддзяў — пачатку XIX і канца XX. Яны даюць здзіўляльны эфект рознасці, па чым і пабудаваны сцэнарый.

Спектакль прысвечаны, дарэчы, сябру — Мікалаю Шыпілаву. Натуральна, ліцэісты не маглі не спытаць, што для С. Трахімёнка значыць дружба. "Калі падыходзіць з пазіцыі вызначэння, дружба растворыцца, як туман пад промнямі сонца-разума, — паспрабаваў растлумачыць аўтар. — Сябраваў з Мікалаем Шыпілавым, не спрабуючы зразумець, што такое дружба, і тым больш даць ёй вызначэнне".

Вучні і выкладчыкі ліцэя, калі дзякавалі Сяргею Аляксандравічу за прыезд, выказвалі спадзяванні на новыя сустрэчы.

**Ганна КУРАК,**
**г. Лунінец**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 3015
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк
16.06.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2845
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12